ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

10 - 16 ЛІПЕНЯ 1993г № 28 (3698)

# «МЫ ЯШЧЭ СУСТРЭНЕМСЯ...»

## ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА ПЕРШАГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

Цяпер, пасля заканчэння работы Першага з'езда беларусаў свету, — а праграма яго мерапрыемстваў расцягнулася амаль на першы ліпеньскі тыдзень, — здаецца, становіцца зразумелым галоўны *недахоп* гэтага форуму, а іменна: і падчас пасяджэнняў у Дзяржаўным тэатры оперы і балета, і асабліва падчас сустрэч і імпрэз па Мінску, па рэспубліцы, — склалася ўражанне, што усё-такі з'езд быў скліканы ў першую чаргу *для дыяспары,* для замежжа, а не для самой, унутранай, так бы мовіць, Беларусі. Увага і клопат пра замежных дэлегатаў і гасцей З'езда відавочна дамінавалі, кідаліся ў вочы нават у кулуарах паміж рабочымі пасяджэннямі і на «круглых сталах». Становіцца зразумелым, што доўгая няпэўнасць з афіцыйнай назвай з'езда не была выпадковай: назва *Сусветны* з'езд беларусаў, напэўна, сведчыла б пра іншыя, больш глабальныя, можна нават сказаць — агульнанацыянальныя — функцыі форуму...

Першы наш З'езд і рухаўся наперад, імкнучыся пераадолець той ад пачатку зададзены «дыяспарны» характар і набываючы якасць агульнанацыянальнага збору, сходу, сустрэчы /у нейкім сэнсе З'езд аднаўляе традыцыю Усебеларускіх кангрэсаў 1917 і 1944 гадоў; нават колькаснае прадстаўніцтва трох форумаў блізкае — каля тысячы дэлегатаў/. Пад ракурсам пазначанай антытэзы і можна асэнсоўваць З'езд.

З аднаго боку, Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» не з'яўляецца дзяржаўнай арганізацыяй і ўяўляе сабой самую што ні ёсць грамадскую арганізацыю, грамадзянскую суполку, на чале якой стаяць не дзяржаўныя служачыя, а прыватныя асобы. З другога боку, прадстаўнікі беларускіх культурных суполак свету, заснавальнікі і сябры ЗБС «Бацькаўшчына», прымалі на З'ездзе далёка не прыватнага характару рэзалюцыі і звароты да беларускага народа, урада і парламента. Тым самым *упершыню ў незалежнай краіне заяўлена пазіцыя нацыянальнай грамадскасці* — вышняга ўзроўню грамадзянскай супольнасці краіны. І ў гэтым, на мой погляд, галоўнае дасягненне Першага з'езда беларусаў свету і яго галоўны сэнс. Несумненная заслуга арганізатараў форуму, — тут мы мусім добрым словам узгадаць: практычную работу Старшыні Рады ЗБС «Бацькаўшчына» Я. Лецкі — у тым, што яны здолелі наладзіць кантакты і паразуменне з дыяспарай, сабраць яе прадстаўнікоў на З'езд. Колькі б мы не зважалі на «аб'ектыўную гатоўнасць нацыі» да згуртавання, усё-такі З'езд паказаў, наколькі істотнай з'яўляецца *суб'ектыўная* дзейнасць па згуртаванні нацыі. Гістарычныя няўдачы беларусаў можна вытлумачыць якраз непаслядоўнасцю такой суб'ектыўнай дзейнасці раней, нязладжанасцю суб'ектыўнага чынніку. І вось сілы знайшліся, абрад яднання адбыўся!

Але нельга не сказаць пра другі — дзяржаўны — аспект З'езда і дзейнасці ЗБС «Бацькаўшчына» ўвогуле.



Іменна гэты аспект дзейнасці «Бацькаўшчыны», як мы памятаем, падпадаў пад крытыку нацыянальна-дэмакратычных сіл, у першую чаргу — Беларускага народнага фронту, — за быццам бы «палітычнае згодніцтва» і нават «хаўрус» з пракамуністычнымі сіламі і антынацыянальным урадам. Варта нагадаць, што менавіта пад эгідай З'езда ў Менск з'ехаліся і прымалі рашэнні ад імя сусветнай беларускай супольнасці ў тым ліку і сябры-прыхільнікі БНФ з усяго свету, і яшчэ невядома, якую частку дэлегатаў яны складалі... Апроч таго, у тым і унікальнасць форуму, што так ці інакш ён стаўся кампрамісам паміж нацыянальна-грамадзянскай беларускай супольнасцю і дзяржавай /Рэспублікай Беларусь/, мастком паміж народам і ўладай. Рэальнае дзяржаўнае будаўніцтва адбываецца *сёння,* цяпер і зараз, і сутнасць яго ў кампрамісах, дакладней,

(Працяг на стар. 2)



*На здымках: гары, купальскі агонь; кульмінацыя свята ў Навагрудку — каранацыя Міндоўга; у час работы З'езда; сустрэча міністра культуры Беларусі Я. ВАЙТОВІЧА з дэлегатамі З'езда.*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА, У. ПАНАДЫ і БЕЛІНФАРМА*





# «МЫ ЯШЧЭ СУСТРЭНЕМСЯ...»

*(Пачатак на стар. 1)*

кампрамісах, дакладней, майстэрстве кампрамісаў паміж грамадскасцю і дзяржавай. Нягледзячы на тое, што дзяржава выдаткавала на правядзенне З'езда немалыя сродкі і тэхніку, дэлегаты памяталі, дзеля чаго яны сабраліся і КАГО прадстаўляюць ПЕРАД ДЗЯРЖАВАЙ. У зваротах да беларускага народа, да ўрада і парламента З'езд прынцыпова выказаўся за правядзенне новых выбараў у Вярхоўны Савет, павагу да меркавання больш за 400 тыс. грамадзян наконт правядзення рэферэндуму ў рэспубліцы, рыначнае рэфармаванне эканомікі, адбудову культуры... адстаўку, між іншым, міністра абароны П. Казлоўскага, бяз'ядзерны статус рэспублікі, вяртанне сталіцы назвы Менск і інш. /Гэта толькі некаторыя палажэнні прынятых З'ездам дакументаў; больш дакладнае ўяўленне пра іх можна будзе скласці з друку/. Характар прынятых дакументаў, падкрэслю, занадта *не згоднiцкi*, каб не павінншаваць кіруючыя органы форуму і дэлегатаў за прынцыповасць і праяўленую волю ў выказванні самастойнай пазіцыі.

Асобна можна сказаць некалькі слоў наконт «палітызацыі» З'езда. Напярэдадні, як вядома, БНФ выбраў тактыку «фестывалізацыі» Першага з'езда беларусаў, абмежаваўся — прынамсі, фармальна — пазіцыяй ганаровага назіральніка за падзеяй, не ўтойваючы свайго іранічна-паблажлівага стаўлення да яе... У часе З'езда БНФ сваю тактыку змяніў, пэўным чынам упісаўся ў мерапрыемствы форуму, наладзіў сустрэчу з дэлегатамі ў штаб-кватэры ў Менску /падрабязней чытай у справаздачы П. Васілеўскага. — **Ю. З.**/. Магчыма, гэта якраз і найлепшы варыянт для такой падзеі, калі ніводная палітычная сіла адкрыта не змагаецца за пераважанне на ёй, за дамінацыю свайго ўплыву. Занадта маральная аснова ў такога форуму, каб разыгрываць на ім тыя ці іншыя палітычныя карты... Але, уяўляецца, з цягам часу, у перспектыве, напэўна, выявіцца і палітычная эфектыўнасць З'езда, яго грамадска-палітычная патэнцыя.

А сёння можна канстатаваць, што Першы з'езд беларусаў свету самім фактам свайго правядзення як бы падрахаваў, падсумаваў развіццё нацыянальнай супольнасці за апошнія пяць гадоў. У дакладзе ад сусветнай беларускай супольнасці «Нацыянальная ідэя і адбудова беларускай дзяржаўнасці», які зачытаў віцэ-прэзідэнт АН Беларусі акадэмік Р. Гарэцкі — цяпер прэзідэнт ЗБС «Бацькаўшчына», — знайшлі замацаванне асноўныя формулы беларускай думкі гэтага пяцігадовага рубяжа: нацыянальная самастойнасць, дзяржаўная незалежнасць, культурнае адраджэнне. Мабыць, не выпадае крытыкаваць аўтараў даклада за некаторую яго спрошчанасць, афарыстычнасць выкладу, — гэта ў такім выпадку, мабыць, непазбежна. Падрахаваўшы найноўшы беларускі час, З'езд пакідае спрошчаныя формулы і ўяўленні ў мінулым, вызваляючы мысліцельную прастору для новай, больш складанай, больш творчай працы. Новае віно — у новыя мяхі.

...Калі каго не хапала на З'ездзе, дык гэта саміх беларусаў — з Рэспублікі Беларусь! Гасцям з замежжа хапіла і ўвагі, і выгод, і плённага адпачынку. А што — тутэйшы люд? Падзея, убачаная па тэлевізары, — не падзея... Падзея — гэта саўдзел, гэта — асабістая прысутнасць, гэта наша чалавечая сустрэча. Айцец У. Мiсiюк з Беласточчыны, выступаючы перад З'ездам, так і акрэсліў яго галоўны, на думку святара, плён, — плён гэты — у рэальнай сустрэчы беларусаў, у самім факце адбыцця гэтай падзеі. Гэты факт сам па сабе будзе найбольш уплываць на акружаючае жыццё.

«Мы яшчэ сустрэнемся з вамі...», — такімі словамі з песні Данчыка можна было б закончыць гэтыя развагі пасля падзеі; гэтыя словы, напэўна, падышлі б і да закрыцця самога З'езда. Наперадзе — новыя сустрэчы, і, пажадана, каб сюды, у Мінск-Менск, у **сваю сталіцу**, Бацькаўшчына збірала як мага болей сваіх верных дзяцей.

**Юрась ЗАЛОСКА**

**P. S.** Наступны з'езд беларусаў свету вырашана склікаць праз 4 гады. Магчыма, тэрмін і задоўгі, занадта доўгі ад першай сустрэчы... Ды будзем мець на ўвазе, што Яго Вялікасць Час, калі трэба, зробіць свае карэктывы ў перыядычнасць усебеларускіх сустрэч.

І апошняе. Новым старшынёй Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» абрана спадарыня Ганна Сурмач, дырэктар Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Беларусі. Сапраўды ж — хто лепш за жанчыну зможа апекавацца дзецьмі адной сям'і? Пажадаем Ганне Іванаўне ўдачы ў справе яднання беларускай сям'і добрых сіл.

Прэзентацыі

# БОГ ТРОІЦУ ЛЮБІЦЬ...

***Беларусы ў ЗША... Яшчэ некалькі гадоў пра іх мы ведалі зусім мала, бо калі якія-небудзь звесткі і траплялі ў друк, дык яны насілі павярхоўны характар. Калі і згадваліся некаторыя прозвішчы, дык чайцей — у адмоўным плане. Цяпер становішча змянілася.***

Але, будзем справядлівымі, найчасцей гаворыцца ў друку пра людзей творчых прафесій — пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў. Беларуская ж дыяспара ў Амерыцы на самай справе куды большая і мае даўнюю гісторыю.

Якую? Пра гэта можна даведацца з кнігі Вітаўта Кіпеля, якая так і называецца «Беларусы ў ЗША» і выпушчана выдавецтвам «Беларусь» пад эгідай Беларускага інстытута навукі і мастацтва /Нью-Йорк/ і Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францішка Скарыны /Мінск/. Прэзентацыя гэтага каштоўнага выдання, якое ў многім мае энцыклапедычны характар, адбылася ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выхад кнігі дырэктар выдавецтва «Беларусь» М. Кавалеўскі назваў з'явай неардынарнай і выказаў упэўненасць, што яна будзе ў многім садзейнічаць далейшаму яднанню нас з беларусамі замежжа. На думку міністра інфармацыі А. Бутэвіча, сёння на Беларусі назіраецца сапраўдны росквіт цікавасці да гісторыі. Пацвярджэннем таму і кнігі, што выйшлі апошнім часам. Усе яны неабходныя, але і сярод іх «Беларусы ў ЗША» вылучаецца сваёй грунтоўнасцю, інфармацыйнай насычанасцю.

Гэта вельмі добра, што беларусы ідуць да паяднання, зазначыў дырэктар Скарынаўскага цэнтра А. Мальдзіс. Пацвярджэнне таму — і выхад гэтай кнігі, і тое, што В. Кіпель перадаў для Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі 400 з лішнім унікальных выданняў. Увогуле, як пра гэта сказаў С. Шупа, які пераклаў «Беларусаў у ЗША» з англійскай мовы на беларускую, мэтай сваёй аўтар ставіў вяртанне беларусам таго, што ім належыць.

Удзельнікі прэзентацыі віталі самога В. Кіпеля, яго жонку спадарыню Зору і дачку Алесю. У сваім выступленні спадар Вітаўт нагадаў вядомае выслоўе: «Бог троіцу любіць». І на самай справе, падкрэсліў госць, у яго жыцці адбываецца апошнім часам нешта падобнае. Два гады назад, сказаў В. Кіпель, роўна праз сорак сем гадоў, я змог зноў пабываць у сваім родным Мінску. Тыдзень жа назад у Гародні, на канферэнцыі «Рым-IV», па хадайніцтве Скарынаўскага цэнтра Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы прысвоіў мне званне ганаровага доктара гэтай вышэйшай навучальнай установы. І, нарэшце, трэцяя радасць — выхад кнігі «Беларусы ў ЗША». Як на думку госця, дык гэта сімвалічна. Яго жыццёвы шлях пачаўся ў Мінску і тут жа, у Мінску, адбываецца пэўнае падсумаванне здзейсненага.

Вітаўт Кіпель адказаў на пытанні прысутных, а жадаючым падпісаў сваю кнігу, якая прадавалася тут жа.

**Наш кар.**

# ДЗЕЦІ АДНОЙ ЗЯМЛІ

У Савецкай Беларусі слова «эміграцыя» заўжды мела крымінальнае адценне. Згодна ідэалагічным пастулатам, беларус мог быць толькі савецкім. Несавецкі беларус — гэта ўжо падазрона /адсюль абсалютная абыякавасць уладаў БССР да лёсу беларусаў Беласточчыны/, а калі ўжо антысавецкі /бадай, уся эміграцыя — гэта людзі, якія з'ехалі з Бацькаўшчыны, каб не бачыць бальшавікоў і не жыць пры камунізме/ — дык абавязкова «вораг», «здраднік», «паслугач ЦРУ». Не наш чалавек, адным словам.

Немагчыма нават уявіць, што ў БССР магла б адбыцца імпрэза, якая сабрала разам беларусаў блізкага і далёкага замежжа, прычым ініцыятарам гэтай імпрэзы быў бы ўрад рэспублікі і фінансавалася б яна з дзяржаўнага бюджэту. Але чым далей ад камуністычнай мінуўшчыны, тым бліжэй да здаровага сэнсу.

Думаю, не памылюся, калі скажу, што ідэя сустрэчы беларусаў свету на Бацькаўшчыне, ідэя вярнання нарадзілася разам з беларускай палітычнай эміграцыяй. Новы імпульс надалі ёй жнівеньскія падзеі 1991 года і канчатковы дэмантаж савецкай імперыі ў снежні таго ж года. Забарона КПСС /і адпаведна КПБ/, наданне канстытуцыйнай сілы Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, бел-чырвона-белы сцяг над Домам урада ў Менску спарадзілі эйфарычныя настроі і тут, на Беларусі, і ў асяроддзі беларускай дыяспары. Зараз ужо, мабыць, і не высветліць, хто першы выказаўся, што надышоў час «збіраць камяні». Але ідэя агульнабеларускага форуму на Бацькаўшчыне была прыхільна ўспрынята і ў метраполіі, і ў дыяспары. Ды кожны бачыў у ёй свой інтарэс...

Беларусы далёкага замежжа кіраваліся жаданнем пабачыць на ўласныя вочы здзейсненую мару — незалежную Беларусь. Нашы землякі ў бліжнім замежжы /у Польшчы і ў краінах, што ўтварыліся пасля дэмантажу СССР/ спадзяваліся, што форум прымусіць кіраўніцтва РБ хоць у нейкай ступені паспрыяць вырашэнню іхніх праблем, якія дагэтуль адкрыта ігнараваліся. Беларускія дэмакраты, шчырыя незалежнікі слушна меркавалі, што сустрэча беларусаў свету паспрые нацыянальнай згодзе.

Мелі свой інтарэс у гэтай імпрэзе і тыя, каго называюць камуністычнай наменклатурай, — спадары-«таварышчы» з Сауміна. Ачуняўшы пасля жніўня 1991 года і Віскулёў, яны ўжо не хаваюць сваёй прыкрасці з нагоды таго, што так «паспяшаліся» з «гэтай незалежнасцю», праз свае газеты адкрыта абражаюць Герб і Сцяг Рэспублікі Беларусь, марацьаб рэанімацыі імперыі. Яны хацелі б зацягнуць беларускую эміграцыю ў палітычныя гульні на баку бальшавіцкага Сауміна і такой жа дэпутацкай бальшасці ў Вярхоўным Савеце РБ, прадставіць форум беларусаў свету як дэманстрацыю падтрымкі беларускай эміграцыяй знешняй і ўнутранай палітыкі ўрада. І такім чынам набраць ачкі на будучых выбарах /калі-небудзь яны ўсё-такі адбудуцца.../.

Пераліччым, што магла б мець наменклатура, калі б здзейсніўся яе сцэнарый. Па-першае, задавальненне ўласных амбіцый. Урады Украіны і краін Балтыі атрымалі з боку дыяспары пацвярджэнне сваёй легітымнасці і падтрымкі палітыкі ўмацавання незалежнасці. Польская эміграцыя прызнала Валенсу законным прэзідэнтам, на падтрымку расійскага замежжа можа спадзявацца прэзідэнт РФ Ельцын. Зразумела, што і нашым спадарам-«таварышам» хацелася б пры выпадку вытыкнуцца перад калегамі з блізкага замежжа: «А мы таксама...»

Па-другое. Калі форум пайшоў па бальшавіцкім сцэнарыі, калі б атрымалася ўвесці эміграцыю ў зман адносна палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў РБ, дык, вярнуўшыся дадому, нашы землякі — грамадзяне ЗША, Канады, Германіі і іншых уплывовых краін — маглі б паспрыяць стварэнню вобраза Рэспублікі Беларусь як дэмакратычнай і стабільнай дзяржавы. У выніку гэтага т.Кебіч і ягоная каманда маглі б спадзявацца атрымаць ад Захаду крэдыт даверу, а можа, і грашовы крэдыт.

Трэцяе і галоўнае. На фоне згортвання кволай дэмакратыі і адкрытай арыентацыі наменклатуры на ўсталяванне дыктатуры /прыгадаем супрацьзаконныя адмены рэферэндуму і аднаўленне КПБ, скасаванне нейтралітэту, а ў перспектыве і беларускай дзяржаўнасці праз далучэнне да «коллективной безопасности»/, форум беларусаў свету можна было б удала скарыстаць у прапагандысцкіх мэтах як міжнародную падтрымку менавіта такога курсу кіраўніцтва РБ.

Падобная п'еса ўжо ставілася на нашай палітычнай сцэне. 1925 год, Берлін, Другая Усебеларуская палітычная канферэнцыя. Тады некаторыя дзеячы БНР выказалі давер кіраўніцтву Савецкай Беларусі. Той, хто, паверыўшы бальшавікам, вярнуўся на Бацькаўшчыну, потым спачыў у Курапатах... Але такая ўжо натура чалавечая: кепскае забываецца, хочацца верыць у лепшае...

Спекулюючы на жаданні людзей, якія пакінулі Беларусь 50 і болей гадоў назад, прымаць уяўнае за існуючае, дэкларававанню незалежнасць — за сапраўдную, наменклатура, здаецца, была блізкая да таго, каб паўтарыць Берлінскі варыянт. Нездарма восенню мінулага года сп.Шушкевіч, выходзячы, мабыць, з інфармацыі, атрыманай з Міністэрства замежных спраў, публічна абвясціў, што беларуская эміграцыя мае намер перадаць кіраўніцтву РБ рэліквіі Беларускай Народнай Рэспублікі.

Ды вось па-бальшавіцку не атрымалася. Беларусы, што ў РБ, што за яе межамі, — людзі ў асноўным памяркоўныя і да авантур не схільныя. Не дзіва, што найперш вырашылі параіцца з дасведчанымі. Адзіная палітычная сіла на Беларусі, што мае абсалютную падтрымку беларускай дыяспары, — Беларускі Народны Фронт. Праанялізаваўшы сітуацыю ў РБ, дыяспара, параіўшыся з кіраўніцтвам БНФ, лідэры дыяспары далі зразумець ураду РБ, што напалеонаўскія планы Сауміна здзейснены не будуць. Форум будзе чыста культурніцкай акцыяй. БНФ жа ўвогуле адмовіўся ад удзелу ў працы аргкамітэта. Пасля гэтага праца па арганізацыі з'езда беларусаў свету ішла на Беларусі без таго імпэту... Невыпадкова напярэдадні з'езда ў менскіх газетах з'явіліся абразлівыя для беларускай эміграцыі публікацыі. Зноў «здраднікі», «паліцаі»... Але спыніць заведзеную машыну, не рызыкуючы панесці палітычныя страты, было ўжо немагчыма. І хоць камуністы былі не рады, што самі ўсё гэта распачалі, давялося лічыцца з рэчаіснасцю.

З'езд адбыўся і прайшоў, дзякуй Богу, няблага. Праграма выканана цалкам. А пэўныя недарэчнасці, ці, як мы кажам, — накладкі, былі амаль што запраграмаваныя, бо такая імпрэза ладзіцца ў нас упершыню.

Тое, што з'езд праходзіў у памяшканні сталічнага опернага тэатра, я асабіста ўспрымаю як рэванш за 25 сакавіка, калі камуністы не далі дэмакратам правесці пасяджэнне і канцэрт у гэтай зале /нешта я не веру ў выпадковы пажар.../ Культурная праграма Першага з'езда беларусаў свету прадэманстравала пераарыентацыю дзяржавы /хай сабе вымушаную/ на нацыянальныя каштоўнасці. Гучала Багдановічава «Пагоня», вершы Н.Арсенневай і Л.Геніюш, у рэгіянальных кантэксце прыгадваліся імёны Скарыны, Сапегі, Астрожскага, Каліноўскага. У Нясвіжы ўшаноўвалі Радзівілаў, у Навагрудку ладзілі тэатралізаваную дзею пад назвай «Каранацыя Міндоўга».

Ды ўсё ж з'езд меў і палітычны аспект. У гэтым сэнсе нельга не прыгадаць Трэцюю Усебеларускую палітычную канферэнцыю. Гэта сустрэча паўнамоцных прадстаўнікоў беларускай дыяспары і кіраўнікоў дэмакратычных партый метраполіі не была прадугледжана афіцыйнай праграмай. Але менавіта яна вызначыла кірунак з'езда. Гэта адчувалася і на ўрачыстым адкрыцці, і падчас дыскусій за «круглымі сталамі» па тэмах «Беларуская дзяржаўнасць», «Беларуская гаспадарка і прадпрымальніцтва», «Беларуская культура», «Беларуская дыяспара», і ў тоне выніковых дакументаў з'езда.

Як мы ўжо пісалі, канферэнцыя прыняла тры рэзалюцыі. Яна засведчыла, што пастанова Другой Усебеларускай канферэнцыі аб прызнанні бальшавіцкага рэжыму была гістарычнаю памылкаю, актам празмернай даверлівасці бальшавікам; што Старшыня ўрада БНР не меў паўнамоцтваў на падпісанне пастановы канферэнцыі. Такім чынам, Рада БНР не страчвала сваёй легітымнасці і захоўвае яе па сённяшні дзень. У адрозненне ад Вярхоўнага Савета РБ, які ўтрымлівае ўладу супрацьзаконнымі метадамі. Неабходны рэферэндум і дэмакратычныя выбары ў новыя структуры ўлады РБ.

Беларусы замежжа мелі магчымасць суаднесці рэчаіснасць нашай дзяржавы і прапагандысцкія заявы наменклатуры. Гэтаму паспрыяла і прыгаданая канферэнцыя і сустрэча ў штаб-кватэры БНФ з кіраўніцтвам Фронту і прадстаўнікамі апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце /было гэта 9 ліпеня/. Дэлегаты і госці з'езда з першых вуснаў атрымалі інфармацыю аб дзейнасці БНФ, аб раскладзе палітычных сіл у ВС і ў беларускім грамадстве ўвогуле.

Вынікі Першага з'езда беларусаў свету будуць яшчэ доўга асэнсоўвацца, аналізавацца. Рэакцыю на гэтую падзею розных палітычных сіл прадбачыць няцяжка. Думаю, у хуткім часе камуністы ў Вярхоўным Савеце і на вуліцы дапасоўваць да ўжо традыцыйных абвінавачванняў Шушкевіча ў «развале СССР» яшчэ і абвінавачанне ў «организации националистического шабаша».

А для дэмакратаў з'езд даў узор нацыянальнай згоды, які няблага было б пераняць і нашаму Вярхоўнаму Савету.

Галоўны вынік з'езда, як мне падаецца, у тым, што мы пабачылі адзін аднаго і зразумелі, што дзе б ні жылі беларусы — на Бацькаўшчыне, у Расіі або Жамойці, Польшчы або Нямеччыне, Аўстраліі альбо Амерыцы, мы — адзін народ, сыны адной Маці-Краіны.

**П.ВАСІЛЕЎСКІ**

# «...І НАЙПЕРШ ПАДНЯЦЦА З КАЛЕНЯЎ»

## УСТУПНАЕ СЛОВА ВАСІЛЯ БЫКАВА

Шаноўныя спадары і спадарыні!

Дарагія сябры!

Нашы шаноўныя госці!

Нацыя, як і кожны грамадскі арганізм або пэўная гістарычная супольнасць, падпарадкавана агульначалавечым законам супольнага існавання. Мусіць, найпершы з іх /ён жа і самы бясспрэчны/ у тым, каб жыць сваёю сям'ёй на сваёй Богам данай зямлі. Парушэнне гэтага імператыву непазбежна цягне за сабой безліч гістарычных калізій, невырашальных канфліктных сітуацый. Усё тое мы бачым як на знакамітых уроках сусветнай гісторыі, так і на красамоўных прыкладах нашай сучаснасці.

Лёс ці жыццё, аднак, рэдка даюць спрыяльныя для таго магчымасці. Чалавецтва перажывае няспынны рух этнасаў, часткі яго перамешваюцца ў часе і прасторы. У выніку гістарычных катаклізмаў бывае, што нацыі страчваюць зямлю свае прарадзімы. Гора той нацыі, якая застаецца без свае зямлі — без дзяржаўнасці, мовы, культуры, часам яна страчвае і гісторыю. Гэта катастрофа для яе народа і непапраўная страта для чалавецтва.

Беларусам увогуле пашэнціла: Бог даў нам найпершае, самае неабходнае для існавання — сваю зямлю. Іншая справа, як распарадзіцца багаданай зямлёй, як узгадаваць на ёй сваё людское шчасце.

Мусіць, усё ж трэба прызнаць: кепска мы ладкуем гэтае шчасце. Няўдала ладзілі яго нашыя продкі, яшчэ горай — мы. Мы не выканалі найпершую перадумову — элементарна арганізаваць нашу дзяржаўнасць, без чаго немагчыма ўсё астатняе. Мы даўно страцілі нашу дзяржаўнасць, страцілі нават яе назову, на працягу стагоддзяў падлягалі да іншых. Ці не адсюль усе нашыя беды?

Беларуская нацыя, як і шмат якія ў наш час, працягвае існаванне ў разбэрсаным стане, з вялізнаю, раскіданай па свеце дыяспарай. Вядома, на тое ёсць свае прычыны, і цяпер не пра іх гаворка. І на радзіме, як і ў эміграцыі, ідэйна-палітычны вэрхал, што настаў пасля дзесяцігоддзяў таталітарызму. І тут нацыя родная хіба па крыві, бо расколата, разладжана, разбэшчана найперш палітычна, а цяпер і ў сацыяльна-маральным, моўна-культурным сэнсе. Іншыя нацыі з'ядноўвае адзінства рэлігіі, у нас жа і таго няма. У нас не існуе адзінай нацыянальнай канфесіі, разам з нетрадыцыйнымі ў нас поўны іх спектр. І тое дае падставу гаварыць пра нашу рэлігійную талерантнасць. Еўрапейцы за тое нас хваляць...

Але гэтая праслаўтая талерантнасць, здаецца, робіцца нашым злым міфам. Добра, калі яе ў меру, але ж не столькі, як у нашай гісторыі ды асабліва ў нашай міфалогіі. Пасіянарнасці не стае нашай нацыі, палітычнае волі нашаму грамадству. Як і нацыянальнай выразнасці таго ж грамадства. Ці не варта болей азірацца назад? Гісторыя для нас не павінна значыць меней, чым наша сумная рэальнасць. Зрэшты, гэта элементарна, як і для кожнай цывілізаванай нацыі, якая не хварэе на гістарычную амнезію.

Так, мы талерантная нацыя, але ці маем мы права забывацца на прычыненае нам зло? Ці не павінны мы памятаць не толькі ад чыіх рук загінуў кожны чацвёрты на мінулай вайне, але таксама і тых, што пагінулі ў гады рэвалюцыі, т.зв. класавай барацьбы, нацыянальнага генацыду. Мы не маем права забываць злачынства нямецкага фашызму і ягоных калабарантаў, як і камуністычных паслугачоў з ЦК, НКВД і КГБ, рукамі якіх загублена не меней, чым загінула ў гады вайны. Магілы іхніх ахвяраў скрозь на беларускай зямлі, а Трасцянец і Курапаты побач, пад Менскам. Беларусы памятаюць, хто іх давёў да сучаснай галечы, хто нішчыў іхнюю старажытную культуру, пазбавіў роднае мовы. Хто на 70 год адлучыў Беларусь ад хрысціянскай культуры, жалезнай заслонай адгарадзіў краіну ад цывілізаванага свету. Учора Беларусь адзначыла наша любае свята Купалле, а ці даўно яшчэ купальскія вогнішчы залівалі з пажарных аўтамабіляў МУС, а маладзёжнае Гуканне вясны героі Афганістана разганялі веласіпеднымі ланцугамі ў Траецкім прадмесці. Ці можам мы забыць міліцэйскі гвалт і дубінкі на свята Дзядоў у 88 годзе — гэтую ці не апошнюю звярыную канвульсію ўласнага здыхаючага фашызму, замах супраць маладой дэмакратыі, якая толькі ўдыхнула першы глыток свабоды. І гэты глыток быў атручаны газам пад ідылёваю назвай «чаромха».

У святле гэтых ды іншых падзей нядаўняга мінулага ці варта здзіўляцца з поваду некаторых апошніх выпадаў беларускага друку супраць беларускай эміграцыі. Людзі, свядомасць якіх скрыўлена нялюдскай ідэалогіяй, іначай не могуць, не ўмеюць і не жадаюць. Гэта — бальшавіцкія зомбі, з усімі ад таго наступствамі, мабыць, крыўдаваць на іх нявaрта. Але як зразумець пазіцыю тых, што трымаюць іх каля ўлады, падтрымліваюць і выкарыстоўваюць у антынацыянальных мэтах. Зрэшты, усё тое не што іншае, як выразнік глыбокай крызы агульнапалітычнага стану Беларусі. Распалася вялізная дэспатовая імперыя, але ў нас у галоўным мала што змянілася да лепшага. Нават тыя малыя рэшткі дэмакратыі і свабоды, якія вялізнымі высілкамі дэмакратычных сілаў і найперш іх авангарда — БНФ адваяваны ў камуны, рызыкуюць быць адабраныя назад. Ідзе змаганне за нацыянальную, дэмакратычную будучыню Беларусі, і змаганне гэта далёка не скончана. Тое павінна ведаць і разумець беларуская эміграцыя ў свеце.

Так, радзіма патрэбна дыяспары, але і дыяспара патрэбна радзіме. Аптымальны сацыяльна-палітычны лад можа быць збудаваны толькі агульнымі намаганнямі. Толькі высілкамі ўсёй нацыі — як метраполіі, так і дыяспары. Нават без аднаго чалавека нацыя няпоўная — тое зразумелі нарэшце заядлыя інтэрнацыяналісты-бальшавікі. Але ці даўмеліся да таго ў Беларусі?

Нацыя раз'яднаная, разбэрсаная, раскіданая ва ўсіх сэнсах, а не толькі ў геапалітычным. Патрэбна аб'яднанне, калі толькі мы хочам вылезці з ямы-прорвы, з гэтае ваўчынай пасткі, у якой апынуліся напрыканцы XX стагоддзя. Але як і з кім аб'яднацца? Баюся, што з тымі, хто загнаў нас у гэтую пастку, мы не аб'яднаемся. Аб'яднанне было б магчыма на грунце Хрыстовага запавету: той з намі, хто не супроць нас. Але Хрыстос — не іхні Бог, у іх іншыя багі, з якімі яны ходзяць на плошчы пад чырвонымі сцягамі. І зноў аб'ядноўваюцца, узнаўляюцца, перастаўляюць літары абрэвіятуры і нарошчваюць мускулы для новае бойкі. Гэта — сілы гвалту і рэваншу, да якога іх натхняе іхняя рэлігія, што завецца марксізмам. А ў яе, як вядома, усе сродкі здатныя. Раней гэта быў маўзер і рэвалюцыйная правасвядомасць. Цяпер — пятыя калоны «иноязычных» ды славутыя «правы чалавека». А мэта ўсё тая ж — імперская.

Дык што ж рабіць нам, беларусам?

І далей талерантнічаць, прыстасоўвацца, калабараваць з тымі, хто болей дужы, трываць і спадзявацца? Ці, можа, нарэшце прачнуцца і азірнуцца вакол? Хаця б для таго, каб убачыць праўду? Праўду, простую, як жах! **Наша зямля ўсё належыць не нам, не мы на ёй гаспадары.** Тут гаспадараць **чужынцы**. Тыя, што хоць і нарадзіліся тут, але ўважаюць яе як Северо-Западный край, выракаюцца матчынай мовы, спавядаюць чужую ідэалогію, перарадзіліся, адцураліся, здрадзілі. Затое атрымалі ўладу. Над бедным няшчасным народам, які ўсё яшчэ марыць **людзьмі звацца**. Але, мабыць, для таго ў наш час мала аднаго жадання. Патрэбна сіла і воля. Трэба адчуць сябе чалавекам і найперш падняцца з каленяў.

У гэтым сэнсе нацыя спадзяецца таксама і на сваю дыяспару, якая так ці інакш стала часткаю дэмакратычнага свету і вольная ад шмат якіх заганаў, уласцівых грамадзянам нядаўняй таталітарнай дзяржавы. Яна першай паднялася з каленяў, і гэта бязмерна важна. Яна захавала рэшткі нацыянальнай культуры, зберагла ў чысціні родную мову. А калі дадаць, што і засталася вернай **нацыянальна-адраджэнскай** ідэі, дык ролю яе ў нашай гісторыі немагчыма перабольшыць. Патрэбна толькі аб'яднанне, салідарнасць у гэтай найважнейшай справе дзеля сапраўды нацыянальна-дэмакратычнага Адраджэння нашай мілай, адзінай маткі-Беларусі.

Ад імя Аргкамітэта з'езда маю гонар сардэчна вітаць усіх беларусаў, што сабраліся на гэты форум, а таксама і тых, што засталіся ад яе далёка, але чые сэрцы баляць усё тым жа несціханым болем, імя якому — Б е л а р у с ь!




# МАКСІМ ВЯРТАЕЦЦА НА БЕЛАРУСЬ

Па праграме святочных урачыстасцяў, прыўрочаных да Першага з'езда беларусаў свету, 10 ліпеня ля колішняга будынка Інстытута беларускай культуры /Рэвалюцыйная, 15 у Мінску/, дзе зараз месціцца Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, адбылося ўрачыстае адкрыццё памятнай дошкі ў гонар Максіма Гарэцкага. Гэта — другі тут памятны знак, поруч з барэльефам акадэміка У. Ігнатоўскага. Кароткую імпрэзу з нагоды адкрыцця вёў дырэктар Скарынаўскага цэнтра прафесар А. Мальдзіс, які адзначыў ролю М. Гарэцкага ў развіцці беларускай культуры ў 20-я гады, падзяліўся клопатамі сучасных прадаўжальнікаў традыцый Інбелкульта. Казалі слова таксама Р. Гарэцкі, В. Кіпель, А. Бабарэка, А. Каўка, М. Мушынскі, Я. Брыль. «Максім вяртаецца на Беларусь, і будзе вяртацца яшчэ доўгі час», — такі быў лейтматыў прамоў. Права здзейсніць урачысты акт — адкрыць дошку — было прадстаўлена пляменніку М. Гарэцкага, віцэ-прэзідэнту АН Беларусі акадэміку Р. Гарэцкаму.

Затым прысутныя — у першую чаргу дэлегаты і госці З'езда беларусаў — мелі магчымасць азнаёміцца з выстаўкай, наладжанай у Скарынаўскім цэнтры, пад назвай «Беларусы ў свеце».

Максім вяртаецца ў Мінск, Мінск будзе прыходзіць да Максіма.

**Наш кар.**

**Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА**

# НЕ МАЕМ ПРАВА СТРАЦІЦЬ ШАНЦ

## З ВЫСТУПЛЕННЯ НА З'ЕЗДЗЕ СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ СТАНІСЛАВА ШУШКЕВІЧА

Шаноўнае спадарства! Высокі сход!

За маё жыццё я зведаў многія штампы, якімі характарызаваліся розныя падзеі, але я абсалютна перакананы, што мы сёння з вамі з'яўляемся ўдзельнікамі падзеі гістарычнай. Першы раз за многія гады, без прымусу, без падказкі, сабраліся беларусы на сваё свята, на свой Першы з'езд, і ніхто не перашкаджае ім гэта рабіць.

Не ведаю, ці многія з вас былі ўпэўнены, што мы дажывём да гэтай падзеі. Я на такое не спадзяваўся — я думаў, што гэта будзе лёс маіх дзяцей альбо ўнукаў. Але мы дажылі да гэтай падзеі — гэта значыць, што гісторыя вучыць, што можа быць лепей, чым тое, на што мы разлічваем. Тысячы беларусаў, тысячы людзей, якія лічаць Беларусь сваёй Бацькаўшчынай, — а я лічу прыналежнасць да Беларусі не этнічнай, а духоўнай, палітычнай якасцю, — тысячы людзей, якія лічылі яе сваёй радзімай; тысячы нашчадкаў тых, хто тут нарадзіўся, — не дажылі да гэтага моманту. Яны былі ўцягнуты ў вадаварот падзей, якія зруйнавалі іх асабістыя лёсы. Я думаю, мы павінны памятаць пра тых, хто аддаў свой талент, свой розум, у рэшце рэшт — жыццё за тое, каб мы з вамі сёння сабраліся.

Мы не маем маральнага права страціць шанц, які нам дала гісторыя, шанц, які выпакутавала наша свядомае беларускае супольніцтва. Мы павінны выкарыстаць гэты шанц і пабудаваць беларускую дзяржаву, якая стала б дастойным партнёрам для любой дзяржавы ў сусветным супольніцтве.

Шаноўнае спадарства!

Трансфармацыя таталітарнага рэжыму ў дэмакратычную дзяржаву — працэс значна больш складаны, чым можна было прадугледзець на першым этапе пабудовы незалежнай дзяржавы. Цяжкасці пераходнага перыяду руйнуюць веру людзей у тое, што можна такую дзяржаву пабудаваць. Гэта ўмела выкарыстоўваюць тыя, хто хоча правіць іншымі захадамі, хто хоча выкарыстоўваць правы чалавека для сябе, а не для іншых. І мы павінны сканцэнтравацца, сабрацца, мабілізаваць нашыя інтэлектуальныя магчымасці, растлумачыць простым людзям, што ёсць іншы шлях, дэмакратычны, для таго, каб вырашыць усе пытанні нашага жыцця. Я перакананы, што ў нас ёсць шлях да сапраўднай дэмакратыі.

Як ніколі нам патрэбна ідэя, якая б аб'яднала ўсе дэмакратычныя рухі. Да гэтага часу, на жаль, такой ідэяй з'яўляецца супрацьстаянне з камуністычнай ідэяй. А нам патрэбна ідэя стваральная, канструктыўная... Мы не павінны страціць тэмп, падыходы, аддаць ініцыятыву ў іншыя, злачынныя рукі, якія цягнуцца да ўлады...

Не сумнявацца, што на будучых выбарах усе людзі прыйдуць да выбарчых урнаў, перакананыя ў правільнасці ідэі беларускага Адраджэння, — значыць, захоўваць у сабе пэўныя ілюзіі. Толькі натхнёная праца, праца сярод тых, хто свядомым яшчэ не стаў, але павінен стаць свядомым, дазволіць нам перамагчы ў барацьбе... Галоўнай задачай урада і парламента ў гэтых умовах з'яўляецца захаванне стабільнасці, бо калі мы станем на шлях руйнавання: чым горш, тым лепей, — мы ніколі не асягнём перамогі, не пабудуем добрае грамадства.

Мы павінны напоўніць рэальным зместам тое, чаго дасягнулі нашы папярэднікі. Цяпер мы маем законны шлях станаўлення беларускай дзяржавы на падставе Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. Трэба знайсці спосаб у межах існуючага заканадаўства альбо скарэктаваць гэта заканадаўства, каб народ вырашыў свой лёс. І я перакананы, што мы гэта зробім і знойдзем гэты падыход. Мы здолеем выкарыстаць лепшыя якасці беларусаў; у нас хопіць і розуму, і інтэлекту, і тэрыторыі на тое, каб Беларусь стала свабоднай і шчаслівай. За работу!

# ПАЧАТАК ВЯЛІКАГА ПАЧАТКУ

## ПРЫВІТАЛЬНАЕ СЛОВА СТАРШЫНІ ТБМ ІМЯ Ф.СКАРЫНЫ НІЛА ГІЛЕВІЧА

Паважаныя дэлегаты і госці з'езда! Мне выпаў гонар ад імя сяброў Таварыства беларускай мовы вітаць вас і віншаваць з вялікай падзеяй у гісторыі нашага народа — Першым сусветным з'ездам беларусаў.

Хаця мае слова і прывітальнае, але наш з'езд — гэта не толькі свята, а перш за ўсё — работа, і таму дазвольце мне выказаць некалькі думак не зусім святочных.

Галоўная ідэя з'езда — аб'яднаўчая. Гэта наша першая спроба сабрацца разам, з усяе зямное кулі, каб пагаварыць пра тыя супольныя задачы, што выніклі перад усімі намі ў лёсавызначальны для нашай Бацькаўшчыны час. Сэнс іх, гэтых задач, зводзіцца да аднаго: практычна забяспечыць тое, што абвешчана дэкларатыўна — пабудаваць свабодную, дэмакратычную, суверэнную дзяржаву Беларусь. Значыць, нам ёсць у імя чаго аб'ядноўвацца, ёсць той найсвяцейшы алтар, каб на яго пакласці свае найдарагія ахвяраванні: лепшыя сілы душы і сэрца, а калі трэба, і само жыццё. Не будзем утойваць: згуртаванню нашых сіл перашкаджаюць не толькі аб'ектыўныя ўмовы, але і пэўныя прычыны суб'ектыўнага парадку. Перашкаджае наша негатоўнасць да гэтага на ўзроўні свядомасці, псіхалогіі, палітычнай і агульнай культуры.

Ідэя нацыянальнага адраджэння Беларусі — ідэя перш за ўсё патрыятычная, родалюбная і, вядома ж, усенародная.

Ніхто ў паасобку не мае манапольнага права на беларускі патрыятызм. Між тым, ёсць, я сказаў бы, сектанты, якія хацелі б адлучыць некаторых грамадзян ад права клапаціцца пра наша нацыянальнае Адраджэнне. Маўляў — вы трымаліся асуджаных часам перакананняў і поглядаў, і таму цяпер мы абыдземся без вас. Цяжка прыдумаць нешта больш неразважнае, чым такая пазіцыя.

У пошуках шляхоў станаўлення нашай незалежнай дзяржавы трэба помніць, што цяпер кожны памылковы крок можа вельмі дорага нам абысціся, іншы крок можа аказацца катастрафічна непапраўным. Для Беларусі, для беларусаў наступіў самім Богам наканаваны час збіраць камяні... Дагэтуль не толькі нашы нядобразычліўцы, але, здаецца, і мы самі ж рабілі ўсё магчымае і нават немагчымае, каб разрозніць беларусаў між сабой, каб адчужыць і аддаліць беларуса ад Беларусі. Хочацца верыць, што нарэшце з гэтым нашым самаедствам мы канчаем назаўсёды.

Клопат пра беларускае нацыянальнае адраджэнне доўгі час бралі на сябе пераважна прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі. Сёння сітуацыя істотна мяняецца — да ідэі адраджэння далучаюцца людзі з усіх іншых сфер грамадскага жыцця. І аднак жа — задачай задач застаецца: разбудзіць ад нацыянальнай спячкі ўвесь беларускі народ — павярнуць усіх грамадзян нашых да вялікай ідэі адраджэння Беларусі. Зрабіць так, каб літаральна кожны беларус усвядоміў, што і ад яго залежыць будучыня Бацькаўшчыны, і гэта ўсведамленне зрабіў сваім найпершым, сваім святым абавязкам. Каб кожны як малітву штодня сабе паўтараў: я павінен жыць і працаваць так, каб маёй Беларусі было лепш, каб яна багацела і дужэла, расла духоўна і набывала ўсё больш высокі аўтарытэт у свеце.

На вялікі жаль, і ў нашым парламенце, і ва ўрадзе, і ў іншых дзяржаўных і недзяржаўных структурах супроць лініі на станаўленне суверэннай, незалежнай, нейтральнай, бяз'ядзернай Беларускай Дзяржавы выступаюць не толькі даўнія, загартаваныя і асатанелыя «ворагі беларушчыны» /Купала/, але і некаторыя дэмакраты, прыхільнікі і абаронцы эканамічных рэформ. Што гэта значыць? Гэта значыць, што па-ранейшаму Беларуская ідэя яшчэ не стала галоўнай аб'ядноўчай сілай — і ў гэтым найвялікшая наша бяда. Гаварыў неаднойчы і скажу яшчэ раз з гэтай высокай трыбуны: наша дзяржава яшчэ далёка не стала ў поўным сэнсе слова беларускай дзяржавай. Нам гэта яшчэ належыць зрабіць. І гэта стане тады, калі беларускімі пачуюцца нашы парламент і ўрад. Вядома, рэч не толькі ў мове, і аднак жа — перш за ўсё і сто разоў перш за ўсё — у мове! Толькі тады, калі ўсе да адной паперы і паперкі з Вярхоўнай Рады і з Рады Міністраў пойдуць на беларускай мове, — толькі тады мы зможам нарэшце шчасліва ўздыхнуць і сказаць: Пачалося! Аве, Беларусь!.. Просіцца на абвяшчэнне адно параўнанне. Ніколі яшчэ гэты дом, наш Вялікі тэатр, так не поўніўся роднымі гукамі, роднымі словамі, роднымі галасамі, як сёння. Дык вось, не ведаю, ці судзіць мне доля дажыць, але быў бы бязмежна шчаслівы пачуць аднойчы, што ўся Беларусь, уся зямля наша, як гэты дом сёння, поўніцца роднымі гукамі, словамі, галасамі! Што для гэтага мы павінны рабіць і зрабіць? Усё, каб яўныя і замаскаваныя антыбеларускія сілы ў Беларусі пацярпелі поўны крах. Упэўнены, што гэта пытанне часу. Мы не дазволім ужо, каб наш народ і краіна зноў былі адкінуты далёка назад!..

Вядома, ад многіх дзяржаўных людзей у нас наўрад ці можна чакаць, што яны аднойчы зразумеюць трагічны лёс беларускага народа і павернуцца душой да нашых жыццёвых клопатаў. Але не яны надалей будуць задаваць тон і прадвызначаць магістральны кірунак развіцця нашай дзяржавы. Хоць сітуацыя і застаецца складанай, нават вельмі складанай, адбываецца мабілізацыя здаровых грамадскіх сіл — як у Беларусі, так і за яе межамі, скрозь там, дзе жывуць беларусы. Нарастае палітычная, маральная і матэрыяльная падтрымка ў справе нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. Нарастае і дужэе наша вера ў тое, што на гэты раз ашукаць нас нікому не ўдасца, і мы ўжо не выпусцім з рук сваю ўласную долю.

Карыстаюся выпадкам і выказваю шчырую падзяку ўсім грамадзянам Беларусі і нашым замежным суайчыннікам, якія падтрымліваюць Таварыства беларускай мовы і супрацоўнічаюць з намі.

Дарагія людзі, яшчэ раз віншую вас з пачаткам вялікага Пачатку і ад усяго сэрца зычу вам поспехаў у працы.

Жыве Беларусь!

# «ШТО ТЫ МОЖАШ САБОЙ ГАСПАДАРЫЦЬ...»

## НАТАТКІ З АДНАГО «КРУГЛАГА СТАЛА»

Ці ёсць сёння ў Беларусі дзяржаўнасць? Якімі павінны быць яе асноўныя складнікі — межы, закон /канстытуцыя/, парламент і ўрад, войска, атрыбутыка? На гэтыя і іншыя пытанні, сфармуляваныя народным дэпутатам В.Голубевым, спрабавалі адказаць удзельнікі «круглага стала», што адбыўся ў памяшканні тэатра імя Купалы. Дэлегатаў з'езда з далёкага і блізкага замежжа, з многіх абласцей Беларусі і Мінска найбольш хвалявала адсутнасць нацыянальнай свядомасці ў значнай частцы кіруючых асоб; называліся вонкавыя і ўнутраныя перашкоды адраджэнню. На думку М.БАЙКАЧОВА /Ніжні Ноўгарад/, сярод унутраных, г.зн. суб'ектыўных перашкод, — наяўнасць здраднікаў і дурняў. Ён заклікаў узмацніць ціск на ўсіх, хто супраціўляецца курсу на самастойнасць ці праводзіць антыбеларускую палітыку.

Барацьба з перараджэннем нацыі губляецца ў вяках, казаў А.БРЭСЦКІ /Масква/. Пра тое, як важна для ўладу маючых шанаваць звычаі і традыцыі сваёй зямлі, разважаў В.САНЬКО.

А.ТРУСАЎ з уласцівым яму аналітызмам сфармуляваў асноўныя крытэрыі адбору кадраў для дзяржаўных пасад. Неабходныя для дзяржаўных служачых рысы — гэта нацыянальная свядомасць, сумленнасць, прафесіяналізм. Прадстаіць змена менталітэту кіруючай эліты, пераадоленне комплексу ўласнай непаўнавартасці, сфарміраванай пры імперыі.

Сярод праблем, пра якія на пасяджэнні згадвалася найчасцей, — войска. Відавочна, што гэта пакуль адно з самых слабых звенняў беларускай дзяржаўнасці. Пра войска казалі як пра «пятую калону», дзе пераважная большасць афіцэрскага складу — людзі, адданыя Расіі, дзе пануюць карупцыя, крадзёж і двайная мараль. Пра вострыя, балючыя моманты стварэння беларускага войска і незаконнае праследаванне Беларускага згуртавання вайскоўцаў гаварылі М.СТАТКЕВІЧ і А.ГУРЫНОВІЧ. Зачытана і зацверджана заява ад імя Першага з'езда беларусаў па вайсковым пытанні.

М.ЧАРНЯЎСКІ прапанаваў запасны варыянт дзеянняў на выпадак страты незалежнасці /што ў прынцыпе не выключана/. Пазіцыя Грамады на сёння, падкрэсліў ён, — падтрымка існуючых органаў кіравання па ўмацаванні дзяржаўнасці.

Былі крытычныя закіды ў бок мясцовых органаў бяспекі і пракуратуры. М.МАЦКЕВІЧ /Салігорск/ выступіла з заявай аб неабходнасці рэабілітаваць Лявона Случчаніна. Яна працытавала радкі з верша паэта, сугучныя тэме размовы: «Памятай, беларус, што і ты чалавек, што ты можаш сабой гаспадарыць».

Ю.ХАДЫКА нагадаў, што эмоцыі не павінны быць галоўнай зброяй палітыкі і што пытанне беларускай дзяржаўнасці падрабязна абмяркоўвалася на трэцім з'ездзе БНФ. Невялікі экскурс у гісторыю ён завяршыў не ўсім зразумелым заклікам да пакаяння і даравання — заклікам, што дысануе з яго ж тэзісам пра непрымірымае супроцьстаянне дэмакратычных і посткамуністычных сіл.

М.НАВУМОВІЧ /Францыя/ выказаўся наконт архаізму бальшавіцкай сімволікі на вуліцах сталіцы /і не адной сталіцы, дадам ад сябе/. Пра поўную падтрымку яго сведчылі дружныя воплескі залы. Наяўнасць старых помнікаў, лозунгаў і назваў сапраўды наводзіць на думку, што нехта проста не асмельваецца з імі развітацца, а значыць, жыве аджыўшымі, учарашнімі ўяўленнямі. Як ні дзіўна, выявіліся і пазаўчарашнія: тэмпераментная бабуля з Магілёўшчыны ва ўсіх бедах вінавацiла... трацкістаў /!/

Паўставалі пытанні пра еднасць — ідэалагічную і рэлігійную — нашага народа, пра ролю мовы і этнічныя межы, пра неабходнасць розных падыходаў да беларускай дыяспары далёкага і блізкага замежжаў.

Адзінае, пра што, здаецца, не згадваў ніхто, — дзе знайсці столькі беларусаў /сапраўдных, а не пашпартных/ для шматлікіх дзяржаўных інстытутаў і як ідэі досыць вузкага кола людзей зрабіць «достоянием масс». Зрэшты, у гісторыі ёсць прэцэдэнты...

Вялі «круглы стол», да секунды вывяраючы час выступленняў, спадары А.КАЎКА, В.ГОЛУБЕЎ, Ю.ТУРОНАК.

**Г.КАРЖАНЕЎСКАЯ**

Паэзія

***Не памятаю, ці прысвячала я каму-небудзь вершы. Але людзі, з якімі я сустракалася ў Амерыцы, усе — так здалося мне — заслугоўваюць прысвячэнняў, бо менавіта іх самаахвярная праца на працягу доўгіх гадоў, праца, прысвечаная беларускаму слову, самой Беларусі, якая так доўга не прызнавала іх за сыноў і дачок, паказала ўвачавідкі, якія цуды можа тварыць нацыянальная ідэя. А яшчэ — нашы ўласнае раўнадушша і ленасць у час, калі вырашаецца, па сутнасці, лёс Бацькаўшчыны і кожны з творцаў можа — і павінен — гаварыць праўду свайму народу і разам з ім шукаць шляхі выратавання. З гэтай горычы і захаплення і нарадзіўся цыкл, прысвечаны эмігрантам, частку з якога я і прапаную ўвазе чытачоў «ЛіМа».***

**АЎТАР**

Вольга ІПАТАВА

## КАСЫНКА ВІТАЎТА

*Вітаўту і Зоры КІПЕЛЯМ*

Мне Вітаўт падарыў хусціну —
сінь з ліловым,
Бо сонца, як іголкамі, ў галовы
Сярод нью-ёркскіх хмарачосаў-глыбаў.
...Хусцінка ў пальцах слізгаціць, як рыба.
Трапеча, быццам хоча пад нябёсы
Падняцца — над галоўным хмарачосам
І плысці над Амерыкай, якая
Нібы пад залатым дажджом Даная,
Магутная, ляжыць...
Спляліся кроны
Нібы карункі — ёй убор зялёны.
Тут, дзе яна калоссем высцілае
Свае палі ад краю і да краю,
Дзе праступаюць скрозь, як палімпсесты,
Індзейцаў назвы — мова ж
знікла дзесьці —
Другая мова, як зярняты ў храме,
Схавалася — і ажыла між намі.
Амерыка!
За іх, каго прымала...
Славянскае крыві ў цябе нямала.
І на тваіх аздобах, як краёчак
Другой зямлі — наш сіні васілёчак.
Яму хапае месца тут, а там —
Ў чужыну гналі, руйнавалі Храм...
Маўчу! І сын, і лёс на той зямлі.
...Хусціна, ты мне сэрца не палі.
Я ўжо не бесклапотная паэтка —
Касмічных з'яў удзельніца і сведка,
Калі збываецца: «І аз уздам»:
За ўсё — за мову, за зямлю і храм.
Крычаць не буду: «Я — не вінавата!»
Вяртаюся — служыць для роднай хаты.
А тут — вясёлай, лёгкай, як пушынка,
Усё ж была. Нясі мяне, хусцінка!
...А вы... Хай і далей паможа Бог
На родны не забыцца свой парог.

## БЕЛАРУСАМ — УДЗЕЛЬНІКАМ І СУСВЕТНАГА СХОДУ

Парасончык вывернуты ветрам.
Бурбалкі, як жабкі, скачуць скрозь.
Тысячы ляцелі кіламетраў —
На Радзіме мерзнеце, нябось?

І на гэты раз цапла замала.
Куст трымціць, ірвецца хмары край.
Што ж тут вашы сэрцы утрымала
На гады, як легендарны Рай?

Да яго — за вобліску, іскрынкі,
Вы імкнулі — думкай ці ў лісце.
...Да стаптанай продкамі сцяжынкі,
Што ніколі больш не зарасце.

Адгукнецца звон святой Сафіі,
Усміхнецца фрэска на сцяне —
І душа усю сябе адкрые,
І Усявышні ў ёй струну кране.

О, каб не забыцца, не скарыцца!
Адшукаць, хаця б цаной жыцця,
Памяці чароўную крыніцу,
Пад ламаччам страт і забыцця!

Можа, вашая любоў адчыніць
Жарало святога ручая?
Бо няма пракокаў у Айчыне.
У Айчыне нашай — утрая.

...А шыпшына кроплі абтрасае:
Сонца цераз хмары, як скрозь дрот.
І пчала — адкуль яна? — збірае
На ружовай кветцы горкі мёд...

## НА БЕЛАРУСКІХ МОГІЛКАХ У АМЕРЫЦЫ

Магілы... Іх калісьці аплявалі,
Абвінавацілі ў чужых грахах.
За што? Адкажа кветка палявая.
Адкажа вецер: «Беларусь кахаў».

Тут Юрка Віцьбіч, тут Рыгор Крушына...
Іх словы й сяння выкрасае Час.
Чаму прыстанкам стала ім чужына?
Адкажа надпіс: «Я памёр за вас».

На іх кар'ерны ўжо не зробяць шанец,
Чужацкі ўжо не згоніць іх хаўрус.
Спытае люд: «Тут — хто? Амерыканец?»
Але зямля адкажа: «Беларус!»

## ПРАЛЛЯ

*Надзі КУДАСАВАЙ*

Белай кудзеллю дзень —
ляжыць на вялай траве
Тут, дзе мала людзей, мудрая пралля жыве.
Скокне вавёрка раз — змоўкне,
слухае ціш.
Быццам спыніўся час —
моўчкі і ты сядзіш.

Амерыканскі стандарт —
роднага не заглушыў.
Дадзены Надзі дар —
адпавядаць душы.
Нітку яна прадзе —
быццам нітуе нас
Стойкасцю у бядзе,
сілаю — каб не згас.

Куфар прыадчыні —
ко лькі у ім святла!
Фарбы, нібы агні.
В ышыла, як жыла.
Як выпрабоўваў лёс!
Каб не ўтрымала ніць.
Соллю саліла слёз —
здолела не ўпусціць.
Круціцца калаўрот...
Вечны імкнецца час...
Мудрае праллі род
хай уратуе нас...

# ПАД ПРЭСАМ БАЛЬШАВІЗМУ

## СУТНАСЦЬ І ЭВАЛЮЦЫЯ РЭПРЭСІЙ

Анатоль САРОКІН,
доктар гістарычных навук

### ДА ПАСТАНОЎКІ ПЫТАННЯ

Аб рэпрэсіях савецкай улады на Беларусі напісана многа. Што датычыць іх наяўнасці — тут поўнае адзінства. Але адносна маштабаў і межаў — рознагалоссе. У прыватнасці — адны лічаць, што ў 20—50-я гады ад неабгрунтаваных палітычных абвінавачванняў у рэспубліцы пацярпела каля 600 тыс. грамадзян, другія сцвярджаюць, што на пачатак 50-х гадоў ахвярамі самавольства і беззаконня сталі да 3 мільёнаў сялян. Непакоіць, што айчынныя аўтары пры характарыстыцы працэсу, па сутнасці, абыходзяць бокам падзеі 1917—1920 і 50—80-х гадоў.

Нельга не звярнуць увагі і на тое, што даследчыкі пытання справядліва спасылаюцца на складанасць яго вырашэння. Тым самым, мяркую, даецца магчымасць іншым выпрабаваць свой лёс.

На мой погляд, тут многае ўпіраецца ў адсутнасць больш-менш прымальнага азначэння прыметаў рэпрэсій. Гэта яшчэ раз пацвердзілі развагі па праблеме рэпрэсій на Усебеларускай канферэнцыі гісторыкаў /люты 1993 г./.

Слова «рэпрэсія» азначае або «карная мера» /супраць кагосьці ці штосьці/, або «пакаранне» /за каго-што/. Пры ўсім гэтым змест, які ўкладваўся савецкім рэжымам у тэрмін, дастаткова спецыфічны і далёка не супадае з яго літаратурным значэннем. Каб падкрэсліць гэтае адрозненне, іншы раз кажуць аб характэрным іменна для данага рэжыму разуменні рэпрэсій у асобным «бальшавіцкім», «сталінскім» ці «камуністычным» сэнсе. Базавым для такога падыходу, мяркуючы па ўсім, з'яўляецца ўяўленне аб рэжыме, які не дапускаў колькі-небудзь самастойных рашэнняў і дзеянняў з боку індывіда.

Пытанне аб рэпрэсіях у сістэме ўяўленняў аб савецкім таталітарным рэжыме — адно з галоўных. Гэта адна з тых нясучых канструкцый, на якую абапіралася ідэалагічна ангажаваная правячая кампартыя пры рэалізацыі тэорыі класавай барацьбы і пабудовы бяскласавага грамадства. З дапамогай сродкаў масавай інфармацыі і вучэбных праграм такая схема для многіх з нас была стэрэатыпам сацыяльнага мыслення. Таму ў афіцыйнай гістарыяграфіі прынята было лічыць, што гвалт і тэрор, якія мелі месца ў савецкім грамадстве, калі не поўнасцю, то ў асноўным апраўданы.

Такое ўспрыманне падзей, у рэшце рэшт, вельмі збядняла рэальную рэчаіснасць, часам замінала нават кіруючым колам канструяваць шляхі руху грамадства ў «светлае сацыяльна аднароднае будучае». Гэта азначала, аднак, не поўны адказ ад напрацаваных форм насілля, а частковы. Паступовую замену, так бы мовіць, нецывілізаваных форм дыскрэдытацыі асобы на цывілізаваныя. У прыватнасці, класава-расстрэльных рэпрэсій — на анкетны псіхалагічны /маральнае праследаванне/ ці псіхіятрычны /калі «па стану здароўя» людзей прымусова адпраўлялі на адпаведнае лячэнне/ антаганізм асобы з грамадствам /неабавязкова класавы/. Тым самым спакуса для аматараў збору так званых кампраметуючых матэрыялаў і ўчынення «цывілізаванага» гвалту захоўвалася. Гэтыя тыпы ацэнкі сацыяльнай «чысціні» асобы на працягу дзесяцігоддзяў развіваліся паралельна, пераплятаючыся і накладваючыся адзін на другі. Замаскаваныя, зразумела, мноствам гучных лозунгаў. Накшталт: «Улада належыць народу!», або: «Усё — у імя чалавека, усё — на карысць чалавека!» Між іншым, архітэктарам такой палітыкі было няўцям, што яна спараджала сярод шырокіх пластоў насельніцтва індыферэнтнасць да ўдзелу ў сацыяльным жыцці.

Аднак, калі пры У.І.Леніне і В.І.Сталіне яўна дамінаваў першы тып, то ў наступным /да канца 80-х гадоў/ іншыя. Апошні тып рэпрэсій трымаў насельніцтва ў страху, забяспечваў рэальную пагрозу новых крывавых трагедый і ў той жа час ствараў пэўную магчымасць больш-менш спакойнага жыцця. Асабліва, калі ўшчамленне інтарэсаў асобы адбывалася не адкрыта, у форме пагроз, а шляхам тлумачэння сутнасці справы эзопаўскай мовай ці «даравання» былых грахоў /неабавязкова сваіх/. Менавіта такі тып абставін дазволіў другой мадэлі рэпрэсій паступова ўзяць верх над першай і амаль выціснуць яе. Больш таго, з цягам часу ў аснове сваёй яны сталі вядомымі не столькі суседзям і калегам, колькі «дасведчаным органам» і самім «вінаватым». Гэта было своеасаблівае «мірнае суіснаванне» да пары, да часу... І тады прыйдуць людзі, якія ўмеюць забіваць.

Што тычыцца рэвалюцыйнай практыкі бальшавікоў пачатковага перыяду савецкай гісторыі, то, уяўляецца, яе мэтазгодна разглядаць як прэлюдыю і галоўную перадумову для наступнага трагічнага «вялікага пералому». Аднак цяпер яна была накіравана на барацьбу з масамі, якія прызналі рэжым, але, аказваецца, усё яшчэ мелі «непадыходзячае» сацыяльнае паходжанне, часта «несвоечасовыя» або «непрычасаныя» думкі. Пры гэтым з упартасцю, вартай іншага прымянення, кіруючым апаратам выкарыстоўвалася звышадчувальнасць людзей да пагроз свайму прэстыжу. Мабыць, адсюль перш за ўсё — параўнальна хуткае пераўтварэнне сялян-аднаасобнікаў у членаў калгасаў ці рабочых саўгасаў. Або ліхаманка даносаў не толькі на знаёмых, а нават на саміх сябе, якія з'яўляліся повадам для пакарання.

Усё гэта мае прынцыповае значэнне для разумення далейшых меркаванняў.

Гаворка ідзе не толькі аб крытэрыях напаўнення зместу паняцця «рэпрэсія», але і неабходнасці карэктнага абыходжання даследчыкаў з назапашанымі ведамі. Калі хочаце, аб набыцці больш высокай культуры выкарыстання фактаў і думак папярэднікаў.

### ТЭХНАЛОГІЯ ВЫЯЎЛЕННЯ «ЧУЖЫХ ЛЮДЗЕЙ»

Можна спыніцца хаця б на адным канкрэтным прыкладзе. У апошні час настойліва тыражуецца лічба аб прыкладна 600 тысячах грамадзян рэспублікі — ахвяр палітычных рэпрэсій 20—50-х гадоў. Заклапочанасць выклікае, зразумела, не велічыня сама па сабе, а тое, што яна атрымана без уліку тых аспектаў рэпрэсій, аб якіх гаварылася вышэй, па-за сувяззю з рэаліямі рэчаіснасці, а то і насуперак ім. Да таго ж тайнай за сямю пячацямі застаецца змест паняцця «палітычныя рэпрэсіі». Іх месца ў статыстыцы генацыду супраць свайго народа.

Вось чаму ёсць сэнс сур'ёзна падумаць аб праве на існаванне лічбы аб прыкладна 700 тысячах сялян, рэпрэсаваных у даваенныя пяцігодкі ва ўсходняй Беларусі. На думку яе апанентаў — яна беспадстаўная. Але паводле тых, хто прытрымліваецца названай лічбы, — тут гаворка ідзе аб пацярпелых ад рэпрэсій непасрэдна і ўскосна. Аб той кожнай шостай сялянскай сям'і, у якой было раскідана гняздо — гаспадарка і скалечаны лёс яго насельнікаў /«Полымя», 1990, N 2. С. 178; Осмоловский В. Коллективизация в Белорусской ССР: опыт и уроки, Мн., 1991. С.18/. Гэта значыць, адны з іх былі фізічна знішчаны, другія былі ў месцах пазбаўлення волі /лагерах, спецпасёлках/, а трэція, будучы на волі, адчувалі адносіны да сябе як да людзей «другога гатунку» /гэта прымусовае перасяленне пры землеўпарадкаванні калгасаў у гады масавай калектывізацыі ці ліквідацыі хутароў; нядобразычлівыя, мякка кажучы, адносіны кіраўніцтва калгасаў і мясцовых улад да патрэб сем'яў «раскулачаных», арыштаваных «ворагаў», «трацкістаў», «шпіёнаў» і г.д./.

Трэба памятаць: у савецкім грамадстве арыштоўвалі і дыскрэдытавалі ўсіх, хто хоць трошкі насцярожана адносіўся да Саветаў і правячай партыі. «Адказнікі» — тыя, хто адмаўляўся здаваць выработленую прадукцыю, «нехацімцы» — хто недаплачваў падаткі, краў ці разбазарваў грамадскі прадукт, — караліся.

Сяляне пакутавалі, калі на іх навешвалі ярлыкі «кулакоў», «падкулачнікаў». Пакутавалі і тыя, хто быў на службе ў царызму, у белай гвардыі, хто меў родзічаў за мяжой або сярод арыштаваных нават за «рэлігійнасць» і г.д.

Напрыклад, былы актывіст калгаснага руху і перакананы прыхільнік новага жыцця М.Карабкоў успамінае, што ў вёсцы Літвінавічы Шклоўскага раёна раскулачвалі нават за тое, што ў цябе з'явіўся самавар /у суседа, п'яніцы і абібока, яго не было/. Калі ж ты зрабіў новы дах на хаце, то наогул — буржуй.

А надзвычай жорсткія меры пакарання па законах аб ахове грамадскай уласнасці ад 1932 і 1947 гадоў?

Падобная абсурдная пільнасць да расстаноўкі сіл у грамадстве дазваляла апрычнікам рэжыму з піянерскім запалам выяўляць ворагаў у сялянскім асяроддзі нават не персанальна, а ў лічбах — сотнямі і тысячамі. Пацвярджэнне таму — характарыстыка дэлегатамі XVI з'езда КП/б/Б /чэрвень 1937 г./ таго сацыяльнага асяроддзя, у якім адданым рэжыму функцыянерам партыйнага апарату прыходзілася паляпшаць кіраўніцтва народнай гаспадаркай ці ўзнімаць узровень ідэйна-палітычнага выхавання. Так, сакратар Бабруйскага райкама партыі Вайнман са злавеснай бальшавіцкай непасрэднасцю зазначаў: «Мы часта не звяртаем увагі і на такія факты: як, напрыклад, у горадзе Бабруйску налічваецца варожых людзей, якія маюць сувязь за кардонам, каля 3 тыс., усяго іх ёсць каля 6 тыс. У нас ёсць былыя белыя афіцэры польскай арміі, ёсць нелегальна перайшоўшыя нашу граніцу, маюцца былыя служачыя польскай паліцыі. Апрача таго, мы маем вялікае засмечванне контррэвалюцыйнымі трацкістамі і выхадцамі з іншых партый».

Соскін /сакратар Аршанскага райкама/, у сваю чаргу, паведамляў: «Мы налічваем у Аршанскім раёне 8 тыс. ворагаў, якія прыбылі, не лічачы мясцовых ворагаў — кулакоў, памешчыкаў і інш., пакінутых у Аршанскім раёне, якія аселі на месцы. Усяго налічваецца больш за 10 тыс. чалавек чужых элементаў, якія аселі на адной толькі тэрыторыі Аршанскага раёна».

Аднак сакратару Слуцкага акружкама Каменштэйну «местачковыя» падыходы не імпанавалі. Таму ён з запалохваючай інтанацыяй настойваў: «Тав. Шаранговіч /сакратар ЦК КП/б/Б/ у сваім дакладзе зрабіў... заяву, што ў БССР мы маем 100 тыс. аднаасобнікаў. Дзе ж мы маем гэтых 100 тыс. аднаасобнікаў? Мы іх маем у пагранічнай рэспубліцы. Мы іх маем на граніцы... Гэтыя 100 тыс. аднаасобнікаў на граніцы павінны быць вельмі сур'ёзна ўлічаны». І ўлічвалі. Па сутнасці пагалоўна, без разбору. Разам з ГПУ...

Нельга не ўлічваць абмежаваныя магчымасці «мечаных» па анкеце ў атрыманні цывілізаванай адукацыі ці больш-менш прэстыжнай пасады; ажыццявіць экскурсію за мяжу. Гэта катэгорыя асоб, вядома, часцяком несла крыж ізгояў рэжыму не толькі за свае ўчынкі, але і ўчынкі сваякоў, сяброў і знаёмых. Дастаткова нагадаць, што пасля арышту 4 верасня 1937 г. Старшыні Саўнаркама БССР Д.Валковіча, які сам кіраваў папярэднімі рэпрэсіямі, не пазбегла арышту яго жонка, а іх дачка была выключана з піянераў і адпраўлена ў дзіцячы дом.

І яшчэ прыклад аб бязмежжы беззаконнасці і самавольства таталітарнай улады. Ён таксама адлюстроўвае практыку, якая існавала ва ўсёй краіне. У вёсцы Селівонаўка Жлобінскага раёна ў працавітай сям'і М.Архіпенкі, «раскулачанай» у разгар «вялікага пералому», акрамя маці, быў судова-адміністрацыйна пакараны сын-настаўнік, а двое іншых накіраваны ў «чорную армію» — так званыя будаўнічыя войскі, дзе панаваў турэмны рэжым. Што тычыцца іншых падобных сем'яў, то там пасля арышту бацькоў «канфіскоўвалі ўсё да ніткі, а малых дзяцей выганялі на вуліцу ў чым стаялі». Усё гэта цалкам адпавядала бальшавіцкай логіцы: дзеці антысавецкіх «злодзеяў» не павінны мець нармальнага права на жыццё.

Зведаўшы смак слёз і крыві, цяжка было спыніцца. Таму ўлада не драмала. І вось у адну з вераснёўскіх начэй 1937 г. было арыштавана 19 непісьменных працавітых мужыкоў вёскі як палітычных ворагаў народа. Толькі адзін з іх вярнуўся паміраць дамоў. «Хапалі, звычайна, — успамінае сведка і пацярпелы М.Рымараў, — галаву сям'і, а жонка і дзеці заставаліся на ўсё жыццё ў ганенні, страху, галечы, зняваже. Некаторых з іх пазней абылгалі і знішчылі ў ГУЛАГу...»

Пацвярджэннем таму — лёс сялянскай сям'і Асона Рымарава. Як сведчыць яго сын, пасля арышту бацькі-калгасніка /за тое, што ён нібыта з'яўляўся «ворагам народа»/ і асуджэння да 10 гадоў за антысавецкую агітацыю і ўсхваленне контррэвалюцыйнага трацкізму /дарэчы, у год «вялікага пералому» з-за марудлівасці з уступленнем у калгас сям'я была «раскулачана», а бацька высланы на лесапавалы Карэліі/, «паклёпу і ганенням падвергліся ўсе сваякі. У БДУ, дзе вучыўся брат Павел, і ў Гомельскае аблана, дзе працаваў Гаўрыла, прыходзілі паклёпніцкія лісты, на запыты ў сельскі Савет аб сацыяльным паходжанні братоў Рыгора, Міхася і мяне высылаліся такія характарыстыкі, што не кожная турма прыняла б нас. З дзевяці ў сям'і траіх знішчылі фізічна. а чацвёра адышлі ў нябыт вельмі рана ў выніку цкавання, несправядлівасці, страху і галечы». Як гаворыцца, мёртвыя хапалі жывых. Пераможцы тым часам задаволена пацiралі рукі, іншы раз і не падазраючы, што хутка самі зазнаюць тую ж долю...

### БАЛЬ ПЕРАМОЖЦАЎ

Новая хваля шырокамаштабных рэпрэсій савецкага таталітарнага рэжыму прыйшла на Беларусь па заканчэнні Вялікай Айчыннай вайны. Апрананне «ўціхамірвальнай кашулі» суправаджалася чарговымі арыштамі, масавымі дэпартацыямі людзей на спецпасяленні і ссылку, абмежаваннямі на сферу працы і г.д.Яны актыўна праводзіліся з часу вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў па 1952 год. Гэтаму спрыяў насцярожаны, мякка кажучы, падыход савецкай улады да людзей, якія падчас вайны жылі на акупаванай тэрыторыі і адносіліся ёю да ідэалагічна і палітычна ненадзейных. Сваю справу зрабіла таксама барацьба за паскораныя сацыялістычныя пераўтварэнні ў заходніх абласцях БССР. Прычым да так званых «класава чужых людзей», «ненадзейных» адносіліся, як і раней, далёка не толькі тыя, хто быў звязаны з ідэалогіяй і палітыкай. У выніку праз горан «смершаўскіх», энкавэдзісцкіх, гэбісцка-мусаўскіх або партыйных «чысцілішчаў» прайшлі чарговыя сотні і тысячы ні ў чым не вінаватых людзей. Па сутнасці простыя, далёкія ад ідэалогіі і палітыкі працаўнікі былі пазбаўлены спакойнага паўсядзённага жыцця.

Менавіта таму становішча відавочным: лічба аб прыкладна 3 млн. жыхароў беларускай вёскі — ахвяр савецкага таталітарнага рэжыму на пачатак 50-х гадоў — хаця і не дакладная, але найбольш верагодная. Падтрымліваючы яе, мы перастаём недаацэньваць усемагутнасць бальшавіцкай рэпрэсіўнай машыны, яе паталагічную боязь колькі-небудзь самастойнага падыходу людзей да асэнсавання рэчаіснасці. Хаця, несумненна, аналіз гэтай праблемы чакае карпатлівай і доўгай працы.

Дарэчы, больш спакойна, мяркую, варта ацэньваць факты «инакомыслия» ва ўмовах пасляваеннага сталінізму. Безумоўна, яны былі. Многія з іх папалі ў «спецсховішчы». І ў той жа час я далёкі ад думкі, што яны маглі мець «судьбоносное» значэнне для змянення сітуацыі. Трэба ўлічваць, што частка з іх, як высвятляецца, таксама штучна палітызавана. Успомнім хаця б вядомыя многім з нас пакаранні за думкі, а то і практычныя дзеянні камуністаў у нецвярозым стане ў дачыненні да дзяржаўнай сімволікі, ці невысокую іх актыўнасць у сістэме палітзаняткаў.

Аднак бясспрэчна тут тое, што людзі караліся. Часам незаслужана жорстка, няхай сабе і не па лініі праваахоўных органаў. Больш таго, цярпелі не толькі, так сказаць, застрэльшчыкі, але і тыя, хто кантактаваў з імі. Не сакрэт: і тут з-за аднаго бітага сем нябітых пакутавалі. Усе яны знаходзіліся пад пільным кантролем і гэта іх становішча магло быць выкарыстана па прызначэнні ў інтарэсах палітычнага моманту. Невыпадкова ні адна з вядомых раней сем'яў не захавала ў наступным па сутнасці свайго сацыяльнага статуса. Толькі з наступленнем так званай «хрушчоўскай адлігі», а потым посттаталітарнага рэжыму ў іх нашчадкаў з'явілася пэўная магчымасць вызваліцца ад ціску партыйна-дзяржаўнага апарату: празмерная ўвага «всевидящего ока» да «былых» была аслаблена.

Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны В.Кацуба, у прыватнасці, паведамляе: у 1954 г. яго выключылі з членаў КПСС за «ўтойванне ад партыі свайго сацыяльнага паходжання і судзімасці бацькі». Бацьку, арыштаванага ў снежні 1937 г., абвінавачвалі ў тым, што ён «кулак», «вораг народа» і «агент замежнай разведкі». Як высветлілася па пасмяротнай рэабілітацыі, ён быў бязвінна аб'яўлены злачынцам. Па словах С.С.Шушкевіча, бацька якога двойчы знаходзіўся ў зняволенні, толькі дзякуючы выдатным поспехам у школе і ўпартасці ў дасягненні асабіста вызначанай мэты яму ўдалося атрымаць вышэйшую адукацыю.

### НА ШЛЯХУ «ЦЫВІЛІЗАВАНАГА» ГВАЛТУ

Спыненню масавага неабгрунтаванага свавольства і беззаконня спрыяла асуджэнне культу асобы Сталіна. Тым не меш партыйна-дзяржаўная ўлада далей гэтага не пайшла. Прычынай сталася непахіснасць усё той жа бальшавіцкай сістэмы ўлады, яе цэнтралізаванай таталітарнай сутнасці, адсутнасць імкнення ў кампартыі сапраўды змяніць грамадска-палітычную атмасферу ў адпаведнасці з агульначалавечымі каштоўнасцямі.

Больш таго, як паказаў час, яна была гатовай у любы момант узнавіць назапашаныя традыцыі. Яны і ляглі ў аснову неасталінісцкага курсу, які праводзіўся пасля так званай «хрушчоўскай адлігі» і ў часы «перабудовы». Ён знайшоў сваё яскравае ўвасабленне ва ўзмацненні барацьбы са свавольствам у грамадска-палітычным мысленні. Праўда, як адзначалася вышэй, у больш вытанчанай форме.

(Працяг на стар. 12)

# «УСЁ МАЁ ЖЫЦЦЁ — ТАМ, НА БЕЛАРУСІ»

## ТАК СКАЖА МНЕ ПАСТАЯННЫ ПРАДСТАЎНІК РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПРЫ ААН ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН...

**— Два гады тут — і ні разу не бачыў амерыканскага сну, усё пра Бацькаўшчыну: то нейкі сход у Саюзе пісьменнікаў, то размаўляў пра нешта з Васілём Быкавым, то збіраў грыбы...**

**Заморская вясна**
**Парасчыняла скарбы,**
**Рассыпала спаўна**
**Свае густыя фарбы.**
**Ды тыя фарбы штосьць**
**Душа не заўважае**
**Чужая прыгажосць**
**Яна і ёсць чужая...**
**...А ў сонны лес ідзеш —**
**Пралеска дагарае**
**Някідкая,**
**Але ж**
**Такая дарагая.**
**Перамігнуцца з ёй**
**Так проста і так добра.**
**То ж сон зямлі маёй**
**Маёй журбы аздоба...**

І чаму, падумала я, чытаючы гэты верш, журба? У Амерыцы — журба? У дыпламата? Амаль кожны дзень прыёмы... сустрэчы... Жаклін Кенэдзі... Геншар... Валенса... Бэйкер... Здавалася б, можна толькі пазайздросціць... Але ж...

**— Шкада, што не ў Мінску. Патрэбен, можа, быў бы ў гэткі час там. Пакуль што не клічуць...**

І зноў... Чуеце?..

**Так далёка-далёка ад дому**
**Б'ецца сэрца трывожна і гулка.**
**Настальгію сваю і стому**
**Я схаваў пад падушкай мулкай.**
**Дагарае апошняя знічка**
**На чужым раўнадушным небе.**
**А радзіма мяне не кліча.**
**Я радзіме, відаць, не патрэбен.**

— Як пішуцца вершы ў Амерыцы? — спытала я ў паэта.

**— Дрэнна. Я, відаць, тая птушка, што спявае толькі дома. Верш — гэта зафіксаванае імгненне, «формула» асабістага ўзрушанага пачуцця. Калі яно цікавае, то верш можа адбыцца. А наогул, кажуць, што талент — Божая іскра, і так многае залежыць ад чагосьці «нематэрыялістычнага», Боскага, што завуць «натхненнем»...**

**Памятаю 1986 год. Пасля чарнобыльскай бяды паехаў у канцы мая ў Брагін і Хойнікі. Узрушэнне было ашаламляльнае... Сеў пісаць, у душы ўсё трымцела, а... на паперу не ішло... Толькі праз два гады штосьці атрымалася і напісалася даволі хутка.**

Тут у Амерыцы я знайшла ў бібліятэцы гэтыя вершы.

**Больш не радуюць кветкі**
**І не клічуць грыбы.**
**Не магу я быць гэткім,**
**Як да гэтага быў.**
**Роздум змрочным тыранам**
**Будзе роспач цвяліць.**
**Незагойнаю ранай**
**Мне Чарнобыль баліць...**

Памятаю, калі толькі Генадзь Мікалаевіч прыехаў у Амерыку ў якасці пастаяннага прадстаўніка Беларусі пры ААН, я вельмі ўзрадавалася. /Нарэшце! Беларусь мае прадстаўніка — беларуса!/. І звярнулася да яго па дапамогу, якая зусім не ўваходзіла ў абсяг функцый пастаяннага прадстаўніка. Але ён зрабіў усё, каб медычная дапамога, вопратка, цацкі, вітаміны, лекі, якія мы тут збіралі, апынуліся на Бацькаўшчыне /бо раней здаралася даволі часта, што ўсё, што пасылалася з Амерыкі на Беларусь, чамусьці апынялася ў Маскве альбо ў Кіеве, альбо ў... Санкт-Пецярбурзе.../

Калі б не наша прадстаўніцтва, то ні святар Пол Мор, ні школа Рамапа, ні штат Мічыган, ні Кліўленд, ні Пітсбург не адпраўлялі б на Беларусь столькі дапамогі, колькі яны адпраўляюць цяпер.

Тут вельмі дарэчы будзе добрым словам успомніць і нядаўняга супрацоўніка прадстаўніцтва Уладзіміра Сакалоўскага, які ўжо вярнуўся на Бацькаўшчыну. Ён нярэдка сваімі рукамі пакаваў і на сваёй машыне адвозіў у аэрапорт лекі, сам адпраўляў, дамаўляўся нейкім цудам, каб перасылка была таннай, каб больш узялі, каб прынялі вялізныя, нестандартныя пакункі. Добрым словам успамінаюць яго тут і амерыканскія беларусы, і супрацоўнікі прадстаўніцтва.

Генадзь Мікалаевіч таксама даў ягонай дабрачыннай працы высокую ацэнку.

**— Пасля ўсіх турботаў з чарнобыльскімі грузамі душа задавальненне мае, — адзначыў Бураўкін.**

— Дарэчы, што ёсць душа, на вашу думку, Генадзь Мікалаевіч?

**— Душа якраз усяму зробленаму надае сэнс. Сумленне — адзін з «кавалкаў» душы гэтага «неба» чалавека. Калі ты стаіш на грэшнай зямлі, дык душа цягне цябе да вышэйшага святла, да «неба»!**

Я ўспомніла радкі, якія Г. Бураўкін адрасаваў сваім «зацятым» крытыкам:

**...У мітынговай калатнечы**
**Я дараванняў не прашу**
**І маю гонар чалавечы**
**І незламаную душу...**

А ўслед прыгадалася даўнішняе. Было гэта ў Мінску, калі Генадзь Мікалаевіч узначальваў Дзяржтэлерадыё і, як гэта само сабой разумелася, быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі. Дык вось, аднойчы на сесіі гэтага самага Савета ён рэзка выступіў у абарону беларускай мовы. Цяпер гэта проста, а тады... А тады даволі маладая даярка на ўсю залу гукнула яму: «На ферму иди! В деревню!..»

Я прыгадала гэты выпадак Генадзю Мікалаевічу і спыталася, як ён адчуваў сябе.

**— Было да слёз крыўдна, страшна і сорамна. Жанчына ж, відаць, была добрай працаўніцай, калі выбралі дэпутаткай, але ж чаму і адкуль такая нянавісць да роднага, да духоўнага?.. Чаму, як беларуская мова, дык адразу — ферма?! Гэта ж трэба было так знявечыць людскія душы!..**

Ці не тады скалiся гэтыя вось радкі:

**І правільна прыдумалі не мы,**
**Што там,**
**Дзе не шануюць роднай мовы,**
**Мялеюць рэкі,**
**Нішчацца дубровы,**
**Каля магілак пасвяцца каровы,**
**Народ там мёртвы**
**А той край — нямы...**

— Паэт і кіраўнік, — як гэта лучыцца? — спыталася я.

**— Паэтам я хацеў, імкнуўся быць, а кіраўніком... Так атрымалася, што стаў ім.**

— Каб быць паэтам, патрэбен талент, прызванне, а для кіраўніка?

**— Для кіраўніка талент не менш патрэбны, але галоўнае і абавязковае — кіраўнік павінен быць цікавым чалавекам, асобай... Акрамя таго, трэба разбірацца ў людзях, умець разумець іх і цаніць; трэба бачыць у іх сваіх паплечнікаў, а не падначаленых, і ўжо зусім не пешак для сваёй палітычнай гульні.**

Але ж, падумала я, дзе і якім чынам адшукаць такога кіраўніка? А калі і адшукаем, то... ці не «з'ядуць» яго зайздроснікі альбо, чаго добрага, «засунуць» куды-небудзь падалей тыя, хто стаіць над ім, каб не «муляў вачэй»?

— А як вы ацэньваеце сябе, як кіраўніка?

**— Правакацыйнае пытанне. Я ведаю свае недахопы. Залішняя даверлівасць, гарачнасць. Напрыклад, бывалі ў мяне моманты, калі я праз залішнюю эмацыянальнасць рабіў непатрэбны клопат і іншым, і сабе. Не хапае мне, здаецца, і службовай жорсткасці. Але ж я ніколі не перакладаў на сваіх калег ні сваёй віны, ні сваёй адказнасці. Заўсёды стараўся служыць справе, у якую веры, і падтрымліваў аднадумцаў.**

Памятаю такі выпадак. Калі я скончыла работу над фільмам пра Я. Купалу «Я, Іван Дамінікавіч» і мы з галоўным рэдактарам літаратурна-драматычнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання Вольгай Іпатавай паспрабавалі паказаць нашу работу некаторым кіраўнікам, яны, перастрахоўваючыся, не захацелі яе прыняць. А мне, як аўтарцы «ўляцела добра»... Але, дзякуй Богу, намеснік старшыні Дзяржтэлерадыё В. Чанін і старшыня Г. Бураўкін не спалохаліся, падтрымалі творчую групу — і «Іван Дамінікавіч» выйшаў на экраны, праўда, з карэктывамі і новай назвай. /Першы назоў быў «Паэт і кат»/. Потым мы атрымалі шмат узрушаных пісьмаў і падзяк. Але ж гэта было потым. Спачатку — была бойка. /Трэба дадаць, што немалую ролю адыграла вельмі моцная падтрымка намесніка дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі крытыка Уладзіміра Гніламёдава/.

— Як можа кіраўнік лучыцць такія

# «ХАРОШЫ ВЫ, РАЗУМНЫ, ЧЭСНЫ!..»

## РЫГОРУ БЯРОЗКІНУ БЫЛО Б 75...

У словах гэтых з адносна даўняга ўжо ліста Ларысы Геніюш да Рыгора Бярозкіна, думаецца мне, схоплена ўся глыбінная сутнасць гэтага незвычайнага, непаўторнага, у нечым проста унікальнага чалавека ў нашай, зрэшты, нябеднай на самабытныя постаці, на сапраўдныя таленты і найцікавейшыя іх жыццёвыя лёсы, літаратуры.

Пра зайздросны талент Р.Бярозкіна, пра яго выключную эрудыцыю, пра вельмі прывабныя чалавечыя якасці гэтага вонкава і ўнутрана прыгожага чалавека пісалі ўжо многія — П.Панчанка, З.Азгур, М.Лужанін, А.Адамовіч, Р.Барадулін, В.Бечык, В.Каваленка, У.Калеснік, А.Клышка, А.Лойка, В,Палтаран, М.Тычына, І.Шклярэўскі, Я.Янішчыц...

Цэлую гаму пачуццяў выказалі многія да гэтага чалавека,які, найперш, умеў, кажучы словамі Р.Барадуліна, «рабіць чужы поспех уласнай радасцю», быў прасякнуты духам «прафесійнага пабрацімства» /У.Калеснік/. Але пераважаюць — прызнанне і ўдзячнасць.

Не хочацца думаць, што нехта недзе і цяпер яшчэ тоіць у глыбіні душы зло на яго, нават тыя, каму перападала некалі, можа, аж занадта, каго балюча калола яго вострае, апрача ўсяго іншага, пяро — як жа яно ішло на карысць некаторым, на карысць нашай паэзіі.

Яшчэ не так даўно, у 1988 годзе, да сямідзесяцігоддзя Рыгора Саламонавіча, незабыўная Жэня Янішчыц, якую ён так хваліў, так любіў і адначасна так «мучыў» і якая так была яму ўдзячная, пісала пра «жахлівы збег акалічнасцей», калі ўжо тады не было «ніводнага з іх» — ні Бярозкіна, ні Стральцова, ні Бечыка — але кожны з іх ёсць «у маім лёсе, жывуць яны ў маёй удзячнай памяці і ў сэрцы».

Вось і Жэні ўжо даўнавата няма. Але хіба ўсе яны не жывуць у сэрцы многіх з нас?..

Мне не пашчасціла быць блізка знаёмым з Рыгорам Саламонавічам, слухаць яго дзівосныя экспромты. Але хіба магу я забыць той дзень, калі на адным з пісьменніцкіх сходаў неўзабаве пасля выхаду ў свет маёй першае кніжачкі «Цеплыня чалавечнасці» ён з нейкай шчырая ветлаю ўсмешкаю падышоў да мяне на калідоры і сказаў «А я напішу



пра вас...»

Не напісалася... Не буду распрацоўваць нейкія версіі. Шкада толькі...

За свае доўгія гады блуканняў па пакутах вучыўся ў многіх — ад Арыстоцеля да сваіх аднакашнікаў А.Клышкі і В.Бечыка, Але вось чытаю ўважліва /слушна гаварыў некалі В.Бечык: хуткая прабежка па такіх кнігах мала што дае/ кнігу з неапублікаванага пры яго жыцці ў кнігах /хоць выйшла ўсё-такі адзінаццаць/ «Паэзія — маё жыццё» /1989/ і шапчу ўслед за Ларысаю Антонаўнай Геніюш: «Разумны, сумленны...»

Кажу свайму другу А.Ставеру: «Пайду пісаць пра Рыгора Бярозк іна...» І чую вельмі шчырае: «Хораша ж напішы. Крытык жа выдатны. І чалавек харошы...»

А ўжо каму-каму, а яму даводзілася чытаць пра сябе і не толькі прыемнае. Але ж як умеў некалі такі патрабавальны і бескампрамісны крытык радавацца і ягоным удачам:

«...у другім вершы таго ж Алеся Ставера /«Канюшына»/, таксама прысвечаным каханню, мы чытаем такія выразныя, святлом і свежасцю напоўненыя радкі:

**Ад вады занылі зубы**
**Не вада,**
**а проста лёд.**
**Пахнуць кветкі,**
**пахнуць губы,**
**Ах, як смачна пахне мёд!**

Там, у вершы «Каля тыну», каханне толькі называла сябе, у яго існаванне хочаш — вер, хочаш — не. Тут яно — несумненная рэальнасць, яно ў самой інтанацыі захаплення і радасці...» /«Паэзія — у жыцці!», 1959 г./.

Хіба гэта не падтрымка на ўсё жыццё, калі «снобы» дагэтуль цябе проста не бачаць і не чуюць, хоць тваё песні спяваюць беларусы ва ўсім свеце...

А што ўжо гаварыць пра тых, пра каго напісана куды больш. У.Караткевіч, С.Гаўрусёў, А.Наўроцкі, Н.Гілевіч, П.Макаль, А.Грачанікаў, Я.Янішчыц, У.Лісіцын...

Нашто ўжо любіў ён Р.Барадуліна, але і ў таго напачатку не вытрымліваў «перагружанасці», перанасычанасці дэталяў і чакаў ад яго «большай сацыяльнасці поглядаў на падзеі, з'явы, якія тычацца ўсіх і кожнага».

Але хто за чвэрць веку сказаў больш слушна і больш даходліва пра яго вы-

якасці, як справядлівасць і сумленнасць з уладаю?

**— Няпроста, паверце мне. Але ў мяне ў гэтай справе меўся пэўны вопыт — і калі збіралі подпісы ў абарону Васіля Быкава, і калі рыхтавалі выступленне «Праўды» ў абарону Нямігі, і калі ўдзельнічаў у іншых «абаронах». Але, на жаль, даводзілася і aзірацца, і «рабіць папраўкі» на рэальныя ўмовы. Часам пасля сам сябе горка папракаў, пакутаваў... Ну, а другія папракаюць куды часцей. Падпісваў, напрыклад, у эфір матэрыялы, дзе вуснамі народных пісьменнікаў услаўляўся аўтар «Малой зямлі». Але ва ўласных творах гэты «правадыр» нават і не ўпаміналася... Паэт і кіраўнік — вельмі нялёгкае спалучэнне. Калі шчыра падтрымліваў таленавітых, як, напрыклад, Вольгу Іпатаву, Таццяну Харавец, казалі, што ў мяне ёсць любімчыкі. А чаму я не павінен вылучаць сумленных і здольных?**

Але ўсё гэта ўжо ў мінулым. Калі пісаўся гэты артыкул, мне трапіліся на вочы такія радкі паэта Бураўкіна:

...І пайшоў я да сонца ў Амерыку.
Пералез праз хрыбет Урала,
Праз Енісей пераскочыў,
Прадзёрся праз зялёнае шчацінне тайгі
І прыйшоў...

— Радкі гэтыя былі напісаны задоўга да вашага прыезду ў Амерыку... Дык што гэта — прадчуванне, ці тое «натхненне», якое нашаптала будучыню, ці, так бывае у паэтаў, калі ён бачыць свой лёс?..

**А як вам у Амерыцы?
Не горача?
Не мулка?
Усё ж такі Амерыка,
Не наша старана, —**

спыталася я ў Генадзя Мікалаевіча ягоным жа вершам.

**— Па-рознаму. Дыпламатам я стаў вымушана, ды і не адчуваю сябе ім на сто працэнтаў і зараз. Не хапае прафесійнага вопыту, гняце англьская «немата». Але праца, што і казаць, цікавая, вельмі напружаная. Калектыў прадстаўніцтва невялікі — усяго дзесятак чалавек, а задач і жаданняў мноства. І перш-наперш хочацца, каб пра нашу родную рэспубліку меў добрую думку ўвесь свет.**

Дарэчы, у Амерыцы наогул пра Беларусь мала хто ведае. І калі я, будучы ў Белым Доме на сустрэчы з прэзідэнтам ЗША Джорджам Бушам, размаўляла з прысутнымі там людзьмі, то шмат хто яшчэ думаў, што «belorusion people» — гэта... белагвардзейцы. Альбо блыталі месцазнаходжанне Беларусі, альбо, як я ўжо раней пісала ў «ЛіМе», адзін амерыканец лічыў сябе беларускага паходжання, бо ягоны дзядуля быў... з Кіева! Так што вялікую справу робіць наша місія ў ААН, прапагандуючы веды пра Беларусь, «займаючы годны пасад між народамі» 180 краін!

Акрамя таго, беларуская місія пры ААН часта сустракаецца з амерыканскімі беларусамі ў Нью-Йорку, у Нью-Джэрсі, у Кліўлендзе, у Чыкага, у штаце Мічыган і г. д.

І суайчыннікі сталі больш клапаціцца пра сваю Радзіму, якая ласкава і гасцінна вітала сваіх пакрыўджаных лёсам дзяцей, якія вымушана былі адарваны ад яе. Яны пачалі часцей ездзіць на Бацькаўшчыну, сустракацца са сваімі сваякамі, з якімі каля 40 гадоў /!/ не бачыліся.

Адным словам, дыпламатычная служба паэта Бураўкіна ў многім новая, цікавая і хвалюючая справа.

**— Жывём побач з прадстаўнікамі дзесяткаў краін і стараемся праз усе складанасці і цяжкасці правесці інтарэсы нашай дзяржавы, нашага народа. І сёе-тое ўдаецца. Вось увайшлі ў адзін з самых важных і прэстыжных органаў ААН — ЭКАСОС. Дамагліся адкрыцця ў Мінску афіцыйнага прадстаўніцтва ААН/ПРААН. Здолелі забяспечыць Беларусі атрыманне статуса краіны, якой ААН аказвае тэхнічную дапамогу...**

**...Аддаць свае сілы дазвання,
Засеяць свой трудны загон —
У гэтым жыцця апраўданне
І самы высокі закон.
А слава...
Калі ёй ахвота,
Хай з боку прысядзе цішком.
Работа,
работа,
работа
Да зморы, да стомы цяжкой.**

67-я вуліца ў Нью-Йорку. На ёй пад нумарам 136 стаіць 12-павярховы будынак. На IV паверсе яго і размясцілася Беларускае прадстаўніцтва пры ААН.

Сціплыя, невялічкія, чыстыя пакойчыкі. Тут жа — трохпакаёвая кватэра пастаяннага прадстаўніка, побач з ягоным рабочым кабінетам без вакон, у якім заўсёды холадна, бо «гаспадар» любіць прахалоду /у Нью-Йорку ўлетку бывае больш за 45°С/. Невялічкая бібліятэка, кватэры для шафёра і сакратаркі. У калідорах — кветкі, карціны беларускіх мастакоў.

У кватэры пастаяннага прадстаўніка вялікі партрэт Янкі Купалы — падарунак Уладзіміра Стальмашонка. Габелен з выявою Францішка Скарыны. Усе рэчы нібы агартаюць вас успамінам, адкуль хто ёсць...

І калі пасля амерыканскай мітусні і розных спраў вы апынецеся ў гэтым «куточку» Беларусі, то адчуваеце сябе як дома. Нібыта агромністы акіян не аддзяляе вас ад матулі-Беларусі...

Напружана і заклапочана працуюць у Нью-Йорку беларускія дыпламаты — умелыя, сціплыя, разумныя, добра выхаваныя людзі.

Яшчэ б я хацела некалькі слоў сказаць пра чалавека, які знаходзіцца побач з паэтам, пра Юлію Якаўлеўну Бураўкіну, ягоную жонку, прыгожую, цікавую, з добрым густам жанчыну. У Мінску яна працавала ў выдавецтве «Народная асвета», але вось пакінула сваю пасаду, паехала за мужам, каб тут дапамагаць яму. Яна і гасцінна гасцей прымае, і нядрэнна ўжо ангельскую мову вывучыла, так што, відаць, хутка «свой перакладчык» будзе.

У Амерыцы шмат увагі ўдзяляецца сям'і, і таму нават, як вы заўважылі, прэзідэнт і на выбарах і на ўсіх афіцыйных і неафіцыйных прыёмах прысутнічае з жонкай. І жонкі шмат дапамагаюць сваімі высілкамі ва ўсіх справах і маюць свае, асабістыя абавязкі: альбо бясплатна працуюць адзін раз на тыдзень у шпіталях, альбо клапоцяцца пра бяздомных, альбо іншыя дабрачынныя справы спраўляюць.

Што датычыцца Ю. Бураўкінай, дык яна мае добрую лучнасць з суайчыннікамі і ладзіць сустрэчы, клапоціцца пра святковыя запрашэнні і г. д.

Не ведаю, што думаў той, хто адпраўляў паэта Г. Бураўкіна пастаянным прадстаўніком у ААН, але зрабіў ён вельмі добра. Не сорамна Бацькаўшчыне за свайго прадстаўніка і пеюна зямлі беларускай...

**Народ мой,
дзякуй, што нідзе
Мяне балюча не ўпікнулі.
За твой далёкі век мінулы,
За сённяшні твой сіні дзень.
І аднаго хачу ў жыцці,
Каб ты не паглядзеў з дакорам,
Каб за мяне ніколі сорам
Табе душу не засмуціў...**

**Вацлава ВЯРБОЎСКАЯ,
наш карэспандэнт
у ЗША**

---

ключны талент? Вось ужо сапраўды, кажучы словамі Віктара Каваленкі, яго ацэнкі «валодаюць эстэтычнай устойлівасцю».

«Не, да чаго ж дзіўны ён, паэт Рыгор Барадулін. Чытаеш верш, другі, трэці... дзесяты. Усё неяк у роскід, у разнабой: конікі, матылі, ільдзінкі, бульбоўнік, маланкі. Шукаеш гэтую — як яе? — «руководящую нить». Няма. А яшчэ і крытыкі /у тым ліку і аўтар гэтых радкоў/ сігналізуюць трывожна: роздуму мала, мала «ідэі». Чытаеш далей: сапраўды малавата. Усё больш уражанняў, карцін, назіранняў... «Я гэты ціхі дым на смак і навобмацак ведаю». Ён мог бы гэтак жа сказаць не толькі пра дым — пра цэлы свет. Пра жыццё.

У Барадуліна ёсць найважнейшая для паэта якасць: уважлівасць і цікавасць да ўсёй шкалы рэальных жыццёвых каштоўнасцей. Тут, калі хочаце, яго канцэпцыя, яго ідэя. Мы цяпім ідэі, калі яны сфармуляваны. «Разлітыя» ў гуках, колерах і аб'ёмах, яны не заўсёды да нас даходзяць. Між тым сіла Барадуліна якраз у гэтым умельстве адчуць і перадаць у слове шматколернасць, рознамаштабнасць і «важкасць» усяго, што акаляе кожнага з нас і што складае панцце жыцця ў сэнсе вопыту, кожнаму з нас дасгупнага».

Хочацца цытаваць і цытаваць.

Але ж адзін толькі пералік усіх тых, пра каго ён пісаў, заняў бы ўсю адпушчаную мне газетную плошчу.

Пералік публікацый, па сведчанні самага дасведчанага чалавека, Юліі Канэ, займае дваццаць пяць старонак машынапісу. Хто ў нас яшчэ з такім законным правам мог заявіць: «Назавіце хоць аднаго беларускага паэта, пра якога я не пісаў...»

Некалі, яшчэ ў 1936 годзе, тады ўжо знакаміты А.Куляшоў быў вымушаны пагадзіцца з крытыкаю васемнаццацігадовага студэнта ў той першай публікацыі ў «Літаратуры і мастацтве» ад 30 кастрычніка 1936 года /«Аб канкрэтнасці сапраўднай і ўяўнай. Нататкі пра дзве паэмы А.Куляшова»/, быў удзячны і ўсё сваё жыццё быў шчырым другам.

У дваццаць гадоў ён — загадчык аддзела крытыкі ў «Полымі», у дваццаць адзін — у «Літаратуры і мастацтве». Сам Янка Купала просіць напісаць прадмову да яго кнігі «Курган»...

Які бліскучы старт! І як страшна неўзабаве ламаецца жыццё.

У 23 гады яго арыштоўваюць, праз два месяцы, у канцы чэрвеня 1941-га, вядуць з Мінскае турмы з калонаю ў лес і ўсіх расстрэльваюць. Бог уратаваў яго нам. Ды ён не стаў уцякаць, хавацца. Пайшоў адразу ў ваенкамат. І з ліпеня да канца вайны — на фронце. Ды кім, ды дзе!.. Радавы, камандзір аддзялення разведкі, камандзір аддзялення аўтаматчыкаў на танках. Хіба трэба шмат гаварыць, што гэта такое... Сталінград. Курская дуга. Кіеў. Карпаты. Сандамірскі плацдарм. Берлін. Прага. Нямецкі снайпер-гарэза ўмудраецца прастрэліць дзве рукі — паўгода ляжаў раскрыжаваны ў шпіталі...

Два ордэны, чатыры медалі.

Неадольная прага жыцця, якое ён так умеў цаніць і любіць, нягледзячы ні на што, перамагае. Зноў ушчыруе на ніве роднай літаратуры. У газеце танкавага корпуса ў Берліне друкуе артыкул пра Максіма Танка...

І зноў, цяпер ужо «свае» збіваюць з ног. Дзесяць гадоў — за «антысавецкую агітацыю»...

Не хочацца нагнятаць, хоць цяпер гэта і модна, і выйгрышна. Куды больш важка іншае: «Ён вярнуўся з жывымі вачыма, без стоенай глухой нянавісці да ўсіх і ўсяго, з захопленай удзячнасцю цяплу, утульнасці, кнігам...» /І.Шклярэўскі/.

Што і казаць, сёе-тое, хоць я і не паразумнеў так раптоўна, як некаторыя не толькі маладыя, але і старэйшыя, чытаеш цяпер ужо з непаразуменнем. Ён бы мог яшчэ быць сярод нас і не ведаю, як бы яно было цяпер у яго. Думаю толькі, што ён не пэцкаў бы ўсё мінулае граззю. Помню і тое, што не паехаў жа ён некалі ў Маскву, дзе меў бы, хто сумняваецца, не меншы поспех. Трымала ж яго беларуская паэзія, хоць так ведаў і так любіў паэзію сусветную.

Прыгадваецца ў гэтай сувязі тое, што гаварыў некалі Гётэ: «Найвялікшая павага аўтара да публікі выяўляецца ў тым, што ён ніколі не прыносіць таго, чаго чакаюць ад яго, а ўсяго толькі тое, што ён лічыць патрэбным і карысным на пэўнай ступені свайго агульнага развіцця».

І як хораша, што яны, такія, былі. Ёсць. І будуць!..

**Генадзь ШУПЕНЬКА**

---

## Для кніжнай паліцы

# Я ЎЖО ІДУ ШУКАЦЬ!




Гаворана-перагаворана пра недахоп літаратуры на беларускай мове для дзяцей. Нявыгадная яна для выдавецтваў, што зробіш. У дзяржаве, як звычайна, не хапае грошай для сваіх малых грамадзян. Але сёння падчас выручае прыватны капітал. Добрым прыкладам з'яўляецца выданне «Навукай і тэхнікай» пры фундацыі Навукова-вытворчай фірмы «Ваўкалака» і Цэнтра этнакасмалогіі «Крыўя» зборніка «Ходзіць жораў па таку» /складальнік Г. Барташэвіч, наклад 30000 асобнікаў/. Сюды ўключаны гульні, лічылкі, гульнёвыя песні. Гэта стагоддзямі назапашаны вопыт, адліты ў дасціпную жартоўную і паэтычную форму, які заўсёды выкарыстоўваўся ў выхаваўчых мэтах. З гульні, лічылкі, просценькай песенькі пачынаецца знаёмства чалавека з мастацтвам, з імі ён робіць першыя крокі да атаясамлення роднага, нацыянальнага, фарміруецца прадстаўнік пэўнага этнасу, нацыі.

Зборнік «Ходзіць жораў па таку» адкрывае серыю выданняў па дзіцячым фальклоры. У выдавецтве рыхтуюцца да друку «Шоў бай па сцяне» /калыханкі, пацешкі, забаўкі/, «Я каза-дзераза» /песні, казкі, загадкі пра жывёл/, «Ішла каляда калядуючы», «Вясну гукаем» і іншыя. На маю думку, серыя будзе цікавай не толькі выхавацелям, фалькларыстам і бацькам, але й дзецям. Перад чалавекам стаіць шмат загадак і самая вялікая — ён сам. Менавіта таму мы вяртаемся да пачатку, да таго жыццёвага, з чаго ўзнікае непаўторнае аблічча чалавека, у якога яшчэ няма нашых «дарослых» пытанняў», бо ўсё навокал — гульня:

**А ты коцік, не гуляй,
Начовачкі прыбірай!
Начовачкі склізкі,
Вядзёрачкі блізкі,
Круг абарваўся,
А ты так астаўся.**

Дзіцячы фальклор у нармальных абставінах перадаецца натуральным шляхам з пакалення ў пакаленне і шмат у чым супрацьстаіць працэсу русіфікацыі. Мо ў дакляраваным вяртанні да матчынай мовы нашыя дзіцячыя садкі і школы паспрабуюць кампенсаваць сваю былую разбуральную дзейнасць? Каб адно не разарвалася сувязь пакаленняў, інакш мы зусім так, без нічога і без нікога застанёмся...

**Раз, два, тры, чатыры, пяць —
Я ужо іду шукаць!**

**Паўлюк БЫКОЎСКІ**

---

## Наш каляндар

# ЮБІЛЕЙ УКРАІНСКАГА СЯБРА

16 ліпеня спаўняецца 60 гадоў украінскаму паэту, перакладчыку беларускай літаратуры Барыславу Сцепанюку. Дзякуючы яму паўкраінску загучалі паэмы «Таварыш» В. Таўлая, «Вецер з Волгі» А. Вялюгіна, шматлікія вершы М. Багдановіча, З. Бядулі, У. Дубоўкі, А. Куляшова, Е. Лось, М. Танка, Р. Барадуліна, К. Кірэенкі і іншых. Б. Сцепанюк з'яўляецца складальнікам двухтомніка «Украінская савецкая паэзія», што выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1975 годзе. Добра ведаюць на Беларусі і творы ўкраінскага пабраціма. Іх, у прыватнасці, перакладалі А. Куляшоў, А. Пысін, Р. Барадулін, С. Грахоўскі, К. Кірэенка, Х. Жычка, Ю. Свірка і іншыя нашы паэты.

Ад усяго сэрца віншуем спадара Сцепанюка з днём нараджэння! Зычым яму далейшых творчых поспехаў і — не забываць пра беларускую літаратуру.

Паэзія

Рыгор БАРАДУЛІН



# «МАМІНЫ СЛОВЫ ВЯРТАЮЦЦА...»

●

Сівая бабулька
Як тая прасніца:
З парадзелай кудзелі
Ейных кудзёрак
Старасць —
Старанная пралля
Пражу прадзе
На саян
Бязважкі, як вецер,
Белы,
Як сам туман...

## ХАДАКІ

Магільнік шэпча:
— Ідуць мерцвякі...
Глядзяць жабракі:
— Ідуць медзякі...
Смяюцца грубкі:
— Ідуць мерзлякі...
Скрыпяць вазы:
— Ідуць ездакі...
Зяхаюць харчэўні:
— Ідуць едакі...

Па-свойму ўсе хадакі —
Сваякі.
На кожнага ў іншага
Позірк такі.

●

Як лугавіну каса ні жане,
Хоча адскочыць атавіца.
Ціхну, старэю —
І да мяне
Маміны словы вяртаюцца.

То вытыркаюцца з-за каптура,
То датыкаюцца пысамі,
То да цыбулінага пяра
Цягнуцца —
Земскія пісары.

Быццам адчулі,
Што без мяне
Ім заставацца сіротамі,
Стыць і гарэць
У сваёй старане
Разам з чужымі чародамі.

Дзелімся мы й навіной і віной,
Тужым з ушацкімі доламі.
Я не знікаю,
Бо нада мной
Маміны словы — анёламі.

## ЗНАЁМАЕ

Чарсцьвяды. Чаравэчча.
Завыдрына. Павулле.
І вечар горбіць плечы
Ў рыбацкае затуле.

Палын нудзьгуе горка.
Дыміць туман ялова.
І скача,
Як вавёрка,
На вусны з вуснаў слова.

Начуе золь па шатах.
Па некім каня плача.
Ушача —
Мой пачатак,
І мой канец —
Ушача!

## ЗАЛАЧУ ДАЛОНЬ

Я сцяжыне далонь залачу
Жаўталісцем
Са стром Беразвечча.
Я з табою сустрэцца хачу
Ў варажбітна заснежаны вечар.
Каб ад шпаркай хады
Халады
Чырванеліся шчокамі ў белі.
Каб аж да Беразвечча сляды
Учарнелі.
Ад бяды.

## ІМША

Сцішаю свой спех
І з пашанай
У шума спагады прашу.
Тут правіць
У світцы імшанай
Лясун па спакою імшу.

У пнеўе ўпіраюцца пяты.
На шыі дарогі пятля.
Дажджамі абмыты,
Працяты
Вятрамі
Нябожчык каля

Магілы свае спачывае.
А грукат балюе смялей.
І ў леса душа як чужая.
Хоць ёй на смаляк усмалей.

Ад хмар хваравіта й шэра
На сэрцы нябёс
І ў вачах.
Не хоча паганская вера
Са сценьмі
Згасаць у карчах...

●

Бацька хату «ў пальчыкі» рубіў,
Мама капу ткала,
Ткала «ў дымкі».
Бацька сына песціў і любіў.
Я трапляў з абдымкаў у абдымкі.

Бацька на Вялікадне зубіў
Яйка —
Выбіраў мацак найсамы.
Бацька сына,
Бацьку сын згубіў,
І застаўся я ды смутак мамы.
Пад настрой
Мой лёс лагодны быў —
Дождж нязолкі слаў,
Пярун нягрымкі.
Трапіць
Ласку я сабе набыў
Да зямлі ў апошнія абдымкі.

●

Старасць робіць жанчын сарокамі,
А кароў гаспадынямі цёплымі,
Вераб'ёў мітуслівых прарокамі,
Хмару цёмную светлай кропляю,
Дамаседам сабаку збеглага,
Бацяна лугавым філосафам,
Ды не зробіць чорнага з белага,
Пышначубага з безвалосага.

Гэта ў старасці дні юначыя
Наракаюць,
Што іх зыначылі.

## ЯКУБУ КОЛАСУ

Зярнятка просіцца ў раллю з сяўні,
Каб стаць увосень коласам шурпатым,
Каб стомлены ўраджай вусатым сватам
Яго вагу адчуў на далані.
Вітае хмара колас з вышыні,
І вецер горнецца крылатым братам.
Алмазнасць зерня ніякім каратам
Не ацаніць на вечнасць дабрыні.

У коласа не пра сябе самога —
Пра хлеб надзённы клопат з даўніны,
Калі праснак рукою пана Бога
Надломлены насыціць род зямны.
Сярпы, цапы, залеваў бізуны
Катуюць колас, ды ў яго святога
Займаюцца нябеснай рунню сны.

## ПРЫМХІ

Так раўнаваць,
Каб слепнуць ад святла,
Маланка толькі можа
Непамалу...
Каго ж так
Навальніца пракляла,
Што свечкаю бярозу
Заламала?..

●

Зрок людскі
І змрок людскі.
Глухне зрок
У даўнім змроку.
А відаць куты й куткі
Аднаму, відаць, прароку...

## ЗВЫКАННЕ

Кашары
Пахне кажух ваўкамі,
Ваўкам
Кажушына пахне кашараю.
І вока
Бачыць сябе звыкае,
І страх
Даганяе бяду паджарую.
Яліна
Бароніць сябе сукамі,
І цемра
Мажнее гадзінай шараю.

## ПАД ВЕЧАР

Ступаю па лістах,
Што па слюдзе,
Так і не ўгледзеўшы,
Як дзень паменеў.
Паперадзе
Мой цень цыбаты йдзе,
Напамінаючы
Пра царства ценяў...

## ДА ГАДЗІННІКА

Гадзіннік мой,
Доля роўная ў нас:
Ісці, не цішачы ход,
Як свой лічыць
Пазычаны час,
Пакуль не сыдзе завод.

Гучней малаточкам сваім грукачы,
Нябачным, па забыцці.
Цікуюць з пляча начы
Крумкачы
За намі,
А нам ісці.

Ты стаў спынящца,
Стаміў душу,
А я стараюся йсці.
Не дужа спяшайся паказваць,
Прашу,
Гадзіну поснай куцці.

●

Я ўрэшце з цёмнага застою
На волю выпускаю гнеў.
Мой гнеў ступае пехатою,
А некалі ж ляцець умеў.

А, можа, гэты гнеў і ёсць
Штонінайсамае чаканне,
Няўцямленае як скананне?

І пераходзіць гнеў у злосць...

●

А прымаўка гэтая яўна старая,
Вякамі задымленая як загнет:
Бог не гуляе,
А свет мяняе.
Але не дужа мяняецца свет.

А раптам Бог у сваю ахвоту,
Каб не старэць,
Каб адпэндзіць спакой,
Такую прыдумаў сабе работу,
Якую не здужаць
Людской талакой.

І цісуць нашы грахі камянямі,
Не полецца нашай ляноты гарод.
Па прыкладзе Бога
І мы мяняем
Гаршкі на гліну.
Ці наадварот?

## ДАРОЖНАЯ ГРАМАТЫКА

Запамінае восень слова
kalt.
Далёка йшчэ да белых падзяжоў.
Надледзянелы з раніцы асфальт
Прабіты пасашкамі капяжоў.

Абцас дакладны
Тут ступаў нараз,
Брук як свайго дапытваў:
— Was ist das?

Калі са шпорай бот
Ляцеў на фэст,
Пыталіся прысады:
— Co to jest?

І каблучок,
Пацокваючы смела,
Вяз у асфальце спёкаю:
— В чем дело?

Гамаш з падэшваю
Працёрта-мяккаю
Ашчэраны
Адно спрагае:
— Дзякую!

Рэзананс

# ФОТА НАГАДАЛА

«Ксёндз Глякоўскі» — публікацыя пад такой назвай з'явілася ў нашым тыднёвіку 8.05.92 г. Там, між іншым, мы звярталіся да чытачоў з просьбой удакладніць або дапоўніць звесткі пра людзей на фотаздымках, якімі досыць багата быў праілюстраваны тэкст. Сёння друкуем ліст, атрыманы рэдакцыяй з Вільні, ад нашага сталага і добра дасведчанага чытача.

«У артыкуле «Ксёндз Глякоўскі» сп. С. Берасцень просіць чытачоў удакладніць інфармацыю пра людзей, адлюстраваных на здымках. Дапаўняю пералік асоб на трэцім здымку зверху /яго мы і друкуем зноў. — **Рэд.**/. У трэцім радзе злева направа /стаяць/: першы — Сяргей Паўловіч, адзін з дырэктараў Віленскай беларускай гімназіі; трэці — Станіслаў Станкевіч, публіцыст, памёр на эміграцыі; у першым радзе /з пераду/ доктар Вітаўт Тумаш, зараз жыве ў Нью-Йорку, і Марыя Мілючанка, у той час студэнтка і няштатная супрацоўніца Віленскага беларускага музея, пазней настаўніца /па мужу Пісарэўская/.

Здымак гэты зроблены не ў плябані, а ў кватэры Антона Нэканда-Трэпкі на Гарбарскім завулку, у якога з рознай нагоды збіраліся сябры Беларускага навуковага таварыства ў Вільні. Ён жа і аўтар гэтай фатаграфіі і «невядомага фота спевака М. Забэйды-Суміцкага», прычым абодва здымкі зробленыя ў адзін час. Можна меркаваць, што здымкі адносяцца да сакавіка 1935 года, калі адбыўся ці не першы канцэрт М. Забэйды ў Вільні, як сведчыць пра гэта Рыгор Шырма ў адным са сваіх артыкулаў. Фота М. Забэйды не з'яўляецца цалкам невядомым, бо яно публікавалася ў польскай віленскай газеце «Чэрвоны штандар» 30 жніўня 1985 г.

Знойдзены на гарышчы /урадзінным доме Я. Паплаўскага, унучатага пляменніка кс. Глякоўскага, — цяперашняга ўладальніка альбома з гістарычнымі фатаграфіямі/ партрэт кс. Глякоўскага работы Пётры Сергіевіча можа быць варыянтам або аўтарскім дублікатам партрэта, які да апошняга часу знаходзіўся на кватэры мастака і неаднойчы экспанаваўся на яго персанальных выстаўках. Таксама ў Сергіевіча быў скульптурны партрэт кс. Глякоўскага работы літоўскага скульптара Рафала Яхімовіча /Раполаса Яхімавічуса/. Зараз ён перададзены ўдавою Сергіевіча ў Дзяржаўны мастацкі музей у Вільні».

Лявон ЛУЦКЕВІЧ
г. Вільня



Фота з архіва Я. ПАПЛАЎСКАГА

Упершыню ў ЛіМе

Алесь МАКРАЦОЎ

# ТЭМПЕРАТУРА НАЦЫІ



*Алесь Макрацоў нарадзіўся ў 1956 годзе ў вёсцы Паддуб'е Быхаўскага раёна. Служыў у войску. Закончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Працаваў у рэспубліканскім праектным інстытуце па землеўпарадкаванні і ў дарожнай арганізацыі.*

*Друкаваўся ў часопісах «Нёман», «Родник», газеце «Беларуская крыніца».*

●

Беларускі народ нагадвае знясіленага хворага. Непрытомнага. Нацыянальны арганізм змагаецца з імперскай бацылай вяла. Імунітэт беларусаў падаўлены стагоддзямі расейска-бальшавіцкага гвалту і атруты.

Як рэакцыя чалавечага цела на хваробу вымяраецца павышэннем ягонай тэмпературы, так рэакцыя нацыі на пагрозу яе жыццю вымяраецца ростам нацыяналізму.

Нацыяналізм — тэмпература цела нацыі.

Беларускі нацыяналізм сёння, замест таго, каб у адпаведнасці з жахлівым станам уласнага цела сягнуць за саракаградусную адзнаку, — ледзь цепліцца. Не дасягаючы адзнакі нават 36,6°C.

Але жыццяздольная нацыя апрытомнее.

Калі беларуская нацыя апрытомнее і ўсвядоміць свой стан — яе ахопіць жар. Жар выздараўленчага, нацыянальна-вызваленчага, усепераможнага яднання.

Змаганне.

●

Мы, беларусы, знаходзімся між двух, моцна ўздзейнічаючых на нас полюсаў. Полюсаў, падключаных да сусвету. Полюсаў, сілкуемых сусветам. Катодам і анодам. Масквой і Варшавай.

Яны — Масква і Варшава — вытворцы двух магутных, уплывовых, нацыянальна-палітычных палёў.

Мы, ліцвіны-беларусы, згубіўшы дзяржаўнасць, на стагоддзі пазбавілі сусветнага сілкавання вытворцу ўласнага нацыянальна-палітычнага поля. Пазбавіліся свайго полюсу. Знясілелі.

Вільня — адключаная ад сусвету і ўторкнутая ў варшаўскую разетку — загаварыла па-польску.

Менск — не падключаны напрамую да сусвету, а ўторкнуты проста ў маскоўскую разетку — загаварыў па-расейску.

Для іх — Масквы і Варшавы — Дастаеўскія і Міцкевічы, Глінкі і Агінскія, праваслаўныя і каталікі, веруючыя і няверуючыя — усе мы /за невялікім выключэннем/ сталі аніёнамі і кацыёнамі беларускага электраліту.

Беларусь, пазбаўленая свайго дзяржаўнага поля прыцягнення, стагоддзямі расцягвалася суседзямі. Разрывалася. Аплывала па ўсход і захад.

Не расцягнулі. Не разарвалі. Не здолелі!

Боскай воляю Беларусь, у Менску, зноў падключана да сусвету. Сілкуецца ад сусвету. Жыве і будзе жыць.

Дык збяром жа ўласныя сілы! Створым магутнае нацыянальнае поле! Каб жыць вечна!

●

Калі беларуская нацыя
апрытомнее
пасля гістарычнага шоку —
цела народа
адчуе боль
па адрэзаным:
Віленшчыне, Смаленшчыне,
Беласточчыне...

●

Паверхня суверэнітэту на Зямлі, як і яе фізічная паверхня, мае свае межы. Мае сваю плошчу, якая складаецца з абмежаваных кавалкаў. З апірышчаў. З плытоў.

Складаецца з абмежаваных плытоў, на якіх плывуць бясконцай паверхняй часу дзяржаўныя народы.

Колькасць плытоў далёка не адпавядае колькасці насяляючых Зямлю народаў. Пакуль не адпавядае...

Плыты моцных народаў — звычайна большыя за іх саміх.

Плыты слабых народаў — звычайна меншыя за іх саміх.

Большасці слабых народаў на мапе зямнога суверэнітэту наогул няма. Знаходзяцца ва ўтопленым стане. Пад плытамі чужых суверэнітэтаў.

Зрэдку можна згледзець высунутыя на паверхню чаратовыя трубкі іхніх аўтаномій.

Шырынёй гэтых трубак пануючыя рэгулююць колькасць паветра, што трапляе да падпарадкаваных з сусветнае атмасферы...

На які час ва ўтопленых хопіць сілы жыць ледзьве дыхаючы, ці зусім не маючы магчымасці дыхаць?

Як доўга яны праіснуюць, трываючы сціскаючае і раз'ядаючае адметнае цела асяроддзе?

Этрускі, скіфы, готы, прусы, яцвягі...

Над галовамі незлічоных народаў самкнуў свае хвалі час.

Глыбіні сусветнай гісторыі кішаць тапельцамі.

●

На вершаліне ледзь не засохлага дрэва сядзіць вялікая, знямоглая, шэрая птушка. У дзюбе трымае сваю незалежнасць. Трымае незалежнасць, дараваную ёй Богам.

Ля дрэва сядзіць Ліса. Яна чуе свежую незалежнасць. Кволую. Чужую.

Ліса хоча з'есці чужую незалежнасць.

Птушка нагадвае Лісе шэрую варону.

Ліса са школы ведае байку Крылова. На памяць.

...Толерантная, добрая, самоотверженная, снисходительная, отзывчивая, послушная, доброжелательная, младшая, уступчивая, красивая, сговорчивая, спокойная, терпимая, любимая, верная, самая...

Гучаць лісілівыя словы.

Вялікую шэрую птушку распірае жаданне каркнуць. Ад задавальнення.

Птушка нагадвае вялікую шэрую варону.

Суседзі, затаіўшы дыханне, сочаць: ці каркне?

●

Дрэва жывога камель
вогнішчам д'ябла абпалены:
мая Беларусь
пасля Чарнобыля.

●

Сапраўдная нацыя — гэта свядомы бетон.

Беларускаму жвіру, для ператварэння ў такі бетон, недастае цэменту нацыяналізму.

Так, здаровага нацыяналізму!

Імперска-бальшавіцкая хлусня вымыла яго з замешанага ў дваццатыя гады раствору...

Нацыя не схапілася.

# БЕЛАРУСКІ АЎТАР ВА ЎМОВАХ НЕБЕЛАРУСКАСЦІ

***Падчас сваіх адведзін Бацькаўшчыны беларускія паэты і пісьменнікі падаравалі мне каля трох дзесяткаў сваіх кніг, пераважна з аўтографамі. Лішне казаць тут, якая гэта была радасць для мяне: гэта было знакам яднання, зразумення і нат братэрства.***

У маёй бібліятэчцы гэтыя кнігі, хачу сказаць, грэюць мяне і нібы гавораць са мною. Сярод аўтараў падараваных мне кніг — добра вядомыя нашы творцы: І. Чыгрынаў, Я. Брыль, І. Пташнікаў, Б. Сачанка, А. Кудравец, В. Хомчанка, У. Арлоў, Я. Сіпакоў, Г. Бураўкін, С. Грахоўскі, Р. Баравікова. Хоць гэтыя імёны і не былі для мяне, эмігранта, нейкай неспадзеўкай /тое-сёе як пералічаных, так і іншых аўтараў я ўжо чытаў і раней/ ды ўсё ж далейшае азнаямленне з творамі маіх дарцаў было ў нейкім сэнсе адкрыццём, яно пашырыла мае веды пра беларускую літаратуру, узбагаціла мяне духоўна.

Але не пра згаданых аўтараў тут гаворка. Сярод падараваных мне кніг — таўсцейшых і зусім тоненькіх — пераважна кнігі нашых новых, маладых аўтараў. З іхняга дазволу пералічу іх тут наўгад: В. Куртаніч, В. Аколава, А. Сыс, М. Мятліцкі, У. Рубанаў, В. Шніп, Г. Багданава, Л. Пранчак, С. Сокалаў-Воюш, В. Жуковіч, І. Чыгрын, У. Дзюба, М. Скобла, В. Грышановіч.

Што мяне, пабочнага чытача, найбольш уражвае, гэта — неадольная **прага творчасці**, паскоранае жаданне здзейсніцца. І гэта можна вытлумачыць не толькі няўрымслівасцю маладых, а й новымі паўсталымі было магчымасцямі **свабоднай** творчасці, а таксама ўсведамленнем патрэбы **новага слова**, новых метадаў у літаратуры і не ў апошнюю чаргу — жаданнем вярнуцца да нацыянальных вытокаў. Гэтак паўсталі, думаецца мне, нашыя авангардысты, нашыя «тутэйшыя», пералічаныя тут і не пералічаныя.

Але я турбуюся за гэты авангард! Мяне турбуе доля гэтых новых творцаў, бо паўсталыя было магчымасці свабоднай творчасці абярнуліся апошнім часам па сутнасці немагчымасцю творчасці ва ўмовах — страшна сказаць — суцэльнай небеларускасці. Пісьменнік не можа існаваць як пісьменнік, калі мова, на якой ён піша, не ў пашане, або — што яшчэ горш — калі на ёй не гавораць. Пры такім становішчы міжволі паўстае пытанне неабходнасці пісьменніка, яго патрэбы для грамадства. Такое пытанне адкрыта не ставіцца, пра яго нат страшна падумаць, але яно рэальнае і ў сваёй сутнасці пагрозлівае не толькі для кожнага паасобку, але й для нашай літаратуры, як гэткай. Калі прадстаўнікі старэйшага пакалення так ці інакш увайшлі ў нашу літаратуру, дык уваходзіны ў беларускую літаратуру маладога аўтара страшна ўскладняюцца не толькі сённяшняй неўладкаванасцю, а — і найбольш — усё той жа небеларускасцю, нашым беларускім немаўленнем. Адсюль — неахвота купіць кніжку беларускага аўтара, адсюль — ганебна нізкі тыраж беларускай кніжкі. Парадаксальна — тыраж кніжкі беларускага літаратара-эмігранта, выдадзенай за мяжой, часам вышэйшы за тыраж кніжкі айчыннага паэта, выдадзенай у Рэспубліцы Беларусь. Вось да чаго вядзе наша немаўленне, наша небеларускасць! Ці можа тады беларускі аўтар існаваць як творца, дый існаваць наогул? А малады ж аўтар пачаў свой спеў з імем сваёй маці Беларусі на вуснах. Ён прыйшоў у гэты свет з **сваім** словам. А да слова гэтага мы застаёмся глухімі, а то й ставімся да свайго, беларускага слова варожа. Сумна. Сорамна.

Перабудовачны час спарадзіў цэлую плеяду беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, сярод іх ёсць бясспрэчна людзі адораныя, таленавітыя, але яны застаюцца нейкімі пасынкамі ў сваёй роднай Айчыне, нейкімі лішнімі людзьмі, пераважна незаўважанымі не толькі чытачом, але і нашай крытыкай. Адсюль у маладога аўтара расчараванне і няўпэўненасць:

За свой век недаўгі
не здолею, магчыма,
сплаціць я ўсе даўгі
табе, мая Айчына.

*/М. Скобла/*

Я гартаю й гартаю старонкі падараваных мне кніг і дзіўлюся, радуюся, зайздрошчу трапнаму эпітэту, няўжытаму нідзе новаму слову, вобразу, рыфме, думцы — усяму таму, што робіць паэта паэтам, улоўліваю за ўсім гэтым асобу, постаць, жывога чалавека, бо ж, як сказаў некалі Герман Гесэ, «уздзеянне паэт робіць на нас не сваёй якой-небудзь асобнай прыкметай — тэхнікай, густам, разумнасцю, а тым, з якой сілай і дасканаласцю ён выказвае адметнасць свайго характару».

Вось гэтая «адметнасць характару», можа, як найлепш характарызуе пакаленне беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, народжаных перабудовай.

Я салютую яму з майго далёка!

**Масей СЯДНЁЎ**

З паэтычнай пошты

Ала МАЛЬШЭЎСКАЯ

# ЛІСТЫ З ІЗУМРУДНАГА ГОРАДА

1.

Вось і скончыўся мой шлях
Па дарозе з жоўтай цэглы:
Ізумрудамі на вежах
Дзіўны горад сустракае.
А душа мая, як птах,
І звініць, і сыпле перлы.
Налятае ветрык свежы...
Ветрык, што мяне чакае?

2.

Я — вецер.
У горадзе гэтым
Я здолею трапіць паўсюль,
Я ведаю тайны паэтаў
І тайны газетных пісуль.
Усім уладар наш вялікі
Нацяў акуляры на нос,
І шкельцаў зялёныя блікі
Далі ізумрудных дзівос.

Я — вецер.
Ні зроку, ні слыху —
Адным адчуваннем жыву,
Я побач, але толькі збоку
Сачу і над вамі плыву.
Над невуцтвам вашым і страхам,
Дзе ваш ізумрудны падман
Гняздо звіў, як бусел над дахам,
На душы нагнаўшы туман.

А часам так хочацца дунуць!
Сарваць акуляры з вачэй
Ды вашым жа брудам
вам плюнуць...
Шкада адно вашых дзяцей.

3.

Тут усё ізумруднае:
плошчы, хаты, масты,
Ізумрудныя зорачкі
і каметаў хвасты,
Вітражы ізумрудныя
і ў фантанах вада.
Акуляры разбіты —
ад дзівос ні сляда...

4.

Смеласць не ў тым, каб не баяцца,
Гордасць не ў тым, каб выхваляцца,
Мудрасцю не латаюць памылкі,
Розум не збіраюць у капілку.
Шчырасць — недахоп не самы горшы
У грамадстве, дзе кіруюць грошы.
І сумленне брудным не бывае:
Гэты скарб ці ёсць, ці прападае.
Не шукай ад лёсу паратунку —
За ўсё мы плацім па рахунку.

5.

У горадзе маім
Чужынец ладзіць баль,
Ляціць за годам год,
А ён усё на троне.
І для яго наш сцяг —
Не болей, чым паркаль,
І толькі сувенір —
Крывіцкая Пагоня.

6.

Прыходзяць іншыя часы,
У модзе музыка другая,
Герояў новых галасы
Гучаць ад краю і да краю.

Чаму ж ранейшы недавер,
Туга маркотная ў народзе?
Чаму народ глядзіць, бы звер,
І цэдзіць між зубамі: «Годзе!»?

Здаецца, толькі волю дай,
Вайною пойдзе брат на брата,
Крывёю захлынецца край,
Пажарамі успыхнуць хаты.

Спявай, жалеечка мая,
Матыў нямодны, старажытны.
Хай песня даўняя твая,
Прасцейшая за бохан жытні.

Збавенне апантаным дасць,
Над незваротным пагарue,
Таму, хто «вляпался во власть»,
Грахі адпусціць і даруе.

Не першы раз нам даравацць
Уладароў сляпых і дзікіх.
Мы не умеем праклінаць —
Суд Божы будзе, суд вялікі.

г. Маладзечна

Музыка

# ЯДНАЕ ПЕСНЯ...

У мінулым сезоне ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі Беларусі з'явіўся новы саліст — Аляксей Ісаеў. Да гэтага часу ён працаваў у Растове. Артыст вельмі хутка ўвайшоў у бягучы рэпертуар нашай трупы. Праз два тыдні пасля прыезду ён ужо выйшаў на сцэну ў спектаклі «Лятучая мыш». У хуткім часе адбыліся ўводы ў «Вясёлую ўдаву», «Прынцэсу цырка», «Сільву». Летась адбылася прэм'ера «Марыцы», дзе А. Ісаеў з вялікім поспехам выканаў партыю Тасілы, без цяжкасцей увайшоўшы ў рэпетыцыйны працэс. І тая акалічнасць, што працяглы час падрыхтоўка спектакля ішла без ягонага ўдзелу /Ісаеў прыехаў у разгар рэпетыцый/ ніяк не адбілася на выніку.

Ён увогуле са здзіўляючай лёгкасцю ўваходзіць у спектаклі, пастаўленыя да яго. Калі іншыя акцёры не любяць уводаў, дык А. Ісаеў — наадварот, і тлумачыць гэта тым, што не любіць таго марнавання часу, якое непазбежна вынікае з пастановачнага працэсу. Ён хутка развучвае новы музычны матэрыял, а засваенне мізансцэн у яго адбываецца натуральна і проста, бо артыст заўсёды адчувае ўнутраную арганізацыю і каларыт спектакля.

Цяпер Аляксей Ісаеў выконвае ўсе галоўныя партыі барытонавага рэпертуару. Але вядучы саліст тэатра з поспехам асвойвае й іншыя пласты вакальнага майстэрства. Замыканне ў межах аднаго жанру не спрыяе пашырэнню творчага дыяпазону, — лічыць артыст. Старадаўнія рамансы, неапалітанскія песні, народныя песні, музыка сучасных аўтараў, — засваенне гэтага рэпертуару ўзбагачае творчую асобу. «На рахунку» А. Ісаева ўжо не адзін сольны канцэрт, разгорнутая праграма канцэртных выступленняў.

Дарэчы, неўзабаве пасля свайго прыезду ў Мінск ён пазнаёміўся з Ігарам Лучанком, і адразу завязаліся творчыя кантакты. Пра плённае супрацоўніцтва кампазітара і спевака сведчыць той факт, што праз месяц пасля іх знаёмства Ісаеў разам з Лучанком у складзе творчай групы ўдзельнічалі ў паездцы беларускай дэлегацыі ў Францыю. Колькі гадоў таму Ісаеў упершыню сутыкнуўся з творчасцю Лучанка — тады ў адным са сваіх канцэртаў выканаў вядомую песню «Калі б камяні маглі гаварыць». І вось — асабістае знаёмства з кампазітарам, умацаванне творчых кантактаў, супольны ўдзел у шматлікіх канцэртных праграмах. «Лучанок — гэта сімвал Беларусі, — лічыць артыст. — Шматлікія сустрэчы з самымі рознымі людзьмі паказваюць, наколькі ён папулярны і любімы ў народзе».

У пачатку чэрвеня ў Тэатры музычнай камедыі адбыўся вялікі сольны канцэрт А. Ісаева, у якім гучалі старадаўнія рамансы, народныя песні, песні сучасных аўтараў. Публіка вельмі прыхільна прыняла гэтае выступленне. Але сам выканаўца больш адзначаў крытычныя моманты канцэрта, бо нельга было сказаць, што інструментальны ансамбль і выканаўца працавалі, што называецца, на адным дыханні. Поўнай выканальніцкай гармоніі не адчувалася, хутчэй спявак і аркестр клапаціліся пра адно: як бы «не разысціся». А прычына ў тым, што рэпетыцый, па сутнасці, не было, на адпрацоўку ўсіх нюансаў проста не хапіла часу. У гэтым і заключаюцца асноўныя цяжкасці канцэртнай дзейнасці А. Ісаева: няма пастаяннага музычнага калектыву, з якім ён мог бы працаваць на працягу доўгага часу. Вось і на гэты раз давялося самому запрашаць музыкантаў, вырашаць усе арганізацыйныя пытанні...


Аляксей ІСАЕЎ — з песнямі І. Лучанка.

Фота І. МАКАЛОВІЧА

Тым не менш, Аляксей Ісаеў поўны творчай энергіі і аптымізму. Напачатку наступнага сезона аматары музкамедыі пабачаць яго ў цікавым прэм'ерным спектаклі, а ў канцэртах спявак плануе выступіць з новымі беларускімі песнямі.

«Я вельмі люблю сваю радзіму — Расію, а цяпер я адчуваю, што такой жа любоўю пранікся і да беларускай зямлі, — прызнаецца артыст. — Тут я не адчуваю сябе чужым, гэта адзіная рэспубліка, дзе я магу жыць і адчуваць сябе спакойна. Я пранікся шчырай павагай да беларусаў, наогул, да ўсіх людзей, якія жывуць на гэтай зямлі. І вельмі спадзяюся, што маё імкненне працаваць дзеля людзей, сярод якіх я жыву, будзе сустрэта з разуменнем, і наша любоў і павага будуць узаемнымі».

**Зоя ЛЫСЕНКА**

Рукапісы не гараць

# ДАВАЙЦЕ ШАНАВАЦЬ ІМЁНЫ!

Апошнім часам не-не дый задумаюся: ці не дзіўна, што ў нашу няпэўную часіну ўтварыліся сапраўды унікальныя па сваёй спрыяльнасці ўмовы /вядома, не фінансавыя, а ідэалагічныя/ для працы даследчыкаў гісторыі айчыннай культуры, у тым ліку і культуры музычнай. Ці мелі яны калі яшчэ магчымасць заглыбляцца ў таямніцы стагоддзяў, вяртаць з нябыту цэлыя музычныя мацерыкі, не баючыся, што яны акажуцца «не таго колеру» ці «не з тым ландшафтам»? Але ж відавочна, што факты вяртання і рэканструкцыі велізарных пластоў нашай гістарычнай спадчыны, звязанай з музычным мастацтвам як вуснай, так і пісьмовай традыцыі, пакуль яшчэ не заўсёды асэнсоўваюцца-ўсведамляюцца грамадскасцю як значная падзея.

Мо і добра, што адкрыцці ў нас робяцца нормай, але ўсё ж такі цяжка ўявіць, каб у Францыі ці Германіі, Польшчы ці Расіі знаходка хоць бы аднаго прозвішча кампазітара, выканаўцы ці музычнага твора не сталася б сенсацыяй! Прыгадаю хоць бы гісторыю з Супрасльскім ірмалоем, пра знаходку якога /праўда, у якасці рускага, а не беларускага музычнага помніка/ столькі пісалася ў расійскім друку. У нас жа нават тыя адкрыцці, пра якія захоплена гавораць і пішуць за мяжой /маю дакументальныя сведчанні/, часта не знаходзяць адпаведнага водгуку і адзнакі. Памятаеце, напрыклад, нататкі ў «ЛіМе» пра этнамузыколага З. Мажэйку? Доследы ейныя высока ацаніў замежны навуковы свет, а мясцовы... з вялікімі цяжкасцямі адшукаў магчымасць для іх працягу. Пастаянна цікаўлюся навуковай працай І. Назінай, у пэўным сэнсе адзінай у сваёй галіне даследчыцы міжнароднага ўзроўню, даўно прызнанай за мяжой. А між тым яна доўгі час не мела магчымасцей выязджаць хоць бы ў былое сацыялістычнае замежжа на прадстаўнічыя навуковыя канферэнцыі. /Толькі цяпер, дзякуючы зацікаўленым клопатам кіраўніцтва Беларускай акадэміі музыкі ды Міністэрства культуры, такая магчымасць, здаецца, будзе/.

Але, бадай, найбольш засмучаюць выпадкі няўвагі да музыказнаўцаў з боку тых, для каго яны фактычна «здабываюць» рэпертуар, — з боку выканаўцаў. Магчыма, тыя проста не ведаюць-не разумеюць, што іх заслужанаму поспеху ў аднаўленні музычнай спадчыны папярэднічала і спрыяла перадусім працяглая, на не адно дзесяцігоддзе, праца іншых людзей, якія маглі б распавесці пра пошук кожнага «нумара праграмы» цэлую гісторыю. Менавіта гэткія факты сапсавалі некалі ўражанні ад цудоўнай і ў значнай ступені гістарычнай падзеі — Першага фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы». Тады, нягледзячы на ўсе настойлівыя просьбы і довады, так і не прагучала са сцэны прозвішча сусветна вядомага вучонага Аліны Новак-Рамановіч, якая апрацавала партытуру оперы «Агатка» Я. Голанда. Не прагучала імя Наталлі Іўчанкі, якая прывезла з Вільні партытуру і зрабіла клавір оперы Р. Вардоцкага «Апалон-заканадаўца, або Рэфармаваны Парнас». Хіба не варта калі не на

Рэпліка

# ХАЙ ЖА І КЛАСІКІ ЗАДУМАЮЦЦА?

І колькі ўжо разоў казаў сабе: не зважай, лімавец, на публікацыі дамарослых сацыялагічных службаў! Саматужным высновам яшчэ далёка да навукова абгрунтаваных даследаванняў. А карыстацца лічбамі ў якасці рэкамендацый ды рэгламентацый для жыцця духоўнага — барані Божа! Памятаеце арыфметычныя выкладкі вядомай «сацыялагічнай» кампаніі наконт дзяржаўнага двухмоўя?

Ну, а тут лёг на мой стол адзін з апошніх нумароў тыднёвіка «Беларускае тэлебачанне і радыё» /21—27 чэрвеня/ ды спакушае... Чарговае сацыялагічнае даследаванне! Вось табе і «не зважай», калі тычыцца яно папулярнасці праграм Беларускага радыё, якое і я сяды-тады слухаю. Усё ў даследаванні падаецца страшэнна сур'ёзна: перадачы /праграмы/ — у назвах, слухачы — у працэнтах. Ды чамусьці тыя 1539 чалавек, «людзі розных узростаў, прафесій, жыхары гарадоў і вёсак рэспублікі», якія адказалі на анкеты аддзела сацыялагічных даследаванняў Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь, трактуюцца як Адзін Сярэднестатыстычны Слухач — носьбіт аб'ектыўнай грамадскай думкі...

Што гэта за Слухач такі, які бясстрасна расстаўляе па ранжыру 83 праграмы, сярод якіх і спецыяльныя перадачы для дзяцей, і «Радыёфакт» для дзелавога мужчыны, які каўтае той факт разам са сняданкам, каб потым забыцца на радыё да наступнай раніцы? Што гэта за Слухач, які мяркуе і за хатнюю гаспадыню, «прывязаную» да кухоннай радыёкропкі, і за дружнае сямейства, якое ў выхадныя дні ўвогуле не слухае эфір, бо завіхаецца ў агародзе, а вечарамі аддае перавагу тэлебачанню? Ці ведае той «сярэднестатыстычны», што толькі раз на месяц і ў разгар нядзелі выходзіць у эфір бліскучая передача «Поўны каданс», якую разам з падлеткамі захоплена слухаюць і дарослыя, патрапіўшы на яе? У «табліцы папулярнасці» гэтая передача заняла трэці радок ад канца...

Я спадзяваўся ўбачыць рэмарку аўтараў «Рэйтынгу і экспрэс-аналізу» наконт недасканаласці, спрэчнасці даследавання «Беларускае радыё ў ацэнцы слухачоў», але ўбачыў досыць дзіўную сентэнцыю. Цытую: «Лічбы даюць магчымасць параўнаць папулярнасць праграм і перадач. Некаторым журналістам варта сур'ёзна задумацца».

Вось ужо і сапраўды, можна задумацца... Наўрад ці знойдзецца нармальны, здаровы, пры справе чалавек, які суткамі слухаў бы радыё. А калі знойдзецца, дык, пэўна, задумаецца: чаму передача «Крылы», адметная глыбокімі мастацка-публіцыстычнымі дыялогамі, якія рыхтуе Г. Шаблінская, апынулася на 74-м месцы? Чаму амаль побач — «Terra Harmonia», вытанчаная праца Т. Песнякевіч, чые передачы адзначаліся дыпломамі міжнародных радыёконкурсаў? Чаму радкі з пісьмаў, якія цытуюць радыёсацыёлагі, падпісаны бухгалтарам, кантралёрам ашчаднага банка, яшчэ раз бухгалтарам, пенсіянеркай, і няма спасылак на меркаванне, скажам, літаратара, мастацтвазнаўцы, студэнта Акадэміі музыкі?

Думаю, калі б такі «рэйтынг» ды «экспрэс-аналіз» закрануў справу ў нашых кнігарнях, дык «сур'ёзна задумацца» давялося б, следам за «некаторымі журналістамі», і «некаторым пісьменнікам». Прынамсі, класікам сусветнай літаратуры, якім ужо даўно паказалі язык страшыдлы з вокладак замежных трылераў ды баевікоў...

**ЛІМАВЕЦ**

Каляндар

# АД ПЕСНІ ДА КНІГІ....

10 ЛІПЕНЯ СПАЎНЯЕЦЦА 70 ГОД З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ВЯДОМАГА ДАСЛЕДЧЫКА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ МУЗЫКІ, ДОКТАРА МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЛАЎРЭАТА ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ БЕЛАРУСІ ВІКТАРА ЯЛАТАВА.

Яго юнацтва было абпалена вайной. Пасля трох месяцаў навучання ў пяхотным вучылішчы, не скончыўшы курса, ён разам з усімі слухачамі летам 1942 года тэрмінова быў накіраваны на фронт. Прымаў удзел у абароне Каўказа ў складзе асобнага горна-стралковага атрада ў якасці камандзіра аддзялення супроцьтанкавых ружжаў...

Дэмабілізаваўшыся, В.Ялатаў заканчвае музвучылішча і кансерваторыю. Атрымаўшы дыплом з адзнакай, у 1955 г. паступае ў аспірантуру АН Беларусі па спецыяльнасці «беларуская народная музыка». Яго навуковым кіраўніком быў выдатны вучоны, знаўца славянскай народнай музыкі В.Бяляеў, ад якога Ялатаў пераняў шырыню погляду на з'явы народнага мастацтва.

Пасля аспірантуры — Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, дзе Ялатаў прайшоў усе службовыя прыступкі ад малодшага навуковага супрацоўніка да загадчыка аддзела музыкі /1963 г./. У яго дзейнасці арганічна спалучаліся даследчык-тэарэтык і няўрымслівы шукальнік народных песенных скарбаў, які ў складзе экспедыцый і па сваіх індывідуальных маршрутах за 25 гадоў абследаваў амаль усе раёны Беларусі, працаваў і ў прымежных мясцінах Расіі і Украіны. Усе яго тэарэтычныя высновы мелі трывалы падмурак, і калі даследчык у нечым не быў упэўнены, ён зноў і зноў звяртаўся да першакрыніцы, да народнай песні ў яе жывым гучанні.

Мне давялося працаваць з Віктарам Іванавічам у розных экспедыцыях, і заўсёды я бачыў мэтанакіраванасць, уменне наладзіць кантакты са спевакамі і атрымаць ад іх патрэбную інфармацыю, якая звычайна ўключала самы шырокі спектр разнастайных звестак. Памятаю, як, даследуючы жніўныя песні, ён зацікавіўся асаблівасцямі іх выканання і ў кожнай экспедыцыі імкнуўся зафіксаваць спевы ў працэсе жніва, адчуўшы, што працоўныя працэсы аказваюць самы непасрэдны ўплыў на характар інтанавання гэтых твораў і іншыя іх адметныя рысы. Па матэрыялах экспедыцыі 1957—1960 гг. В.Ялатаў падрыхтаваў і выдаў арыгінальны зборнік «Ад песні да песні», у якім спрабаваў адлюстраваць гістарычны працэс фарміравання і развіцця беларускай песеннай творчасці, размясціўшы песні ў жанрава-храналагічным парадку, пачынаючы ад самых старажытных — каляндарна-абрадавых і канчаючы песнямі Вялікай Айчыннай вайны. Кожная песня ў кнізе мае шырокі навуковы каментарый, так што па сутнасці атрымаўся цікавы доследж, які пралівае святло на гісторыю беларускай народнай песні.


Віктар Ялатаў у час экспедыцыі на Гомельшчыну.

Фота аўтара

В.Ялатаву належыць фундаментальная распрацоўка тэарэтычных асноў беларускай народнай музыкі. Тры яго манаграфіі «Ладавыя асновы беларускай народнай музыкі» /1964/, «Рытмічныя асновы беларускай народнай музыкі» /1966/ і «Меладычныя асновы беларускай народнай музыкі» /1970/ сталіся прыкметнай з'явай не толькі ў беларускім, але і ў славянскім музыказнаўстве. Даследчык падкрэслівае, што глыбокая змястоўнасць і эстэтычная паўнакроўнасць беларускай народнай музыкі — вынік багацця і разнастайнасці яе выяўленчых сродкаў: ладавых, рытмічных, інтанацыйных. У кожнай з гэтых манаграфій выявілася шырыня навуковых поглядаў аўтара, тэарэтычны склад яго мыслення, дасведчанасць не толькі ў пытаннях музычнага мастацтва, але і ў філалагічных навуках, у гісторыі. Так, даследуючы рытміку, ён разглядаў асаблівасці вершаскладання песень; інтанацыйна-меладыч-

афішах ці ў праграмках, дык хаця б перад выкананнем пэўных твораў — помнікаў музычнага мастацтва Беларусі, абвяшчаць, які даследчык іх адшукаў і вярнуў на радзіму, хто апрацаваў музычны і літаратурны тэкст /так, дарэчы, ужо робіцца на канцэртах В. Скарабагатава, Дзяржаўнага камернага хору пад кіраўніцтвам І. Мацюхова і інш./? Тым больш, што апошнім часам да пошукаў нотнага матэрыялу далучаюцца і самі выканаўцы /В. Жывалеўскі, Г. Каржанеўская/, і нават кампазітары /Я. Паплаўскі/.

Зрэшты, за пяро мяне паклікаў узяцца факт зусім, дзякуй Богу, не засмучальны, а вельмі радасны: сапраўдная сенсацыя! Да яе хачу прыцягнуць увагу ўсіх, хто цікавіцца нашай музычнай мінуўшчынай. Увага: знойдзены унікальны помнік музычнага мастацтва Беларусі — опера «Маргер» кампазітара Кастуся Горскага на лібрэта Уладзіслава Сыракомлі, напісаная і пастаўленая на Беларусі ў канцы XIX ст. Яе знайшоў вядомы даследчык нашага музычнага мастацтва XIX ст. Аляксандр Капілаў. Пошукі і вяртанне клавіра твора /зразумела, у выглядзе ксеракопіі/ на Беларусь з Санкт-Пецярбурга, дзе захоўваецца арыгінал, ажыццяўляліся ў рамках праграмы «Адраджэнне музычнай спадчыны Беларусі XVIII—XIX стст.», якую распрацоўваў часовы творчы калектыў, створаны пры Беларускім інстытуце праблем культуры пад кіраўніцтвам яго рэктара У. Скараходава.

Ад усёй душы віншую ўсіх, з гэтым адкрыццём і жадаю... ну, канечне, каб опера як мага хутчэй прагучала са сцэны. А яшчэ — каб на шляху да слухачоў яна не толькі захавала імёны /а таксама «дух і літару»/ сваіх першых бацькоў — кампазітара і лібрэтыста, але і другіх — тых, хто знайшоў, рэстаўраваў і вярнуў оперу да жыцця.

**Вольга ДАДЗІЁМАВА**

ны змест беларускай народнай музыкі В.Ялатаў вывучаў у гістарычным, стылістычным, вобразна-эмацыянальным аспектах.

Глыбока даследуючы нацыянальныя асаблівасці беларускага народнага меласу, В.Ялатаў ніколі не ўпускаў з-пад увагі рысы агульнасці, якія выразна праяўляюцца ў музыцы славянскіх, і асабліва ўсходнеславянскіх, народаў. Гэту праблему ўзаемасувязей ён закранаў у многіх сваіх працах, а спецыяльна даследаваў у кнізе «Песні ўсходнеславянскай агульнасці» /1977/. Адна з асаблівасцей кнігі заключаецца ў тым, што аўтар вывучаў узаемадзеянне нацыянальных музычных традыцый у зоне непасрэдных кантактаў беларускага, рускага і ўкраінскага народаў, дзе абмен культурнымі каштоўнасцямі адбываецца асабліва інтэнсіўна, назіраецца пастаянная «дыфузія» ў гэтай галіне.

Важкі ўклад унёс В.Ялатаў у падрыхтоўку і выданне шматтомнага збору «Беларуская народная творчасць» — і як член рэдакцыйнай калегіі, і як складальнік музычнай часткі, і як аўтар уступных артыкулаў і каментарыяў да тамоў «Песні савецкага часу» /1970/, «Радзінная паэзія» /1971/, «Дзіцячы фальклор» /1972/, «Жніўныя песні» /1974/, «Веснавыя песні» /1979/, «Валачобныя песні» /1980/, «Восеньскія і талочныя песні» /1981/. У гэтых артыкулах дадзены разгорнутыя характарыстыкі кожнага з жанраў, паказана іх гістарычнае развіццё, міжжанравыя і міжэтнічныя сувязі.

Як прызнаны аўтарытэт у галіне музыказнаўства, В.Ялатаў з'яўляўся членам рэдакцыйнага савета Беларускай савецкай энцыклапедыі.

На вялікі жаль, жыццё вучонага абарвалася вельмі рана, у росквіце творчых сіл, на 58-м годзе, калі ішла напружаная завяршальная праца над новай кнігай, прысвечанай функцыянальнай прыродзе народнага музычнага мастацтва. Кніга засталася неапублікаванай...

Аддаючы належнае В.Ялатаву як даследчыку, аўтару шматлікіх прац, хочацца сказаць пра яго і як пра добрага сябра, калегу, з якім было цікава працаваць, ездзіць у экспедыцыі. Віктар Іванавіч быў надзвычай сціплым чалавекам, вельмі патрабавальным да сябе, з пачуццём адказнасці за справу, якую рабіў, за слова, якое даў. Чалавек інтэлігентны ў самым лепшым значэнні гэтага слова, ён ствараў вакол сябе адпаведную атмасферу таварыскасці, добразычлівасці, сардэчнасці, узаемападтрымкі і патрабавальнасці. Такім ён застаецца ў памяці сваіх сяброў.

**Кастусь КАБАШНІКАЎ,**
**прафесар**

**P.S.** Гэты артыкул — даніна павагі вядомаму вучонаму. Разам з тым хацелася б выправіць памылку, якая трапіла ў ЭЛІМБЕЛ і ў календары — адносна даты нараджэння В.І.Ялатава. Удакладняю: у яго асабовай справе ўласнаручна запісана 10.VII.23 г., а не 10.VIII., як пазначана ў даведачных выданнях. Гэтая ж дата — 10 ліпеня /а не жніўня!/ стаіць у вайсковым білеце і ў некаторых іншых дакументах Ялатава.

**К.К.**

Выставы

# НА БЕЛАРУСКАЙ ГЛЕБЕ

Выстава пазнаёміла аматараў мастацтва з больш як дзісяцігадовымі здабыткамі самага вядомага ў свеце беларускага мастака. Лявон Тарасэвіч заўжды будуе экспазіцыю так, каб глядач меў магчымасць адчуць прастораавае прыцягненне кампазіцый. Ягоныя творы, прадстаўленыя ў адпаведных раздзелах Нацыянальнай мастацкай галерэі ў Варшаве ці Музеі сучаснага мастацтва ў Лодзі, вызначаюцца крышталізаваным пачуццём рытму, прыцягваюць увагу сваёй сістэмнасцю. Прычым твора Тарасэвіча не можа «заглушыць» суседства з іншай відарыснай сістэмай: і чым больш складанага, аж занадта складанага, заблытанага вакол — тым больш уражвае яснасць і прастата выяўленчых сродкаў Тарасэвіча. Так у шумнай гамонцы ні аб чым вылучаецца глыбінёю і важкасцю сапраўднае Слова. Глыбінёю і важкасцю вылучаецца творчасць беларуса Лявона Тарасэвіча на фоне сучаснага мастацтва Польшчы.

Іншая справа — Тарасэвіч у Менску, у самай вялікай выставачнай зале Беларусі і Балтыі ўвогуле. Прынамсі, у Беластоку ці Варшаве залы большай за гэтую няма. Тарасэвіч рыхтаваўся да менскай імпрэзы два гады і здолеў усё як след прадумаць. Была нават зменена звыклая інтэр'ерная пабудова Палаца мастацтваў. З амфіладнай злучанасці цэнтральнай прасторы праз падраздзелы, аддзеленыя прыстаўнымі панелямі — да сістэмы калідораў, якія перадаюць ідэю шляху самога мастака да сваіх творчых адкрыццяў.

Уваход на трэці паверх быў абстаўлены панелямі, што адразу канцэнтравала позірк на ўжо хрэстаматыйны твор мастака — кампазіцыю з рытмічных, скіраваных у перспектыўную кропку выходжання ліній. Ад гэтае вялікае кампазіцыі можна аглядаць выставу, рухаючыся па гадзіннікавай стрэлцы. Гэта праца ўяўляе для мастака пэўны этап у творчасці. Знаходкі аднае карціны пераходзяць у другую. І так вымалёўваецца цыкл за цыклам. Усе творы ўваходзяць у серыі з некалькіх кампазіцый, што вычэрпваюць тую ці іншую думку мастака, каб на падставе зробленага рухацца далей. Такі метад выключае прыпадковыя хістанні, і надае ўсякай новай працы характар паслядоўнасці.

Напачатку мастак прапанаваў /левая частка залы ля ўвахода/ асобны раздзел, які пачынаўся з эцюда «Бярозы на тле веснавога сіняга неба». /Праўда, аўтар ніколі не называе сваіх твораў, таму можна для аналізу апісання прапанаваць пэўныя асацыятыўныя акрэсленні/. Можна прыгадаць эцюдныя замалёўкі дрэў Піта Мандрыяна, у якіх ужо бачыўся майстру шлях да сістэматызацыі зрокавых уражанняў. У Тарасэвіча таксама кампануецца напачатку цыкл, прысвечаны квецені лугавых траў, іх хвалістым рытмам пад павеў ветру. Прыгадваюцца словы В. Кадзінскага, што можна бачыць у пейзажы нейкую тэму, абрысы прадметаў, раслін, а можна бачыць і проста суквецці колераў. Рытмізаваныя суквецці колераў на лузе, рытмізаваныя сцяблiны дрэў, галін, але ўсё гэта — у двухмернай трансфармаванасці. Вось такі ўдалы пачатак маладога мастака, які валодае жывапіснай культурай, а таксама дэкаратыўным і архітэктанічным мысленнем.

Далей яго захапляе эстэтызацыя і багацце рытмаў дрэў у зімовы час, шэрань і блакіт ценяў на снежнай чысціні карціннай плоскасці. Потым паўстае даследаванне ўзаемадзеяння сонечнага святла на «струнах» — сцяблінках раслінак. Як кожнае даследаванне — формы вертыкальныя павялічваюцца як пад мікраскопам, каб была бачна іх канструктыўная выразнасць. З слядоў і сімвалаў свету прыроды мастак кампануе свой уласны свет.

Свет гэты зацягвае, падпарадкоўвае гледача сваёй логіцы і паслядоўнасці. Як зіма лагічна пераходзіць у веснавую квецень, вясна — у лета, лета — у восень, так і свет Тарасэвіча мае розныя фазы, цыклы.

Немагчыма не задаць сабе пытанне: чаму гэты свет такі прыцягальны? Мастак пазбягае паўтораў натуралістычнай пазнавальнасці раслінных аб'ектаў. Як бы на сумежжы яўнасці і яе свабоднай інтэрпрэтацыі праз «спрошчанасць», геаметрызацыю, плоскаснасць. На сумежжы розных кірункаў сучаснага мастацтва працавалі нямногія — Х. Міро, П. Клее, М. Шагал. Гэта шлях надзвычайных творцаў. Сваёй надзвычайнасцю Тарасэвіч падобны да іх, але мова яго — цалкам самастойная. І трэба дадаць, вельмі блізкая нам. Бо Тарасэвіч тыпалагічна глыбока беларускі мастак, які здолеў як ніхто з новай генерацыі еўрапейскіх творцаў стаць унікальным сінтэтызатарам найбольш плённых кірункаў жывапісу другой паловы XX ст. Абстрактны ташызм ён паяднаў з яснай логікай нефігуратыўнага геаметрызму, канцэптуальную мінімальнасць з экспрэсіяністычным перажываннем. А гэтыя кірункі ўжо ў 80-х гг. перажывалі свой хуткацечны фінал. Наступае разгубленасць, трансавангардная другаснасць, цытаванне колішняга. Тарасэвіч здолеў сваёй вобразнай беларускасцю ажывіць згаслыя традыцыі і зрабіць іх па-новаму актуальнымі і надзвычай уздзейснымі. Калі мастацкія пошукі на французскай ці амерыканскай глебе пайшлі ў бок тэхніцызму, дык на беларускай глебе Тарасэвіча — да першаснасці, арганічнага адчування прыроднай матэрыі. Іншымі словамі, Тарасэвіч праз прыродны антытэхніцызм здолеў знайсці шлях да эстэтыкі XXI ст. Яна намацваецца ім праз генетычную сувязь чалавека з роднай прыродай, яе вобраза-структурным багаццем.

І пасля піянерскага перыяду канцэптуалізму Марка Ротка /Ратковіча/, нашага земляка, што тварыў на амерыканскай глебе, Тарасэвіч — наступная фігура сусветнага ўзроўню на канцэптуальным напрамку.

Пройдземся па ягонай выставе: ад бяроз у святле сіняга неба праз сцябліны з квеценню лугоў да фіналу — шматчасткавай кампазіцыі, якая нагадвае павялічанае вечка плеценага народнага посуду эліпсавіднай формы. Гэта космас Тарасэвіча: ад разаранай раллі — да нябесных канцэнтрычных бегаў. Сучаснае мастацтва дало яму азбуку, каб выславіць неабсяжную глыбіню думак. І тут мікра- і макрасімвалы, якія патрабуюць набліжэння, разгляду, максімальнага абагульнення, лакальнага колернага тлумачэння; формулы, што маюць адносіны да ўсіх магчымых праяваў віталістычнасці.

Тарасэвіч у менскай экспазіцыі пазначыў у беларускім і шырэй — у еўрапейскім мастацтве адзін са шляхоў да наступнай гуманістычнай эпохі. Шлях гэты не просталінейны. Нават архітэктурная кампазіцыя яго экспазіцыйнай прасторы гэта засведчыла. Тут ёсць свае пляцоўкі — плошчы і вузкія пераходы, нечаканыя завароты і закуткі. У кожным вызначаным месцы — свой вобразны знак. Жывапісны ідэаграфічны сімвал, які кожны творца, свядомы індывідыум павінен прачытаць па-свойму. Інакш стандарт, трыумф стэрэатыпаў і блуканне па замкнёным крузе. Таму Тарасэвіч і не называе сваіх ідэаграм, якія застаюцца маўкліва-таямнічымі, але — не для дапытлівых.

**Яўген ШУНЕЙКА**

Лявон Тарасэвіч

*На здымках: творы Л. Тарасэвіча розных гадоў, прадстаўленыя на выставе, і фрагмент экспазіцыі.*

*Фота М. БАРАЗНЫ*

## ПАМЯЦЬ

Частка 5

# ГІСТОРЫЯ НАШАГА ІМЯ

**Вітаўт ЧАРОПКА**

«Все славянские обитатели православного исповедания должны считаться русскими», — гэтак выказваў афіцыйны погляд на праваслаўных літвінаў палкоўнік Эркерт, аўтар кнігі «Взгляд на историю и этнографию западных губерний России» /СПБ, 1864/. І праваслаўныя святары, якія паехалі ў Літву з Расеі, запісвалі праваслаўных літвінаў «белорусами», чым і тлумачацца тыя сотні тысяч «беларусаў» у перапісе «народонаселения западного края российской империи», складзенага ў сярэдзіне XIX ст. паводле прыходскіх спісаў. Але ці называлі сябе ўсходнія літвіны «беларусамі»? Той жа Эркерт прызнае: «... выражение «белорус», для означения народности, и «белорусский» для означения языка, никому в народе не известны. Язык свой простолюдин называет простым; а самого себя русским, часто даже литовцем». Літвінамі прадстаўляліся «беларусы» пры найме на будаўніцтва Нікалаеўскай чыгункі. В. Панаеў узгадваў: «Землекопы преимущественно нанимались в Витебской и Виленской губерниях из литовцев». Яшчэ ў 20-х гадах нашага стагоддзя па сведчанні В. Ластоўскага «народ наш называе сябе літвінамі /прык. у Чарнігаўшчыне, у ўсх. Магілёўшчыне і Смаленшчыне»/. Адзначым, што і ў Масальскім, Жыздрынскім, Карачэўскім, Бранскім, Трубчэўскім паветах Арлоўскай губерні і Сеўскім павеце Курскай губерні беларусы таксама называлі сябе «Літва», «літвінамі». Пра тое, што расейцы называюць смаленцаў літвінамі, сведчаць Максімаў і Даль. Ураджэнец Смаленшчыны Адам Кіркор не саромеўся паўтараць: «Я літвін — ніколі не знішчыць у мяне гэтага пачуцця». Дунін-Марцінкевіч, які нарадзіўся на Бабруйшчыне і правёў там дзіцячыя гады, лічыў, што вырас «між літвінаў», а сябе прызнаваў «дзіцем Літвы».

Па-ранейшаму беларускую мову яшчэ называюць літоўскай: «Малороссийский язык... заметно начинает портиться за Черниговым, изменяется в литовский», «Язык простонародный, литовский, смешанный с польским» /Асавецкі прыход, Бабруйскі павет/, «Наречие, употребляемое местными жителями, белорусское или литовское» /Седліская валасць, Ашмянскі павет/, «Местный народ говорит литовским наречием» /Нарацкі прыход/. Эркерт вымушаны быў прызнацца: «Даже Смоленскую губернию и северо-западную часть Калужской жители не причисляют еще к настоящей Великой России». І прамаўчаў, да каго яны прылічаюць сваю Бацькаўшчыну — да Літвы.

Зусім іншыя дадзеныя перапісу «народонаселения» па Менскай, Горадзенскай і Віленскай /апроч Віленскага, Свянцянскага і Троцкага паветаў/ губернях — 417 тысяч «літоўцаў». Адпаведна па губернях колькасць «літоўцаў» складала: Менская — 64149 /беларусамі запісана 666770/, Горадзенская — 201897 /беларусаў 25379/, Віленская — 152625 /беларусаў 132074/. Найбольшая колькасць «літоўцаў» была запісана якраз у тых паветах, якія знаходзіліся на землях старажытнай Літвы: Слонімскі павет — 65371 /беларусаў — 305/, Пружанскі павет — 27610 /беларусаў няма/, Слуцкі павет — 20721 /беларусаў — 60402/, Навагрудскі павет — 9744 /беларусаў — 96948/, Вілейскі — 30746 /беларусаў — 48808/, Лідскі павет — 64625 /беларусаў — няма/, Ашмянскі павет — 65098 /беларусаў — 27394/, Горадзенскі — 46270 /беларусаў — 2074/, Брэст-Літоўскі павет — 17210 /беларусаў — 1205 ч./. Другія лічбы прыведзены ў дадзеных Нікалаеўскай Акадэміі Генеральнага штаба /1885 г./. Па Менскай, Магілёўскай, Віцебскай і Горадзенскай губернях колькасць «літоўцаў» складала 488840, па Віленскай і Ковенскай — 1652361. Але так як у Віленскую губерню ўваходзілі пераважна «беларускія паветы», дык значная частка /літоўцаў/ жыла на землях сучаснай Беларусі. Вызначым прыблізна іх колькасць. Паводле перапісу 1861 г. «літоўцаў» на «Беларусі» /апроч Віленскай губерні/ было 265000, а ў 1885 г. мы ўжо бачым лічбу 488000 ч., значыць колькасць «літоўцаў» падвоілася за кошт прыросту насельніцтва. Па Віленскай губерні /апроч Віленскага, Свянцянскага і Троцкага паветаў/ мы мелі лічбу 151000, дык з улікам прыросту насельніцтва ў 1885 г. яна павінна быць 250000—280000. Агульная колькасць «літоўцаў», якія жылі ў межах сучаснай Беларусі, складала блізу 730000—760000 чалавек.

Зразумела, што ўсіх «літоўцаў» Беларусі можна выдаць за летувісаў, але гэта былі літвіны /беларусы паводле сучаснага вызначэння/. Гэта адзначыў Эркерт: «Польское дворянство, а в особенности католическое духовенство часто употребляет выражение «литовца» о тех потомках, у которых родным языком остался русский». Істотная заўвага. Мы маем сведчанне, што, па-першае, палякі называлі беларусаў «літвінамі», а, па-другое, становіцца зразумела, што католікі-літвіны ў прыходскіх спісах называліся сваім этнонімам, у той час як праваслаўныя святары запісвалі літвінаў беларусамі або велікарусамі. Паколькі ў Заходняй Літве каталіцтва было больш распаўсюджана, чым ва Усходняй, дык тут лічба літвінаў высокая, а на Усходняй — наадварот, высокая лічба беларусаў — праваслаўных літвінаў.

Ясна, што «літоўцы» ў прыходскіх спісах і ў дадзеных Нікалаеўскай Акадэміі Генеральнага штаба былі літвінамі, але пасля перапісу 1897 г. дзеля іх «беларускай мовы» іх запісалі беларусамі. Вось такі механізм ператварэння літвінаў у беларусаў.

Нагадаем, што пасля далучэння Меншчыны і Заходняй Літвы да Расеі новыя ўлады хутка вызначылі, што тамтэйшае насельніцтва таксама размаўляе на «белорусском наречии», значыць, яны «беларусы», а «литовцами» іх называюць «по политическим преданиям». А таму па-ранейшаму жамойтаў, а то нават і латышоў расейскія гісторыкі і этнографы выдаюць за літоўцаў /літвінаў/. Зведзеныя ў зман замежныя навукоўцы пачалі шчыра прызнаваць жамойтаў за сапраўдных літвінаў.

●

Працэс русіфікацыі літвінаў узмацніўся пасля падаўлення паўстання пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага. «Здесь решается не областной, но общерусский вопрос», — папярэджваў расейскі ўрад у 1864 г. папячыцель Віленскай вучэбнай акругі І. Карнілаў. І не апошняе месца ў перамозе «русского дела» па-ранейшаму павінна была адыграць замена наймення «Літва» на «Беларусь», а этноніма «літвіны» на этнонім «беларусы». Усялякая згадка пра Літву ў дачыненні да Беларусі аспрэчвалася. Так, падпалкоўнік Генеральнага штаба Зялінскі аспрэчваў географа К. Арсеньева, які ў кнізе «Статистические очерки России» да Літвы аднёс Горадзенскую, Менскую, Віленскую і частку Ковенскай губерні, і сам бярэцца тлумачыць геграфу, што гэтыя губерні аднесены да Літвы таму, што яны ўваходзілі ў ВКЛ. Абурaецца Зялінскі, «почему Ан. Егунов причисляет жителей Минской губернии к литовскому племени» /А. Егунов «О средних ценах на хлеб в России» — «Отечественные записки. 1852 г. Т. XXXV/, і сам жа тлумачыў: маўляў, карыстаўся недакладнымі крыніцамі. Гэта было своеасаблівае папярэджанне тым, хто пісаў пра «Северо-Западный край», каб памяталі, што «все Виленское воеводство, или большею частью Троцкаго, составляла Литву или Жмудь». І тут Жамойцію выдаюць за Літву. Але Зялінскі ўсё ж прагаварыўся і адзначыў, што Беларусь некалі «называли Великим княжеством Литовским».

Важным сродкам русіфікацыі літвінаў была і забарона нацыянальных школ, казанняў на беларускай мове ў касцёлах, скасаванне уніі і недапушчэнне літвінскай мовы ў друк.

Жамойты арганізавалі духоўнае супраціўленне русіфікацыі. У Прусіі яны выдавалі газеты, друкавалі кніжкі на жамойцкай мове. Спачатку жамойты прытрымліваліся свайго ранейшага наймення. Напрыклад, паэт Сымонас Станявічус нават напісаў оду пад красамоўнай назвай «Слава жамойтаў». Аднак лідэры жамойцкага адраджэння зразумелі выгаду прысваення назвы «Літва» /такім чынам Жамойція нібыта станавілася пераемніцай ВКЛ/ і пачалі выкарыстоўваць гэтую назву для азначэння Жамойціі. Цікава, калі з'явілася літаратура ўраджэнцаў Аўкштайціі, дык жамойцкія літаратары не прызнавалі мову іх твораў за летувіскую. Прымаюць жамойты і расейскую назву «Беларусь». Напрыклад, этнограф Балтрашайціс не адмаўляў, што цэнтральныя і заходнія землі Беларусі ёсць Літва, але для яго гэта была не этнічная, а гістарычная Літва. Жамойцкі ксёндз Л. Юцявічус свае нарысы з Літвы назваў «Беларускія замалёўкі».

Што ж да польскіх этнографаў, дык адны прынялі расейскую назву Літвы — «Беларусь», а другія не прызнавалі гэтага назову. Так, Камінскі літвінаў называў «літоўска-крывіцкі народ». Ян Карловіч запісаныя ім легенды і паданні з Лідскага, Наваградскага і Свянцянскага паветаў надрукаваў пад назвай: «Народныя паданні і казкі, сабраныя ў Літве» /1888 г./. І разам з тым друкуюцца «Беларускія прыказкі з Наваградскага павета» /1881/, «Беларускія загадкі з Мінскай губерні» /1880/ І. Дымбоўскага, «Люд беларускі на Русі Літоўскай» М. Федароўскага /хаця ён адзначыў, што жыхары Пружан называюць сваіх паўночных суседзях літвінамі/. З'яўляецца яшчэ адзін тэрмін «Беларусь Літоўская», прынамсі, яго выкарыстоўвалі Ю. Смалінскі і Р. Зубовіч.

Наколькі моцным было ўздзеянне расейскай прапаганды, сведчыць погляд на літвінаў «літвіна» Адама Кіркора. У сваёй працы «Этнографический взгляд на Виленскую губернию» ён да літвінаў залічыў аўкштайтаў, а да беларусаў — літвінаў. У адрозненне ад яго «літвін» Сыракомля называў літвінаў «літоўска-рускі — народ», В. Каратынскі — «літоўска-русінскім». Толькі Ігнат Дамейка, які жыў у эміграцыі і пазбегнуў расейскага «промывания мозгов», па-ранейшаму лічыў свой народ ні беларусамі, ні рускімі, ні крывічамі, а літвінамі. Ва ўспамінах ён піша: «Два нашыя вучні наваградскай школы з малых гадоў добра ведалі наш літвінскі народ». «Літоўскім народам» называе беларусаў і Кучэўскі-Парай. На жаль, гэтыя напаміны засталіся па-за ўвагай літвінскай інтэлігенцыі. Хаця — можна зразумець літвінскіх літаратараў, якія лічылі, што пісалі на беларускай мове /значыць, і народ, які размаўляе на ёй, беларусы/. Напрыклад, Ф. Батушэвіч, які не здолеў разабрацца ў русіфікатарскай палітыцы ды і гістарычных ведаў яму бракавала, і рабіў наступныя высновы: «Спрадвеку, як наша зямелька з Літвой злучылася, як і з Польшчай з'ядналася дабравольна, дык усе яе «Беларусіяй» звалі...» Яшчэ больш заблытаны быў погляд на літвінаў і беларусаў у Дуніна-Марцінкевіча, які прызнаваўся, што вырас сярод літвінаў і лічыў беларусаў «братнім племем», але сваіх герояў-беларусаў называў дзецьмі Літвы. І новае пакаленне літвінскай інтэлігенцыі таксама прымае найменне «Беларусь» і «беларусы» як саманазву іх Бацькаўшчыны і народа. Гэта негатыўна паўплывала на развіццё нацыянальнай свядомасці літвінаў. Каталіцкія святары, пераважна палякі, пачалі даводзіць, што літвіны-католікі — «палякі», а праваслаўныя святары і расейскі ўрад даводзілі, што літвіны-праваслаўныя — «беларусы», або рускія. Дзе тут было разабрацца?

Трапна вызначаў гэтае становішча невядомы аўтар: «Хто я! — паляк, беларус ці літвін». І ўсё ж, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы для нацыянальнага жыцця, большасць літвінаў памяталі свой «род». Ясна пра гэта сведчыў у 1902 г. А. Шэйн: «Селяне нашай губерні /Горадзенскай. — **В. Ч.**/ не называюць сябе ні рускімі, ні беларусамі. Некаторыя лічаць сябе літвінамі... Наогул жа аб сабе і сваёй краіне яны выказваюцца так: «Мы тутэйшыя, наша краіна не руская, не польская, але забраны край». Падобнае адзначаў у 1904 г. і Я. Карскі: «У наш час просты народ у Беларусі не ведае гэтай назвы. На пытанне: хто ты? прасталюдзін адказвае — рускі, а калі ён католік, то называе сябе католікам, або палякам і іншы раз сваю радзіму называе Літвой, а то і проста скажа, што ён «тутэйшы» /tutejszy/ — мясцовы, зразумела супрацьстаўляючы сабе асобе, якая размаўляе па-вялікаруску, як прышламу ў Заходнім краі...»

Не будзем спяшацца з высновай пра нізкую нацыянальную свядомасць літвінаў. Паводле назіранняў этнографаў, этнасвядомасць у дарослых членаў любога этнаса аслаблена, калі яны не кантактуюць з прадстаўнікамі іншых этнасаў. Як правіла, у такім становішчы апынаецца вясковае насельніцтва і вызначае сваю нацыянальную прыналежнасць лакальна-тэрытарыяльным, або этнацэнтрычным найменнем, напрыклад: палешукі, тураўцы, мясцовыя, тутэйшыя. Нацыянальная саманазва трывала захоўваецца на межах этнаса. Што мы назіраем у дачыненні да літвінаў? Яшчэ ў 30-х гадах літвіны прытрымліваліся свайго спрадвечнага наймення ва ўсходняй Магілёўшчыне, Смалешчыне, заходняй Чарнігаўшчыне, Гомельскай вобласці. Для ўкраінцаў літвінамі былі і жыхары Палесся. Украінскі пісьменнік Нечуй-Лявіцкі ў рамане «Бурлачкі» /1878 г./ зазначыў: «На українських заводах з'явіліся безщасні поліщукі, це як їх звуть на Україні, литвини...» А гісторык І. Лявіцкі сведчыў у кнізе «Татары і Літва» /Кіеў 1876 г./: «Тепер у нас на Україні литвинами звуть та чорнорусів, що живуть на дылекому Поліссі, в Минській, Могилевській, Витебській та Виленській губернії». Нават у слоўніку ўкраінскай мовы Б. Грынчанкі /1907 г./ тлумачыцца, што Літва — Беларусь; літвін — беларус, літвінскі — беларускі. Заходнія суседзі — мазуры, палякі — таксама называлі «беларусаў» літвінамі. І найболей устойліва захоўваўся этнонім «літвіны» якраз на землях, якія межавалі з Польшчай, — на Берасцейшчыне і Горадзеншчыне. Латышы называлі літвінаў старажытным найменнем сваіх непасрэдных суседзяў крывічой «крэвам», аднак тых жа летувісаў называлі «лейцісамі» або «лейшамі», але не літвінамі. Самі ж літвіны называлі летувісаў жамойтамі або жмудзінамі. Гэта адзначалі Снегіроў, Шпілеўскі, Насовіч, Шыранскі-Шахматаў, М. Гарэцкі, гэта засведчана і ў «беларускіх» паданнях. Нават у самой Беларусі балтамоўнае насельніцтва называлі «жмудзінамі». Пазней, калі Жамойція афіцыйна прыняла назву

(Заканчэнне. Пачатак у NN 26-27)

«Летува», дык віленцы пачалі называць «Беларусь» Вялікалітвой, а Жамойцію — Ковеншчынай або Ковенскай Літвой. А ў часы Летувіскай Сацыялістычнай Рэспублікі яны называлі летувісаў «лецвякамі» — тым найменнем, якім у ВКЛ называлі цыганоў і габрэяў.

Можам заключыць, што на парозе XX ст. назва «Белая Русь» існавала на паперы, але зусім не была вядома сярод саміх «беларусаў». На Смаленшчыне адносілі яе да Расеі. І ў XIX ст. народ жыў там пад сваім найменнем «літвіны». Толькі невялічкая купка літвінскай інтэлігенцыі, якая атрымала адукацыю ў расейскіх навучальных установах і ўспрыняла расейскае вызначэнне Літвы як «Беларусі» упарта прышчэплівала гэты чужы назоў свайму народу. Іх поспехі былі сціплымі, хоць не знайшлося на той час сярод літвінаў чалавека, які змог бы разабрацца ў гісторыі Літвы і разгадаць паводле В. Ластоўскага тайну «літоўскага сфінкса». Толькі М. Багдановіч у вершы «Пагоня» сімвалам «беларускага» адраджэння выбраў ваякаў старадаўняй Літоўскай пагоні.

З утварэннем Беларускай Народнай Рэспублікі, а пасля і Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі назва «Беларусь» набыла палітычны змест і змяніла былую назву нашай Бацькаўшчыны. Вынікі гэтай замены трагічным часам паўплывалі не толькі на этнічную свядомасць і кансалідацыю літвінаў, але і на іх культурнае і палітычнае жыццё. Паколькі найменне «Беларусь» не мела той гістарычнай і культурнай традыцыі, як найменне «Літва», дык «беларусы» нібыта пазбавіліся сваёй гісторыі. І сапраўды, што маглі знайсці «беларусы» ў крыніцах і летапісах пра сваё мінулае? Пераважная частка іх гісторыі была «схавана пад назовам «Літвы», але стала агульнапрынятым, што гісторыя Літвы — гэта гісторыя летувісаў, але не беларусаў. Невыпадкова Купала падсумоўваў: «А беларусы нічога ж не маюць». І колькі пакаленняў «беларусаў» выраслі адлучанымі ад сваёй сапраўднай гісторыі! Наш нацыянальны нігілізм — таксама вынік прыняцця назвы «Беларусь»...

●

Здавалася, што назва «Беларусь» канчаткова замацавалася за Літвой і памяць пра былое найменне згіне ў народзе. Аднак і ў 30-х гадах этнонім «літвіны» жыў сярод беларусаў. Так, чарнігаўскія, бранскія і калужскія беларусы называлі сябе літвінамі... Для ўкраінцаў жыхары Магілёўшчыны былі літвінамі. Каля Мсціслаўя яшчэ ў 30-х гадах І. Бялькевічу, які збіраў матэрыял для слоўніка ўсходняй Магілёўшчыны, паведамлялі, што іх заходнія суседзі «літвіны». Польскі этнограф Л. Асоўскі ў 1936 г. адзначыў, што ў ваколіцах Ганцавіч і ў Пагарынні мясцовае насельніцтва вызначае сябе як літвінаў, да таго ж на захад ад Гарыні жыхары мянуюцца літвінамі, а на ўсход літоўцамі. А гэты рэгіён — поўдзень Пінскага Палесся. Зноў сведчанне, што і палешукі прызнавалі сябе за літвінаў. Натуральна, што захаваўся этнонім «літвіны» і на землях старажытнай Літвы, што пацвердзілі дадзеныя этнаграфічных даследаванняў ужо 60-х гадоў. Цікава адзначыць наступны факт: татары на Беларусі яшчэ ў 50-х гадах называлі сябе «літоўскімі татарамі».

Паслядоўным прыхільнікам вяртання Беларусі яе спрадвечнага імя «Літва» быў гісторык і моваед Янка Станкевіч. Цікава прасачыць эвалюцыю ягоных поглядаў на гэтую праблему. Спачатку ён успрыняў назву «Беларусь» як найменне Бацькаўшчыны. Аднак у выдадзенай у Менску ў 1942 г. кнізе «Крыўе — Беларусь у мінуласці» ўжо сцвярджае, што «назоў беларусы, Беларусь шмат пазнейшы і накінены маскалямі. Да палавіны XIX веку беларусы гэтым назовам сябе не называлі, а з не-беларусаў называлі іх дагэтуль гэтым назовам блізу адны толькі маскоўскія палітыкі — з мэтамі тэндэнцыйна-палітычнымі». На той час Я. Станкевіч знаходзіўся пад уплывам Ластоўскага і ўслед за ім паўтарыў, што «стары і запраўдны назоў беларусаў «крывічы», але зазначыў, што і назоў «ліцвіны для беларусаў быў назовам нацыянальным». Свае высновы Я. Станкевіч нагадаў і ў другой кнізе «Зь гісторыі Беларусі» /1958 г./, але на гэты раз адмовіўся ад назвы «Крывія». Ні Крывія, ні Беларусь, а Літва: «...наш народ тады не зваўся Беларусамі, але Літвінамі, Літвою». Адначасова да гэтай думкі прыходзяць і другія беларускія гісторыкі на эміграцыі. Напрыканцы 60-х гадоў яны выдаюць часопіс «Літва». Павел Урбан пераканаўча давёў, што Белай Руссю ў мінулым была Масковія, а сучасная Беларусь называлася Літвой. Грунтоўную працу «Нарысы па гісторыі Вялікалітвы», у якой разглядаліся ўсе праблемы, звязаныя з назвай «Літва», выпусціў у 1978 г. той жа Янка Станкевіч.

Вядома, назва «Беларусь» ужо набыла пэўныя гістарычныя традыцыі, таму разлічваць, што так лёгка з ёю расстануцца сучасныя «беларусы», наіўна. Усё ж прыклады ёсць. Адзін з буйнейшых культурных дзеячаў эміграцыі Ян Пятроўскі ў мемуарах напісаў: «...родная мая Бацькаўшчына — маці — Літва, Вялікае княства Літоўскае». Красамоўна, што і ў Савецкай Беларусі пачалі гучаць галасы, што ў мінулым пад Літвой трэба разумець Беларусь. Так, Язэп Юхо ў артыкуле «Пра назву «Беларусь» указаў, што Белай Руссю спачатку была Растоўска-Суздальская зямля, а пасля Масковія, і прывёў дастаткова прыкладаў, што назва «Літва» раней адносілася да сучаснай Беларусі: «У афіцыйных дакументах XVI—XVIII стст., апроч «Літвы» для ўсёй тэрыторыі Беларусі другога наймення наогул не існавала, і ўвесь народ называлі «Літвою». Вельмі істотнай была і выснова Міколы Ермаловіча, што «ў старажытныя часы пад Літвой разумелася не сучасная Літва, а заходняя частка сучаснай Беларусі, дзе жыло племя Літва». На жаль, амаль ніякага ўплыву на свядомасць беларусаў гэтыя артыкулы не зрабілі...

Ды літвіны жылі і ўпарта не хацелі быць «беларусамі». Яшчэ напрыканцы 60-х гадоў жыхары Ваўкавыскага, Слонімскага, Баранавіцкага, Ружанскага, Горадзенскага, Камянецкага, Івацэвіцкага, Бярозаўскага, Берасцейскага раёнаў называлі сябе літвінамі. Для жыхароў Гароднай /Столінскі р-н/ Літва — гэта ваколіцы Баранавіч, Міра, Капыля, Слуцка, Навагрудка, Клецка. І гэта пасля русіфікацыі, паланізацыі, «беларусізацыі»...

У апошнія гады з'явіўся шэраг публікацый, у якіх прапагандаваліся веды пра этнонім «Літва». Значнай з'явай у справе вяртання нашай спрадвечнай назвы стаў выхад у 1991 г. атласа «Беларусь в картах». Складальнік атласу Яўген Шыраеў яшчэ раз нагадаў: «...понятия «Литва» и «литовский» в те времена соответствовали понятиям «Белоруссия» и «белорусский». Шыраеў прапаноўвае перайменаваць рэспубліку, называць яе Літвіна-Беларуская Рэспубліка або Рэспубліка Літва — Беларусь. Гэтую прапанову падтрымлівае са старонак «ЛіМа» кандыдат гістарычных навук Э. Савіцкі.

Прыхільнікаў ідэі вяртання нашага спрадвечнага наймення «Літва» становіцца ўсё больш, і, трэба думаць, што з ростам нацыянальнай свядомасці ўсё больш беларусаў будуць усведамляць сябе літвінамі. Менавіта этнонім «літвіны» дасць нам магчымасць адчуць сябе нашчадкамі нашых вялікіх продкаў. Нацыянальнае адчуванне нараджае ў душы любоў да Бацькаўшчыны — патрыятызм, чаго якраз беларусам і не стае. Важны і палітычны момант. Вярнуўшы назву «Літва», мы нейтралізуем расейскую прапаганду, што беларусы — гэта тыя ж рускія /«Ды і сама назва «Беларусь» сведчыць аб яе адзінстве з Расіяй»/, а таксама і спекуляцыю на нашай гісторыі летувісаў; гэта і ўдар па польскіх інтрыгах правесці ідэю, што заходняя Беларусь — гэта «ўсходнія крэсы» Польшчы. Зрэшты, вярнуць сваё імя — наш маральны абавязак перад сваімі продкамі. Аднак і назва «Беларусь» стала нашым собскім імем. Пад гэтай назвай адбывалася нашае адраджэнне, аднаўленне нашай дзяржаўнасці, таму слушна захаваць яе і называць нашу рэспубліку Літва — Беларусь, а нацыянальным этнонімам узяць «літвіны». Прынамсі, асабліва я лічу сябе літвінам і веру, што гэтым святым для беларусаў імем калісьці будзе называцца беларускі народ.

# ІВАН ШАЛЬМАНАЎ



10 ліпеня 1993 года на 57-ым годзе жыцця раптоўна памёр пісьменнік Іван Шальманаў.

Іван Ігнатавіч Шальманаў нарадзіўся 5 верасня 1936 года ў вёсцы Каромка Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці ў сялянскай сям'і. У 1955 годзе закончыў Рогінскую сярэднюю школу. Служыў у Савецкай Арміі. Пасля дэмабілізацыі працаваў на розных прамысловых прадпрыемствах Мінска, качагарам на паравозе. З 1968 г. — літсупрацоўнік рэдакцыі газеты «Связист Белоруссии». З 1975 г. — рэдактар, намеснік дырэктара Мінскага абласнога Дома народнай творчасці, з 1976 г. — старшы рэдактар Мінскага эксперыментальна-канструктарскага тэхналагічнага бюро скургалантарэйнай і фурнітурнай прамысловасці.

Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве /1983/. Апошнія гады працаваў на Беларускім радыё.

Першае апавяданне «Сябры» было надрукавана ў газеце «Чырвоная змена» ў 1960 годзе. Друкаваўся ў часопісах «Маладосць», «Беларусь», «Смена». Аўтар зборніка апавяданняў «Дзень пачаўся» і аповесцей «Цагельня», «Зарыва ў начы», многіх радыёп'ес. Творы Івана Шальманава перакладзены на рускую, украінскую і польскую мовы. Яго апавяданні, аповесці расказваюць пра людзей працы, простых і ў той жа час складаных у сваіх памкненнях і высакародстве. Пісьменнік быў чуйны да народнага слова і шчодра надзяляў ім сваіх герояў.

Светлая памяць пра Івана Шальманава, сумленнага працаўніка, шчырага, добразычлівага чалавека, назаўсёды застанецца ў памяці тых, хто жыў і працаваў разам з ім.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны раптоўнай смерці пісьменніка Івана ШАЛЬМАНАВА і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

# НА ПОМНІК МІХАСЮ ТКАЧОВУ

Выканкам Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады шчыра дзякуе грамадзянам, прадпрыемствам і арганізацыям, якія ўнеслі сродкі на будаўніцтва помніка Міхасю Ткачову. Міхась Ткачоў — першы старшыня БСДГ, вядомы беларускі вучоны, доктар гістарычных навук, прафесар, былы галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя». Памёр у 1992 годзе.

Па стану на сённяшні дзень сродкі пералічылі:

| | |
|---|---|
| — Каралёва Д. С. /г. Мсціслаў/ | 10000 рублёў; |
| — Прыхільнік БСДГ | 20000 рублёў; |
| — Міраслаў Целушэцкі /г. Беласток/ | 46000 рублёў; |
| — Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі | 100000 рублёў; |
| — Выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» | 30000 рублёў; |
| — Праўленне Белкаапсаюза | 100000 рублёў; |
| — Цітовы /в. Шыркі, Мсціслаўскага раёна/ | 5000 рублёў; |
| — Казлоўскія /г. Мсціслаў/ | 2000 рублёў; |
| — Вячаслаў Болбат /г. Баранавічы/ | 10000 рублёў; |
| — Беларускі фонд культуры | 30000 рублёў; |
| — ГИФ «Белая Русь» | 25000 рублёў; |
| — АТ «Кросны» | 50000 рублёў; |
| — Выдавецтва «Полымя» | 100000 рублёў; |
| — Управа Сойма БНФ «Адраджэнне» | 50000 рублёў; |
| — МП «Залессе» | 25000 рублёў; |
| — Выканкам Смаргонскага райсавета | 150000 рублёў; |
| — Бараўлянская суполка БСДГ | 3200 рублёў; |
| — Смаргонская філія БСДГ | 2500 рублёў; |
| — Дзяржынская суполка БСДГ | 500 рублёў; |
| — Жодзінская філія БСДГ | 5100 рублёў; |
| — Янка Запруднік /ЗША/ | 20 $ |
| -- Мікола Латушкін /ЗША/ | 200 $ |
| -- Янка Жучка /Бельгія/ | 10 $ |
| -- Вітаўт Кіпель /ЗША/ | 60 $ |
| — Мастоўская суполка БСДГ | 3000 рублёў; |
| — Баранавіцкая філія БСДГ | 6800 рублёў; |
| — Гарадоцкая філія БСДГ | 2800 рублёў; |
| — Наваполацкая філія БСДГ | 1440 рублёў; |
| — Вештард І. З. | 2000 рублёў; |

— Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь — сс. Пырх І. І., Цялежнікаў У. І., Крыжаноўскі М. К., Аксаміт М. У., Заблоцкі У. М., Малашка В. А., Цумараў Я. А., Зданевіч Л. І., Навумчык С. І., Баршчэўскі Л. Т., Шут А. А., Дзейка Л. І., Вярцінскі А. І., Слабчанка С. І., Голубеў В. Ф., Маркевіч М. М., Холад П. І., Козік Л. П., Папоў Ю. М., Міцько П. П., Новікаў Я. В., Какоўка В. Ф., Паўлаў В. В., Сасноў А. В., Глушкевіч Я. М., Вячэрскі Р. А., Даўлюд А. У., Спіглазаў А. Ф., Цесавец М. М. — 30900 рублёў; сс. Новік У. У., Грушавы Г. У., Беленькі Ю. А., Ганчар В. І., Грыбанаў В. М., Слямнёў М. А., Давідовіч С. Ф., Гюнтэр Б. Д., Пазьняк З. С., Марыніч М. А., Герасіменка А. М., Лавіцкі Г. М., Радкевіч Л. І., Янец А., Арцыменя Д. К., Звераў Л. А. — 30500 рублёў; сс. Канапля Я. Ф., Трусаў А. А., Сярэдзіч І. П., Шушкевіч С. С., Аламліеў В. П. — 15000 рублёў; с. Карпенка Г. Д. — 5000 рублёў; с. Каратчэня У. М. — 10000 рублёў; с. Гілевіч Н. С. — 10000 рублёў; с. Катушкін П. М. — 10000 рублёў.

**Для тых, хто жадае дапамагчы ў пабудове помніка, нагадваем, што сродкі трэба пералічваць на адрас: 220600, г. Мінск, вул. А. Кашавога, 9, Заводскае аддзяленне Белпрамбудбанка, рахунак 700810, код 338, ЦР БСДГ, на помнік М. Ткачову.**

**Старшыня ЦР БСДГ А. Трусаў**

**Калектыў тыднёвіка «Літаратура і мастацтва» выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы рэдакцыі Вярбіцкай Алене Мікалаеўне з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — смерці БАЦЬКІ.**

Анатоль КІРВЕЛЬ

# «ПРАВІНЦЫЯ» САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ

ЭСЭ

СЛОВА гэта — «правінцыя» — можна вымаўляць па-рознаму: з адценнем іроніі і без яе, — і тады двукоссе не патрэбна, — і хаця слова будзе паўтарацца ў тэксце неаднаразова /як у адным, так і другім значэннях/, аўтар дазваляе сабе калі-нікалі абыходзіцца без двукосся, спадзеючыся, што чытач і сам здагадаецца, дзе яно патрэбна, а дзе не.

Такім чынам: 1/ Санкт-Пецярбург — «правінцыя»? ці 2/ «Правінцыя Санкт-Пецярбург» /накшталт правінцыі Шампань ці якой іншай/?

Што ні кажы, а пераезд колішняга Ленінскага ўрада ў Маскву якраз і пазначыў тую мяжу, якая паступова прывяла да ўспрымання былой сталіцы Расійскай імперыі /і, напачатку, маладой савецкай рэспублікі/ як звычайнага абласнога ці краёвага цэнтра, карацей, як «правінцыі». З гэтага і пачалося спачатку незаўважнае, але потым усё больш прыкметнае і даволі свядомае прыніжэнне вядомага не толькі ў Расіі і не толькі ў Еўропе горада.

І справа тут не ў адвечнай нязгодзе Пецярбурга і Масквы, не ў іхняй даўняй спрэчцы і даўняй барацьбе за валоданне душамі і пэўнымі матэрыяльнымі і духоўнымі каштоўнасцямі, — справа менавіта ў прыніжэнні ролі адзінага ў Расіі еўрапейскага горада. А мо гэта якраз і ёсць сведчанне даўняга саперніцтва, і тады жаданне прынізіць выглядае як зразумелая, хаця і не вартая ўхвалы помста за страчаную на нейкі час веліч? /Ці лёгка было прымірыцца Маскве, што, дзякуючы Пятру, яна ўжо не сталіца?! І хіба гэтак жа лёгка адмовіцца Пецярбургу /Петраграду, Ленінграду/ ад той бясспрэчнай павагі, якую атрымаў гэты горад праз свае культурныя каштоўнасці?!/.

Дух імперыі аднолькава пашкодзіў як Маскве, так і Пецярбургу, але пашкодзіў па-рознаму: масквічам пакінуў азіяцкую родавую крыўду, а Санкт-Пецярбургу — стрыманае шкадаванне і хіба што вялікасную пагарду былога арыстакратычна-саноўнага горада да «чэрні» — да азіятаў-масквічоў.

Масква ўмее лаяцца. Піцер на гэта не здольны — не дазваляе культура, набытая за два з нечым стагоддзі, культура, якую не забілі ні рэпрэсіі, ні эканамічныя ці палітычныя абмежаванні. Але з той ленінскай пары — Санкт-Пецярбург — да нашага часу — фактычна правінцыя.

Ці стасуецца гэта неяк з нашай Беларуссю? Хіба цікавая для беларусаў шматгадовая «спрэчка» паміж Масквой і Пецярбургам?

Як ні дзіўна, але так! Стасуецца! Беларусь і Пецярбург здавён звязаны той тонкай нітачкай, якая не рвецца і дагэтуль, і якая была сплецена яшчэ ў той час, калі цар Пётр пачаў выпісваць з беларускіх губерняў ледзь не цэлыя вёскі для ўзвядзення будучай сталіцы. І пакуль Пецярбург быў сталіцай, ён жывіўся тымі шматлікімі «прышлымі» людзьмі і з Беларусі, і з іншых куткоў Расійскай імперыі, а Беларусь у сваю чаргу жывілася тымі набыткамі, якія выпрацоўваў гэты паўночнаеўрапейскі горад, той культурай, якая была адным з яго фундаментаў і адначасова яго аблічцам і яго сутнасцю, народжанай ад спалучэння розных еўрапейскіх культур з расейскай азіяцкай «культурай». Але гэта быў горад, які не толькі забіраў, але і даваў. І Беларусь мусіць быць удзячнай, што яна мае і Каліноўскага, і Купалу, і братоў Луцкевічаў, і шмат каго яшчэ.

Так было да той пары, пакуль Пецярбург быў сталіцай. Але ён і потым не згубіў сваёй ролі буйнейшага цэнтра культуры, праўда, за кошт былой славы, за кошт таго, што нельга было перанесці ў Маскву —Эрмітаж, Летні сад, 12 калегій універсітэта, Ісакій і Петрапаўлаўку. Каштоўнасці велізарнейшыя, і яны выконваюць сваю ролю і зараз, хіба толькі стаўленне да іх /менавіта ў наш час/ трошачкі іншае: усе мы зрабіліся незалежнымі, і праз тое нібыта сорамна ўжо ісці «на паклон» да былога «ўладара» — гонар не дазваляе, — але калі прыцісне, то йдзеш! Куды дзявацца: незалежнасць — каштоўнасць іншага кшталту, чым навука ці культура.

І вось, прыязджаючы на кароткі час у Менск, прыкмячаеш дзіўную асаблівасць: у першыя дні прыезду на цябе пазіраюць як на асобу з нейкага іншага свету — і гэта рэлікт былой павагі да Пецярбурга, да сталіцы. Але праз два ці тры дні заўважаеш, што ты ўжо не гэткая вартая ўвагі асоба, як дзень таму; ты — проста з'ява, якая перашкаджае незалежнасці, бо гэта з'ява /правільней, увасабляючая яе асоба/ імкнецца нешта сказаць, давесці сваё, на яе думку, карыснае Беларусі. А навошта незалежнасці чужыя парады?! Санкт-Пецярбург — ужо не сталіца і нат не вабнае месца для чарговай хвалі «культуртрэгераў». С-Пецярбург — ужо правінцыя. А сталіца цяпер - Менск! /Ці не блізка гэта да «маскоўцаў» з іхнім здаволеным нарэшце адчуваннем выключнасці і абранасці як жыхароў сталіцы хай і не існуючай імперыі?! І ці далёка мы — беларусы — адышлі ад іх?!/.

То калі так зручней беларусам — лічыць С-Пецярбург «правінцыяй», — хай гэтак і будзе: кожнаму народу, кожнай нацыі патрабуецца пэўны прамежак часу, каб адчуць сябе і нацыяй, і народам. А С-Пецярбург тым часам будзе існаваць як правінцыя С-Пецярбург — суверэнная культурная адзінка, у якой маюць патрэбу не толькі беларусы. А што яны маюць у ёй патрэбу, не падлягае сумненню: у гэтай суверэннай правінцыі не толькі жыве звыш 80 тысяч беларусаў, якія помняць пра сваю Радзіму; тут адбываюцца міжнародныя канферэнцыі і сімпозіумы, міжнародныя выставы і фестывалі, на якія — як роўных! — запрашаюць і прадстаўнікоў незалежнай Беларусі.

У гэтай «правінцыі» шмат такога, што мае непасрэднае дачыненне да Беларусі /не даследаваныя поўнасцю калекцыі гістарычных і культурных помнікаў, дакументы, творы мастацтва/, і — магчыма! — С-Пецярбург — не толькі «правінцыя Санкт-Пецярбург», але і адна з беларускіх правінцый, вынесеных за межы Беларусі, яе фарпост. Ды хіба ж гэта «правінцыя»?!

Гэта сапраўды правінцыя, але ў іншым — вышэйшым і станоўчым — сэнсе, і кожны беларус мае права ганарыцца тым, што мае такую правінцыю /двукоссе знарок не пастаўлена, бо неабходнасць яго зусім мізэрная. — **А.К.**/.

Тым, хто мала знаёмы з гэтай правінцыяй, можна паведаміць, што ў гэтай «правінцыі» жыве і працуе Валянцін Грыцкевіч, гісторык, філолаг, урач, стваральнік і старшыня Рады беларускай суполкі ў СПб; Мікола Нікалаеў, загадчык аддзела газет Расійскай нацыянальнай бібліятэкі; Алег Лысенка, супрацоўнік Расійскага музея этнаграфіі; Анатоль Разумаў, бібліёграф, рэдактар «Ленінградскага мартыралогу» /спісу ахвяр сталінскіх рэпрэсій, сярод якіх шмат беларусаў/, ініцыятар уздзвіжэння мемарыяльнага крыжа на Левашоўскіх могілках — месцы расстрэлу нявінных ахвяр; Лявон Навасельскі, капітан 1 ранга, які прайшоў праз свой падводны Чарнобыль; Анатоль Лукоўскі, збіральнік рэдкіх кніг і выданняў па гісторыі Беларусі /пераважна дарэвалюцыйныя выданні, якіх не знойдзеш ужо нідзе/; Ігар Мацыеўскі, кампазітар і мастацтвазнаўца, украінец па паходжанні, аўтар цыкла песень на словы Максіма Багдановіча; мастакі Янка Чарнякевіч і Віктар Сівуха, беларусы, якія вучыліся ў «правінцыяльнай» мастацкай школе — славутай «Мухінцы», — і не толькі працуюць, а працуюць плённа: Чарнякевіч /у габелене і роспісе па тканіне/, Сівуха /у калажах з тканіны/ дасягнулі таго /правінцыйнага/ узроўню, з якім не сорамна паказацца ў нейкім там Парыжы ці Амстэрдаме і крыху сорамна выстаўляцца ў сталічным Менску, бо абодва яны не дазваляюць сабе той ступені /свабоды/, якая лічыцца ганаровай сярод сталічных /і не толькі сталічных/ беларускіх мастакоў...

Правінцыя С-Пецярбург здольна прынесці яшчэ большую карысць Беларусі, калі наша Бацькаўшчына будзе мець ласку і жаданне пасылаць /ці «выштурхоўваць»?!/ як мага больш сваіх выхаванцаў на «стажыроўку» ў гэту «правінцыю».Цікавейшы прыклад з абсальвэнтам БДУ Міколам Нікалаевым, які фармальна ўжо меў адпаведную адукацыю, але сапраўдныя веды і сапраўдную культуру карыстання гэтымі ведамі атрымаў толькі тут. А ўспомніць мастакоў-беларусаў, якія тут вучыліся і працуюць. Зразумела, што і на Беларусі Віктар Сівуха і Янка Чарнякевіч лічыліся б мастакамі, але... толькі лічыліся б! А сапраўднымі мастакамі, якія не даруюць сабе безгустоўнасці ці непрафесіяналізму, яны зрабіліся толькі тут, і не перабольшу, калі скажу, што калі Беларусь пачне больш прыхільна ставіцца да іхняй творчасці /акадэмічная манаграфія «Беларускі габелен» абышла іх маўчаннем, хаця яны неаднаразова выстаўляліся ў Менску/, і адзін, і другі мастак зробяцца пачынальнікамі новай плыні — новай «беларуска-пецярбургскай» школы /двукоссе пастаўлена толькі таму, што такой школы пакуль не існуе, але аўтар не губляе надзеі, што яна некалі народзіцца/, — і тады адноўленае /ці лепей — новае!/ беларускае мастацтва пазбавіцца нарэшце брыдкаватага саманадзейнага «правінцыйнага» флёру, які шкодзіць не толькі добрым задумам, але і добрым мастакам, якія, бясспрэчна, маюцца на Беларусі.

І гэткая сітуацыя не толькі ў выяўленчым мастацтве. Колькі цікавейшых знаходак зрабілі ў СПб Язэп Янушкевіч ці, да прыкладу, Яўген Паплаўскі, пакарыстаўшыся толькі малой часткай тых каштоўнасцей, якія знаходзяцца ў СПб. А Мікола Нікалаеў, які адшукаў рукапіс вядомага святара Івана Грыгаровіча /рукапіс, які лічыўся страчаным/ і выдаў яго асобнай кніжкай? А Марыся Ткачэнка, якая вышуквае ў рэдкіх старажытных выданнях даўнейшыя беларускія гравюры?

Спіс гэты можна доўжыць і доўжыць, і ён не паменее з цягам часу, але, апроч колькасці, не трэба забываць і пра якасць. Якасць зробленага гэтымі людзьмі адпавядае найвышэйшым патрабаванням, адпавядае міжнароднаму ўзроўню, і не дзіўна, што дзейнасць гэтых асоб прызнана за мяжою, хіба толькі не ў межах Беларусі. Беларусь раўніва ставіцца да ўсяго, што прыходзіць звонку, за выключэннем, бадай, толькі палітыкі, і ў тым — адна з яе бедаў. Шляхетны гонар так і не здабытай незалежнасці не дазваляе Беларусі прызнаць той факт, што сыны яе, апынуўшыся ў якой-небудзь «правінцыі» /накшталт С-Пецярбурга/, даюць ёй больш, чымся яны далі б, знаходзячыся ў межах роднай старонкі, так дарагой сэрцу кожнага з іх.

І кожны з гэтых людзей, нават і не пералічаных тут, жыве з думкай пра Бацькаўшчыну і нясе ёй /з чыста беларускай стрыманасцю і сціпласцю/ тое, што паспеў стварыць на «чужыне». Ці не грэх Радзіме прыняць ад сваіх сыноў і дачок тое, што яны напрацавалі, тое, на што яны здатныя? Ці не варта паразумецца ўсім нам — і «блізкім», і «далёкім», — але ўсё адно — беларусам?

*г. Санкт-Пецярбург*

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

У адной краіне сельскай гаспадаркай кіравалі пастановамі — як сеяць, як жаць, як гадаваць жывёлу, як весці снегазатрыманне. Да пастаноў прывыклі, і калі сапсавалася машына, што іх выпускала, разгубіліся. Старыя не памяталі, як рабілі раней, маладых ніва не вабіла. Наверсе схамянуліся і запусцілі машыну прапаноў. Меркаванняў пра зямлю шмат, а сельская гаспадарка па-ранейшаму ў заняпадзе. Ніхто не ведае, як будзе далей, але ясна адно: у гэтай асобна ўзятай дзяржаве вёска сыходзіць з яснай явы.

●

— Дзе тут дзяржаўны прыватызаваны магазін? — усё пытаўся нейкі ліцвін.

— Ты, я бачу, крэцін, — адазваўся адзін, — адкуль у нас такі магазін? У сябе красці — мала шчасця, у дзяржавы — іншая справа, цяпер усе, што жывуць «на халяву», трымаюцца за дзяржаву, паварушы мазгамі, ліцвін, — нашто нам такі магазін!»

●

Падвёў таварыш Хрушчоў наіўных палешукоў. Угледзеў камунізм у сталіцы, і пінчукі, каб «отличиться», разбурылі вязніцу. Дасюль не ліквідаваны наступствы таго партыйнага глупства. У турме за горадам не хапае месц, а пінчукоў /о норавы/ не прымае Брэст. Узвялі б другую вязніцу, дык цяпер у модзе бажніцы, а ці вырашыць праблему чарговае «замест»? Яшчэ зрабілі прамашку, на месцы былой каталажкі пасадзілі пеніцылінавы завод, такі нарабілі смурод...

Пра што гэта апавяданне: пінчукі і іншыя гараджане, калі рушыце «до основания», дык думайце, што «затем».

●

Гісторыя амаль не знала бяскроўных рэвалюцый, культурныя былі...


# ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| Х.ДУНЕЦ | (1932-35) |
| І.ГУРСКІ | (1935-41) |
| А.КУЛЯШОЎ | (1945-46) |
| М.ГОРЦАЎ | (1947-49) |
| П.КАВАЛЁЎ | (1949-50) |
| В.ВІТКА | (1951-57) |
| М.ТКАЧОЎ | (1957-59) |
| Я.ШАРАХОЎСКІ | (1959-61) |
| Н.ПАШКЕВІЧ | (1961-69) |
| Л.ПРОКША | (1969-72) |
| Х.ЖЫЧКА | (1972-76) |
| А.АСІПЕНКА | (1976-80) |
| А.ЖУК | (1980-86) |
| А.ВЯРЦІНСКІ | (1986-90) |

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара -- 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.





Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Наклад 12.000. Нумар падпісаны 15.07.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12